WILLIAM · SHAKESPEARE

# HAMLET

TRAGEDY

PRINCE · OF · DANEMARK

Вільям Шэкспір

# Гамлет

трагедыя

прынц дацкі

# АСОБЫ

Клаўдзій — кароль Даніі.
Гамлет — сын ранейшага і пляменнік цяперашняга караля.
Фарцінбрас — прынц Нарвежскі.
Палоній — міністр двара.
Гарацыо — друг Гамлета.
Лаэрт — сын Палонія.

Вальціманд
Карнелій
Разенкранц
Гільдэнстэрн
Озрык
} прыдворныя.

Прыдворны.
Свяшчэннік.

Марцэл
Бернарда
} афіцэры.

Франціска — салдат.
Рэйнальда — слуга Палонія.
Акцёры.
Два блазны-магільшчыкі.
Капітан.
Англійскія паслы.

Гертруда — каралева Дацкая, маці Гамлета.
Афелія — дачка Палонія.

Вяльможы, дамы, афіцэры, салдаты, матросы, пасланцы і слугі.
Здань бацькі Гамлета.

Месца дзеі — Эльсінор.





## СЦЭНА I

Эльсінор. Пляцоўка перад замкам.
Франсіска на варце. Уваходзіць Бернарда.

Бернарда

Хто тут?

Франсіска

Адказвай першы; стой і адзавіся.

Бернарда

Няхай жыве кароль!

Франсіска

Бернарда?

Бернарда

Ён.

Францiска

Вы трапiлi у самую пару.

Бернарда

Прабiла поўнач. Спаць iдзi, Францiска.

Францiска

Удзячны за дазвол. Сабачы холад,
I нездаровiцца.

Бернарда

Усё спакойна?

Францiска

I мыш не перабегла.

Бернарда

Ну, дабранач;
Сустрэнуцца Гарацыо i Марцэл,
Скажы iм, каб iшлi хутчэй на варту.

Уваходзяць Гарацыо i Марцэл.

Францiска

Iдуць. Яны, здаецца. Стой! Хто там?

Гарацыо

Сыны айчыны.

Марцэл

Дацкiя васалы.

Франсіска

Дабранач вам усім.

Марцэл

Бывай, служака.
Хто заступіў?

Франсіска

Бернарда заступіў.
Дабранач.

Выходзіць.

Марцэл

Гэй, Бернарда!

Бернарда

Што, прыйшоў
Гарацыо?

Гарацыо

Адной нагою тут.

Бернарда

Здароў, Гарацыо! Здароў, Марцэл!

Гарацыо

Ну што, ізноў з'яўляўся гэты самы?

Бернарда

Не, не было.

М а р ц э л

Гарацыо гаворыць,
Што гэта выдумка. Не верыць ён,
Што два разы такі нам выпаў страх.
Вось я і запрасіў яго к нам нанач,
Каб ён пераканаўся. Калі зноў
Пакажацца жахлівы гэты прывід,
Хай паглядзіць і сам з ім пагаворыць.

Г а р а ц ы о

Ну, глупства! Не пакажацца.

Б е р н а р д а

Прысядзем,
І будзем твае вушы штурмаваць,
Бо ты глухі да нашага расказа.
Дык вось, дзве ночы ўзапар...

Г а р а ц ы о

Добра, сядзем,
Паслухаем, што нам Бернарда скажа.

Б е р н а р д а

У тую ноч, калі вунь тая зорка,
Каторая ад полюса на захад,
Нябесным шляхам адышла туды,
Дзе зараз свеціцца, Марцэл і я,
Як толькі празваніла — раз!..

М а р ц э л

Маўчы! Глядзі, ён зноў ідзе сюды!

Уваходзіць з д а н ь.

Б е р н а р д а

Якраз такі, як наш кароль-нябожчык.

М а р ц э л

Гарацыо, ты — вучоны, гавары.

Б е р н а р д а

Якраз як наш кароль. Заўваж, Гарацыо.

Г а р а ц ы о

Падобен вельмі. Дзіўна мне і страшна.

Б е р н а р д а

Ён слоў чакае.

М а р ц э л

Гавары, Гарацыо.

Г а р а ц ы о

Хто ты, што заўладаў парою гэтай
І постаццю прыгожа-ваяўнічай
Старога караля краіны дацкай?
Я небам заклінаю, гавары.

М а р ц э л

Пакрыўдзіўся.

Б е р н а р д а

Глядзі, пайшоў назад.

Г а р а ц ы о

Стой, гавары, я небам заклінаю.

З д а н ь выходзіць.

М а р ц э л

Пайшоў і не адказвае нічога.

Б е р н а р д а

Ну як, Гарацыо? Збялеў, дрыжыш?
Што — выдумка, ці, можа, трошкі болей?
Як думаеш?

Г а р а ц ы о

Ніколі б не паверыў,
Калі б не бачыў сам на свае вочы.

М а р ц э л

Жывы кароль-нябожчык.

Г а р а ц ы о

Акурат;
Такія ж самыя на ім даспехі,
Як і ў той дзень, калі ён біў Нарвежца,
І так жа бровы хмурыць, як тады,
Калі ён вывернуў з саней Паляка.
Так, дзіўна!

М а р ц э л

Вось гэтак два разы ў глухую ноч
Праходзіў ён, узброены, паўз варту.

Г а р а ц ы о

Дакладна растлумачыць не магу,
Але, наогул, думаю, што будзе
Вялікая ў дзяржаве перамена.

Марцэл

Давайце сядзем. Ці не скажа хто,
Нашто такая пільнасць? Кожну ноч
Пакутуюць падданыя на варце,
І кожны дзень ліюць гарматы з медзі,
Купляюць узбраенне за мяжой,
А карабельнікаў нагналі колькі! —
Працуюць так: ні свята ім, ні будняў.
Што мае быць? Такая ўсюды спешка,—
І дзень і ноч людскім абліты потам.
Ну, хто адкажа мне?

Гарацыо

Я адкажу;
Такое чуў я: наш кароль-нябожчык,
Той самы, што нам толькі што з'яўляўся,
Быў, як вядома, выклікан на бойку
Нарвежскім задавакам Фарцінбрасам;
І наш адважны Гамлет (за адвагу
Яго шануе ўся наша краіна)
У бойцы Фарцінбраса закалоў;
А мелася умова пры пячаці,
Пацверджаная гербам і законам,
Што, калі ён памрэ, яго зямля
У спадчыну да Гамлета пяройдзе;
Таксама і сваёй зямлі часціну
Кароль наш залажыў для Фарцінбраса,
Калі б адолеў той. Паводле ўмовы
Зямлю ўзяў Гамлет. Але ж, трэба ведаць,
Малодшы Фарцінбрас, запалу поўны,
Навербаваў гуляшчых малайцоў

За голы харч, абы была прыгода
(Дзяржаве нашай добра ўсё вядома),
І пачынаць збіраецца вайну,
Каб адхапіць ад нас зямліцу тую,
З якою прагарэў ягоны бацька.
І гэта ёсць галоўная прычына
Усіх турбот і варты надзвычайнай,
Аснова ўсіх асноў: і спешкі гэтай,
І ўсёй трывогі ў нашым каралеўстве.

Бернарда

Я думаю, што так яно і будзе;
Напэўна, гэта жудасная здань
Не без прычыны ходзіць каля замка.
Кароль-нябожчык нам прарочыць войны.

Гарацыо

Начны матыль, каб затлуміць нам розум.
У добрыя шчаслівыя дні Рыма,
Незадаўга да Цэзаравай смерці,
Раскрыліся магілы, паўставалі
І сталі выць на плошчах мерцвякі,
З'явіліся хвастатыя каметы,
Закапала крывавая раса,
Счарнела сонца, і вільготны месяц,
Нептунавай дзяржавы уладар,
Зацьміўся, як перад скančэннем свету.
Бяда ідзе. Жахлівыя прыметы,
Як пасланцы, што абганяюць лёс
І папярэджваюць аб небяспецы,
Нам яўлены і небам і зямлёй.

Здань вяртаецца.

Цішэй! Глядзіце! Вось ізноў ён тут.
Хай губіць, затрымаю. Стой, наява!
Калі ты маеш мову, маеш голас,—
Адказвай мне!
Калі учынак ёсць такі, што можа
Табе палёгку даць, а мне збавенне,—
Адказвай мне!
Калі табе вядомы лёс краіны,
І ёсць магчымасць адхіліць няшчасце,—
Адказвай!
А можа, пры жыцці хаваў ты скарбы,
Няпраўдаю здабытыя, бо, кажуць,
Душа тады блукае. Гавары!

Спявае певень.

Стой! Гавары! Спыні яго, Марцэл.

Марцэл

Хіба яго ударыць алебардай?

Гарацыо

Дай так, каб стаў.

Бернарда

Ён тут!

Гарацыо

Ён тут.

Здань выходзіць.

Марцэл

Пайшоў;
Абразілі. Ён гэтакі паважны,
А мы напалі, нарабілі гвалту.

Ці біць паветра, ці яго — ўсё роўна;
Удары нашыя — дарэмны здзек.

Бернарда

Ён гаварыў бы, але крыкнуў певень.

Гарацыо

І ён затросся, нібы той злачынец
Пры страшным поклічы. Я чуў, што певень,
Трубач світання, будзіць бога дня
Сваёю звонкай, галасістай песняй;
І ўсякая блукаючая здань,
Што у вадзе, ў агні, ў зямлі, ў паветры,
Пры гэтым напамінку уцякае,
І гэта праўда: вось вам яўны доказ.

Марцэл

Як певень заспяваў, ён знік адразу.
Гавораць людзі, што ў калядны вечар,
Пад самае Хрыстова нараджэнне,
Пявун світання проста не сціхае;
Тады і здань сядзіць, ані кранецца,
І ноч здаровая, і добрыя планеты,
Не ловіць фея, ведзьма не чаруе,—
Такі святы, такі выдатны час.

Гарацыо

Я гэта чуў, даю часткова веры.
А вось і золак у плашчы пурпурным
Выходзіць на расістыя узвышшы.
Пакінем варту, і, мяркую так,
Патрэбна, каб прынц Гамлет знаў аб тым,

Што бачылі мы ўночы; прысягаю,
Што гэты дух нямы з ім загаворыць.
Ці згодны вы ўсё расказаць яму,
Як раяць нам любоў і абавязак?

М а р ц э л

Так, так, прашу. Ідзіце ўсе за мною,
Я ведаю, дзе ён бывае ўранні.

Выходзяць.



## С Ц Э Н А II

Парадны пакой у замку.
Трубы. Уваходзяць к а р о л ь, к а р а л е в а, Г а м л е т, П а л о н і й, Л а э р т, В а л ь ц і м а н д, К а р н е л і й, в я л ь м о ж ы і с в і т а.

К а р о л ь

Хаця нябожчык Гамлет, любы брат наш,
Пакінуў нас нядаўна, і нам след
Яшчэ трымаць у сэрцы нашым смутак,
Аплакваць прах яго ўсім каралеўствам,

Аднак наш розум перамог прыроду;
У мудрым горы спалучылі мы
І памяць брата і свае патрэбы:
Мы нашую сястру і каралеву,
Наследніцу дзяржавы ваяўнічай,
У радасці, разбаўленай маркотай,
І смех і слёзы сумясціўшы разам.
Хаўтуры і вяселле аб'яднаўшы,
Каб пораўну было таго й таго,
Ўзялі за жонку. Не хацелі ў гэтым
Пярэчыць вашай мудрасці, якая
Дапамагала нам у справе нашай.
За ўсё падзяка наша. А цяпер:
Як вам вядома, Фарцінбрас малодшы,
Не уважаючы на нашу годнасць
Альбо мяркуючы, што калі нас
Пакінуў любы брат наш, дык ужо
Ў дзяржаве нашай і няма парадку,
Кіруемы карысным летуценнем,
Адважыўся лістамі нас трывожыць
З хадайніцтвам звароту ўсіх зямель,
Законна страчаных ягоным бацькам
І нам прыдбаных нашым любым братам.
Вось гэта пра яго. Цяпер пра нас
І пра нараду нашу. Справа ў тым,
Што намі ўжо учынена пасланне
Нарвежцу, Фарцінбрасаваму дзядзьку:
Ён ледзь жывы, наўрад ці ён дачуўся
Аб замыслах пляменніка; мы пішам,
Каб ён суняў яго далейшы наступ
І абіранне дзядзькавых васалаў
Падаткамі, вярбоўкай войск ды іншым;

I даручаем мы табе, Карнелій,
І Вальціманду перадаць прывет наш
Старому каралю Нарвежцу; мы
Абмежавалі вашую уладу
Дакладна пунктамі ў пасланні нашым.
Дык едзьце ў добры час. Да пабачэння.
Спяшайцеся явіць сваю услужнасць.

Карнелій і Вальціманд

Ва ўсім гатовы праявіць услужнасць.

Кароль

Не сумняваемся. Да пабачэння.

Вальціманд і Карнелій выходзяць.

А ты, Лаэрт, з навінамі якімі?
Ты нас прасіць хацеў, якая просьба?
Разумнае хадайніцтва Лаэрта
Паслухаем. Чаго б ты ні жадаў,
Тваё жаданне стрэне нашу ласку,—
І сэрца галаве радней не будзе,
Не будуць рукі паслухмяней вуснам,
Як дацкі трон Лаэртаваму бацьку.
Чаго жадаеш?

Лаэрт

Грозны мой кароль,
Дазвольце мне у Францыю вярнуцца.
Па добрай волі я сюды прыехаў
На вашу каранацыю і я
Свой абавязак выканаў, і вось
Мае жаданні зноў назад імкнуцца
У Францыю, калі на тое ласка.

Кароль

А бацька даў дазвол? Скажы, Палоній.

Палоній

О мой кароль, ён вырваў мой дазвол
Упартым намаганнем, і, нарэшце,
Я адпусціў, хаця і неахвотна.
Калі дазволіце, няхай ён едзе.

Кароль

Ну што ж, Лаэрт, выкарыстоўвай час:
Твая пара — лаві, лаві уцехі.
А ты, сваяк мой Гамлет, любы сыне?

Гамлет *(убок)*

Сваяк, але не сын.

Кароль

О любы сыне,
Ты ўсё яшчэ, як хмара ў небе нашым.

Гамлет

Няпраўда, сонца свеціць,— люба, сіне.

Каралева

Мой мілы Гамлет, скінь свой чорны колер,
Са шчырасцю зірні на караля.
І не пытай, павекі апусціўшы,
Куды сышоў, куды падзеўся бацька.
Ты ведаеш, такая наша доля:
Жывое ўсё, нарэшце, памірае,
Цераз прыроду ў вечнасць адлятае.

Г а м л е т

Так, рэч звычайная.

К а р а л е в а

А калі так,
То што табе здаецца незвычайным?

Г а м л е т

Здаецца? Не, так ёсць. Не прызнаю
Я гэтага «здаецца». Маці, маці!
Ні чорны плашч, ні мой убор жалобны,
Ні уздыханне цяжкае з грудзей,
Ні рэкі слёз, ні сумнае аблічча,
Ніякі знак, ніякі доказ гора
Мяне не выявяць. Здаецца той,
Хто ўмее прытварацца, хто няшчыры.
У сэрцы праўда, праўда не відна,
А іншае ўсё — выгляд і мана.

К а р о л ь

Пахвальна, Гамлет, і прыемна чуць,
Што ты свайго шкадуеш гэтак бацьку.
Але павінен ведаць, што твой бацька
Таксама страціў бацьку, той — таксама.
Ну, а жывы, як гэта і належыць,
Як вымагае абавязак роду,
Галосіць нейкі час на пахаванні.
Але зацяжны смутак ёсць упартасць,
Ёсць непабожны і нялюдскі смутак,
Знявага небу, розуму буянства,
І сведчыць ён аб маласільным сэрцы,

Незагартованым і непрактычным.
Мы ведаем, што так было і будзе,—
Такі парадак рэчаў. Дык навошта
Упартым быць, усё прымаць да сэрца?
О, нельга так! — злачынства перад небам,
Перад нябожчыкам, перад прыродай
І перад розумам, які гаворыць,
Даказвае, што смерць — гэта звычайнасць,
І ад Адама да апошніх дзён
Так ёсць і будзе так. Мы прапануем
Спыніць дарэмны смутак і прызнаць
Нас родным бацькам. Хай жа бачаць людзі,
Што ты да трона нашага найбліжшы.
І я не менш выдатнаю любоўю,
Чым самы дарагі на свеце бацька,
Цябе узрадую. А твой намер
Паехаць зноў вучыцца ў Вітэнберг
Жаданню нашаму праціўны цалкам.
Мы просім, мы настойваем пяшчотна:
Застанься з намі у выгодах нашых,
Наш улюбёнец, наш сваяк і сын.

Каралева

Будзь ласкаў, Гамлет, заставайся тут,
Не едзь у Вітэнберг, паслухай маці.

Гамлет

Вас, маці, я паслухаю ахвотна.

Кароль

Прыемна чуць такі адказ сардэчны.
Дык будзь у Даніі, як дома; будзь,

Як мы. Хадзем, Гертруда. Сын наш Гамлет
Уцешыў наша сэрца шчырай згодай,
І ў гонар гэтага патрэбна выпіць.
Як будзем піць, то каб з гармат стралялі,
Каб наша каралеўскае здароўе
Дайшло да неба і грымела. Пойдзем.

Трубы. Выходзяць усе, апроч Гамлета.

Гамлет

О, растаўчы б крутое цела гэта,
Разбіць ушчэнт, рассыпаць, як расу!
Чаму нам забаронена спрадвечным
Дарога самагубства? Божа, божа!
Якім пустым, і нудным, і нікчэмным
Здаецца мне парадак свету. Дрэнь!
Брыдота! Гэта — дзікі сад, які
Расце у корань, плодзіць пустазелле,
І толькі. Каб да гэтага дайсці!
Два месяцы, як ён памёр! — не,— меней,
Не будзе двух. Такі кароль выдатны,—
Гіперыён, а гэта хто? — сатыр.
А як любіў ён маці! — нават ветру
Не дазваляў ён твар яе абвеяць.
Ці варта ўспамінаць? Зямля і неба!
Яна ж яго больш за жыццё кахала,
Жыла яго каханнем. А праз месяц? —
Падумаць страшна, толькі месяц! Слабасць
Тваё імя, жанчына! Не паспела
Стаптаць і чаравікаў, у якіх
Ішла на могілкі, як Ніабея,
Заліўшыся слязьмі, а ўжо яна,—
О неба! — нават неразумны звер

Даўжэй бы гараваў,— а ўжо яна
Выходзіць замуж, за каго? — за дзядзьку,
За бацькавага брата, што падобен
На бацьку так, як я на Геркулеса.
Няпоўны месяц! Не паспела ёй
Раз'есці вочы соль фальшывых слёз,
Як замужам. Што за паскудны спрыт
Хутчэй валіцца на нячысты ложак!
Не будзе з гэтага дабра, не будзе.
Прыціхні, сэрца; анямей, язык.

Уваходзяць Гарацыо, Бернарда і Марцэл.

Гарацыо

Вітанне, прынц!

Гамлет

Я вельмі рад вас бачыць.
Гарацыо! Каб я так жыў, Гарацыо!

Гарацыо

Але, мой прынц, і бедны ваш слуга.

Гамлет

Ты — бедны, але ты — мой лепшы друг.
Чаго ты тут, чаму не ў Вітэнбергу? —
Марцэл?

Марцэл

Мой добры прынц...

Гамлет

Я вельмі рад вас бачыць. *(Да Бернарда.)* Добры
вечар! —
Дык, сапраўды, чаму не ў Вітэнбергу?

Гарацыо

Бо я гультай і валацуга, прынц.

Гамлет

Ну, гэтага і вораг не сказаў бы,
Ты мне абразіў вушы. Не люблю
Паклёпаў і хлусні! — ты не гультай.
Але чаго ты тут у Эльсіноры?
Хіба мо піць прыехаў падвучыцца?

Гарацыо

Мой прынц, прыехаў я на пахаванне.

Гамлет

Будзь ласкаў, не жартуй, студэнт-таварыш,
Ты, як відаць, прыехаў на вяселле.

Гарацыо

Але, мой прынц,— так нечакана выйшла.

Гамлет

Інтэрас, друг Гарацыо, інтэрас!
Бо тое, што з памінак засталося,
Даесці трэба было,— вось і шлюб.
Няхай бы лепш мой вораг, самы люты,
Убачыў рай, чым я той дзень, Гарацыо!
Мой бацька, бацька мой, ён тут, ён тут.

Гарацыо

Дзе, прынц?

Гамлет

Са мною, у душы, Гарацыо.

Гарацыо

Калісьці бачыў; добры быў кароль.

Гамлет

Ён чалавек быў, чалавек ва ўсім,—
Такі мне не сустрэнецца ніколі.

Гарацыо

Мой прынц, сягоння ўночы ён прыходзіў.

Гамлет

Прыходзіў? Хто?

Гарацыо

Мой прынц, кароль, ваш бацька.

Гамлет

Кароль, мой бацька?

Гарацыо

Прашу вас, не дзівіцеся. Уважна
Праслухайце, што я вам раскажу.
Бяру за сведак гэтых афіцэраў,
Мы бачылі...

Гамлет

Хутчэй, хутчэй як можаш.

Гарацыо

Ужо дзве ночы гэтым афіцэрам,
Марцэлу і Бернарда, ў час іх варты,
Папоўначы, у вусцішы магільнай
З'яўляўся прывід. Нехта, як ваш бацька,
Узброены ад галавы да ног,
З'яўляецца раптоўна перад імі,
Праходзіць урачыста і павольна,
Праходзіць тры разы перад вачамі,
Звыш меры здзіўленымі, і так блізка,
Што ледзь іх не крануў сваім жазлом;
Яны ж, пахаладзелыя ад страху,
Трасуцца, нібы студзень, і маўчаць;
Пра гэта дзіва пад сакрэтам строгім
Яны сказалі мне. На трэцю ноч
Я сам стаяў на варце разам з імі:
І вось у тую ж самую пару,
Дакладна так, як мне пераказалі,
Выходзіць здань. Мне памятны ваш бацька:
Як дзве рукі адна адной да пары,
Так і яны.

Гамлет

А дзе гэта было?

Марцэл

Прынц, на пляцоўцы, там, дзе мы вартуем.

Гамлет

Вы з ім не гаварылі?

Г а р а ц ы о

Гаварыў,
Але ж ён мне не адказаў нічога;
Быў нешта раз ускінуў галаву,
Нібы хацеў, а тут як певень крыкне,—
Прапала ўсё, пабег, як апантаны,
І знік з вачэй.

Г а м л е т

Дзіўна, вельмі дзіўна.

Г а р а ц ы о

Паверце, прынц, не манім і не хлусім;
І мы лічылі нашым абавязкам
Паведаміць вам аб усім.

Г а м л е т

Так, так; але ўсё гэта непакоіць.
Вы будзеце на варце ўночы?

У с е

Будзем, прынц.

Г а м л е т

Узброен, кажаце?

У с е

Узброен, прынц.

Г а м л е т

Ад галавы да ног?

У с е

Ну, як абліты.

Г а м л е т

А твар вы бачылі?

Г а р а ц ы о

Вядома, прынц; —
Шалом быў без забрала.

Г а м л е т

Ён быў хмурны?

Г а р а ц ы о

Хутчэй здаваўся сумным, чым сярдзітым.

Г а м л е т

Быў бледны ці чырвоны?

Г а р а ц ы о

Вельмі бледны.

Г а м л е т

І пазіраў на вас?

Г а р а ц ы о

Надзвычай пільна.

Г а м л е т

Шкада, што не было мяне пры гэтым.

Г а р а ц ы о

О, вы б зжахнуліся.

Г а м л е т

Магчыма,
Магчыма. Доўга быў?

Гарацыо

А так: лічыць,
То, не спяшаючыся, будзе сотня.

Марцэл і Бернарда

Даўжэй, даўжэй.

Гарацыо

Як я быў, то якраз.

Гамлет

А барада сівая?

Гарацыо

Такая самая, як пры жыцці:
Як собаль, чорная і з серабром.

Гамлет

Я буду вартаваць у гэту ноч;
Ён, можа, прыйдзе.

Гарацыо

Так, напэўна прыйдзе.

Гамлет

Калі ён будзе ў бацькавым абліччы,
Я з ім загавару, хаця б і пекла,
Разявіўшыся, пагражала мне.
Я вас прашу, калі дагэтуль вы
Нікому не казалі пра здарэнне,
Дык і далей — маўчанне перш за ўсё;
І што б ні адбылося ў гэту ноч,—

Шукайце сэнсу, прэч ад языка.
Я вам аддзякую за ўсё. Бывайце.
Там на пляцоўцы я сустрэну вас
Каля дванаццатай.

Усе

Прыміце доўг.

Гамлет

Прыму любоў, а вы маю. Бывайце!

Гарацыо, Марцэл і Бернарда выходзяць.

Дух бацькі ў зброі! — гэта не к дабру.
Тут нешта ёсць. Не дачакацца ночы!
Цярпі, душа; злачынства гляне ў вочы,
Хоць бы на ім ляжала ўся зямля.

Выходзіць.



## СЦЭНА III

Пакой у доме Палонія.
Уваходзяць Лаэрт і Афелія.

Лаэрт

Ну, рэчы ўжо мае на караблі;
Бывай, Афелія, бывай, сястра!
Калі ў мой бок павее вецер,— ты
Не спі, дай вестачку.

Афелія

Ты мне не верыш?

Лаэрт

А Гамлет і яго прыхільнасць — гэта
Капрыз гуляшчы, жыўчыкі ў крыві,
Фіялка, што цвіце вясною ранняй,
Салодкая, нясталая, слабая:
Прыемны пах, забава на хвіліну —
І толькі.

Афелія

Толькі, і не болей?

Лаэрт

Не.
Прырода ў нас расце не толькі ў цела,
Не толькі ў сілу, але ў гэтым храме
Ўзрастае веліч розуму і духу.
Магчыма, што цябе ён і кахае,
Магчыма, што яшчэ ні бруд, ні хітрасць

Не пляміць чыстаты яго жаданняў;
Але, сястра, узваж яго вялікасць
І бойся, бо ў жаданнях ён нявольны.
Ён звязаны паходжаннем сваім:
Не можа ён, як просты чалавек,
Быць сам сабой, ад выбару яго
Залежыць дабрабыт усёй дзяржавы,—
Таму ён мусіць узгадняць свой выбар
З патрэбамі і меркаваннем іншых,
Паколькі ён дзяржавы галава.
Калі ён кажа, што цябе кахае,—
Разумнай будзь, не вер яму занадта,
Пакуль не дасць ён доказаў на справе
І не заручыцца грамадскай думкай;
Уся Данія павінна сцвердзіць гэта.
Дык вось, узваж, наколькі абняславіш
Свой гонар ты, калі наставіш вуха,
Заслухаешся песень, страціш сэрца,
Калі ты чыстае сваё дзявоцтва
Распусным намаганням аддасі.
Дык сцеражыся, любая сястра,
Афелія, сястрыца, сцеражыся!
Далей ад небяспечнага кахання,
Каб не забіў цябе яго пярун.
Дзяўчына скромная красу сваю
І месяцу паказваць не павінна;
Ад нагавору не ўцячэ ніхто.
Чарвяк любуе часта квет маёвы
Яшчэ ў бутоне, з асяродка точыць;
На маладыя росы пошасць падка.
Трымайся! Страх — ратунак для жанчыны;
Бушуе маладосць і без прычыны.

Афелія

Тваю навуку я прыстаўлю, братка,
Вартаўнікам да сэрца. Толькі ты
Не будзь і сам, як той двудушны пастыр,
Што раіць нам ісці цярністым шляхам,
А сам, як фанабэрысты свавольнік,
Бяжыць хутчэй на сцежку асалоды,
Забыўшыся на тое, што казаў.
Мой братка родненькі!..

Лаэрт

Не клапаціся.
Ну, я забавіўся. Прыйшоў наш бацька.

Уваходзіць Палоній.

Благаславён благаславёны двойчы,—
Благаславіце, тата, яшчэ раз!

Палоній

Ты тут, Лаэрт? Хутчэй на карабель!
На плечы ветразей уссеўся вецер,
Цябе чакаюць. Дык благаслаўляю.

Кладзе руку на галаву Лаэрту.

І памятай, табе мой запавет:
Захоўвай думку, стрымлівай язык
І не рабі таго, чаго не трэба;
Ласкавы будзь, але не панібрацтвуй:
З кім хочаш падружыцца — правярай,
А як праверыш — прыбяры да рук;
І не заводзь хаўрусу з першым стрэчным;
Не задзірайся, а калі задраўся,

То спуску не давай, каб вораг знаў;
Прыслухвайся, што кажуць,— сам маўчы;
З людзьмі згаджайся, але думку май;
Спраўляй адзенне добрае, такое,
Каб і багата і не лезла ў вочы,
Бо па адзенню судзяць чалавека,—
Французскія вяльможы і паны
Занадта пераборлівыя ў гэтым.
Сам не бяры, другому не давай:
Хто пазычае, той сяброў губляе,
А хто бярэ, той дрэнны гаспадар.
Галоўнае ж: будзь верным сам сабе,—
Тады, як дзень ідзе за ноччу следам,
Ты і другім ніколі не сфальшывіш.
Ну, дык плыві з маім благаславеннем
І памятай наказ.

Лаэрт

Бывайце, тата!

Паланій

Пара, пара. Цябе чакаюць слугі.

Лаэрт

Бывай, Афелія, не забывай
Таго, што я сказаў.

Афелія

Замкнута ў сэрцы,
А ключ ты ў мора павязеш з сабою.

Лаэрт

Бывай!

Выходзіць.

П а л о н і й

Афелія, што ён сказаў табе?

А ф е л і я

Ён, з вашай ласкі, гаварыў аб прынцу.

П а л о н і й

Аб Гамлеце? Якраз дарэчы гэта;
Бо маю весткі, што апошнім часам
У вас былі таемныя спатканні,
І ты яму давала вольны доступ.
А калі так (а мне ўсё даказалі
Ў парадку асцярогі), то павінен
Табе заўважыць,— ты не разумееш
Дакладна, хто ты, і чыя дачка ты,
І чый ты маеш гонар. Што у вас?
Прызнайся зараз жа.

А ф е л і я

Ён, мілы татка,
Дарыў мне знакі шчырасці сардэчнай.

П а л о н і й

Ах, ах, ах, шчырасць! — Ты зусім дурная,
Не маеш практыкі ў такіх выпадках.
Як ты назвала? Знакі? І ты верыш?

А ф е л і я

Не ведаю, што думаць, мілы татка.

П а л о н і й

Ну, то я навучу. Стань тут і думай,
Што ты дзіця малое. Знакі — цацкі.

Знак — не чырвонец, вось што я адзначу.
Не прадавайся танна, бо тады
(Хоць я і злоўжываю гэтым словам)
Адзначыш ты мяне за дурня.

Афелія

Ён спосаб выказаў зусім прыстойны.

Паланій

Ну, спосаб гэта так,— хай будзе так.

Афелія

Ён прысягаў, што ён мяне кахае,
Ён браў за сведку неба.

Паланій

Сіло для смачных птушак. Знаю сам.
Калі бунтуе кроў, тады язык
На абяцанкі шчодры. Гэты пал,
Які дае больш бляску, чым цяпла,
Як хутка выбухне, так хутка згасне,—
Дык не лічы яго агнём, дачушка.
З сягонняшняга дня — ашчаднай будзь,
Не раскідайся так сваім дзявоцтвам.
Кампанію сваю цані вышэй,
Чым танныя спатканні з ім па просьбе.
Прынц Гамлет, перш за ўсё, ён — малады,
Прывязан на даўжэйшую вяроўку,
А ты — дзяўчына: не табе гуляць.
І ты не вер яму, не вер прысягам:
Прысягі — зман, нафарбаваны зверху,—
Грахоўных спраў няўрымслівы пасрэднік,

Які гучыць, як чыстая малітва,
Каб лепей абдурыць. Ну вось, нарэшце,
Я гавару,— з сягонняшняга дня
Раз назаўсёды,— прыпыніць гулянкі,
Размоў не весці з Гамлетам. Ты чуеш?
Я патрабую! Ну, ідзі сабе.

Афелія

Пакорна слухаюся, мілы татка.

Выходзіць.



## СЦЭНА IV

Пляцоўка.
Уваходзяць Гамлет, Гарацыо і Марцэл.

Гамлет

Паветра золкае. Ну і мароз!

Гарацыо

Кусаецца, аж рукі дубянеюць.

Гамлет

Каторая гадзіна?

Гарацыо

Скора поўнач.

Марцэл

Прабіла ўжо.

Гарацыо

Ужо? А я не чуў.
Час блізіцца, калі прыходзіць здань.

Трубныя гукі і стрэлы з гармат за сцэнай.

Што гэта значыць, прынц?

Гамлет

Кароль банкет спраўляе на ўсю ноч,
Танцуе і віншуе сам сябе;
Калі рэйнвейну келіх апарожніць,
У трубы трубяць і ў літаўры б'юць,
Каб ведалі, што ён умее выпіць.

Гарацыо

Такі парадак?

Гамлет

Так, усё ў парадку.
Але я думаю,— хоць я тутэйшы,
І мог бы прызвычаіцца,— аднак,
Яго лепш адмяніць, чым захаваць.
За хмель і гульбішчы на ўсход і захад
Мы страцілі павагу між народаў;
За п'яніц лічаць нас і дадаюць
Да нашых прозвішч свінскія мянушкі,—
І, сапраўды, ад нашых лепшых спраў

Ніякага не застанецца следу.
Здараецца так часта з чалавекам,
Калі ў ім ёсць прыродная загана
(Не па яго віне, бо, як вядома,
Істота не шукае, дзе радзіцца),
Ну, тэмперамент перайшоў у крайнасць
І загарадкі розуму ламае,
Альбо прынаравіўся да такога,
Што рэзка падымаецца над нормай,—
Такога чалавека, я ж кажу,
Хаця б ён меў адну ўсяго загану,
Натура ўжо такая ці удача,
Нягледзячы на ўсе яго заслугі,
На ўсе яго дадатныя бакі,—
Асудзяць, перасудзяць, абнясславяць
За гэты недахоп. І лыжка дзёгцю
У бочцы мёду робіць мёд нясмачным.
О, ганьба, ганьба!

Уваходзіць з д а н ь.

Г а р а ц ы о

Прынц, глядзіце,— ён!

Г а м л е т

Ратуйце нас, о серафімы неба!
Хто б ты ні быў: ці светлы дух, ці чорт,
Ці з райскім спевам, ці з пякельным енкам,
З намерам літасці ці утрапення,—
Выходзіш ты у вобразе даступным,
І я скажу табе. Я клічу: Гамлет,
Кароль, Датчанін, бацька, дай адповедзь!

Адказвай мне, ў няведанні не муч,
Чаму твае пахаваныя косці
Магільны саван разадралі раптам?
Чаму той помнік, пад якім ляжаў ты,
Раскрыў свой цяжкі мармуровы зеў
І выкінуў цябе наверх яшчэ раз?
Як разумець, што ты, мярцвяк, ізноў
Пад месяцам блукаеш у жалезе
І страшыш ноч, а нам, прыроды блазнам,
Жахліва ўзрушваеш істоту думкай,
Якая па-за межамі душы?
Скажы, чаму? Навошта? Што рабіць нам?

Гарацыо

Ён знак дае, каб вы ішлі за ім,
Нібы жадае нешта растлумачыць
Вам аднаму.

Марцэл

Глядзіце, як ласкава
Ківае вам і вабіць за сабой.
Не йдзіце з ім.

Гарацыо

Не, не, ні ў якім разе.

Гамлет

Ён не гаворыць. Я пайду за ім.

Гарацыо

Не трэба, прынц.

Гамлет

Чаму? Чаго баяцца?
Я не цаню свайго жыцця ні ў грош,
Душы ж маёй нічога ён не зробіць,
Бо смерці ёй няма, як і яму.
Ён заклікае — я іду, іду.

Гарацыо

А калі ён укіне вас у мора
Альбо ўзвядзе на стромкую скалу,
Што грозна па-над хвалямі навісла,
І там, прыняўшы новы страшны выгляд,
Паўстане раптам і кране ваш розум,
Угоніць у вар'яцтва,— што тады?
Там сам сабою родзіцца адчай,
Даволі толькі паглядзець у мора
З высокай кручы, як шуміць яно,
Раве і пырскае.

Гамлет

Ён кліча зноў,—
Ідзі, я за табою.

Марцэл

О прынц, мы не дазволім.

Гамлет

Рукі прэч!

Гарацыо

Што робіце?

Гамлет

Мой лёс мяне паклікаў,
І цела поўніцца маё адвагай
І сілы прыбываюць, як у льва.

Здань вабіць.

Ён кліча зноў. Прэч рукі! — Бо, клянуся *(вырываючыся)*,
Той стане ценем сам, хто мне пашкодзіць.
Кажу вам, прэч! — Ідзі, я за табою.

Здань і Гамлет выходзяць.

Гарацыо

Ён ашуканы ўласным уяўленнем.

Марцэл

Хадзем за ім; нам нельга заставацца.

Гарацыо

За ім услед.— Чым скончыцца ўсё гэта?

Марцэл

Гніль завялася ў дацкім каралеўстве.

Гарацыо

Кіруе неба.

Марцэл

Лепш давайце пойдзем.

Выходзяць.

### СЦЭНА V

Другі бок пляцоўкі.
Уваходзяць з д а н ь і Г а м л е т.

Г а м л е т

Куды вядзеш? Далей я не пайду.

З д а н ь

Зважай!

Г а м л е т

Я слухаю.

З д а н ь

О, хутка, хутка
Надыдзе час, калі ў агонь пякельны
Я акунуся.

Г а м л е т

О няшчасны дух!

З д а н ь

Не спачувай, а выслухай уважна,
Што я табе адкрыю.

Г а м л е т

Гавары.

З д а н ь

І ты адпомсціш, калі ты пачуеш.

Г а м л е т

Што?

З д а н ь

Я твайго бацькі дух,
Асуджаны уночы на блуканне,

А днём датуль у полымі палаць,
Пакуль зямныя ўсе мае злачынствы
Не выгараць, не выйдуць з мяне вон.
Каб мне не забаронена было
Апавяшчаць аб тайнах таго свету,
Я б расказаў табе такія страхі,
Што разадралася б душа твая,
Замерзла б маладая кроў твая
І вочы, павылазіўшы з вачніц,
Упалі б і разбіліся, як знічкі;
І кожны волас стаў бы паасобку,
Як іглы на ўсшалелым дзікабразе,—
Але явіць адвечнае мне нельга
Вушам з крыві і мяса. Слухай, слухай,
О, слухай, калі бацьку ты любіў!

Гамлет

О божа!

Здань

І ты адпомсціш за яго забойства.

Гамлет

Забойства?

Здань

Нялюдскае і подлае забойства,
Такое подлае, якіх няма.

Гамлет

Хутчэй кажы пра ўсё, каб я на крылах,
Як думка шпаркіх, як любоў імклівых,
Ўзляцеў да помсты.

Здань

Бачу, ты гатовы;
Ты б вялы быў, як тое пустазелле,
Што дагнівае каля рэчкі Леты,
Калі б не страсянуўся ў бурным гневе.
Дык слухай, Гамлет: ходзіць пагалоска,
Што соннага мяне аднойчы ў садзе
Змяя ўкусіла,— перадчасны скон мой
Ад Даніі укрыты ашуканствам.
Дык ведай, верны сын мой: люты змей,
Каторы укусіў мяне насмерць,
Цяпер надзеў маю карону.

Гамлет

Дзядзька!
Мая душа, ты прадчувала ўсё.

Здань

Так, гэты хцівы звер і чужаложнік
Вядзьмарства досціпам, умельствам здрады
(О подлы досціп, подлае умельства
Так спакушаць!) дабіўся лёгкай згоды
Ад жонкі ад маёй — ад каралевы,
Такое недачэпнае на выгляд.
О Гамлет, Гамлет, як яна упала!
Калі ішлі мы з ёю пад вянец,
Я слова даў і я трымаўся слова,
Я так кахаў яе,— яна ж, яна
Распусніку ліхому аддалася,
Што нават і нагі маёй не варты.
Ты чэснае жанчыны не звядзеш,
Хоць за святога пераапраніся;

Ну, а блудніцы,— дай анёла ў пару,
Дай шчасце, то ўсё роўна не дацерпіць,—
Захоча падлы.
Але цішэй! Я чую подых рання.
Я коратка скажу. Калі я спаў
У садзіку звычайна па абедзе,
Твой дзядзька дасачыў маю бяспечнасць
З праклятым сокам блёкату у шклянцы,
І ўліў у вушы мне ліхое зелле,
Якое мае тую уласцівасць,
Што уядаецца адразу ў цела,
Бяжыць па жылах, як жывое срэбра,
І там згартае і тварожыць гвалтам,
Як воцат малако, людскую кроў;
І ў той жа момант абрасло карою,
Пакрылася агіднымі струпамі
Маё ўсё цела.
Так быў я, сонны, братняю рукой —
Жыцця, кароны, жонкі — усяго
Пазбаўлены ў красе зямных грахоў,
Без адпушчэння, без прычасця, раптам;
І я, не разлічыўшыся ні з кім,
На справаздачу страшную з'явіўся:
О дзікі жах! О жудасць, жудасць, жудасць!
Калі натуру маеш, не сцярпі,
Не дапусці, каб каралеўскі ложак
Ператварыўся у свіны бярлог.
Але глядзі, калі ты будзеш помсціць,—
Рук не гнюсі, не замышляй нічога
На маці родную. Няхай яе
Карае неба! Хай ёй сэрца колюць,
Хай джаляць сэрца ёй калючкі здрады!

А ты шчаслівы будзь; жыві, бывай.
Святляк паказвае, што блізка ранне,
І кволы свой агеньчык загасіў.
Бывай, бывай! — і помні пра мяне.

Выходзіць.

Гамлет

О моц нябесная! Зямля! Яшчэ што?
Хіба дадаць і пекла? — Цьфу! Стой, сэрца!
Не трэба слабасці, патрэбна дужасць.
Трымайся, сэрца! Помніць пра цябе?
Так, бедны бацька. Гэты бедны чэрап —
Яшчэ мой чэрап. Помніць пра цябе?
Хутчэй з табліцы памяці сатру
Усе свае нікчэмныя нататкі,
Усё, што з кніг, усё, што маладосць
І назіранне запісалі там,—
І твой загад няхай жыве адзін
У фаліянтах галавы маёй,
Ачышчанай ад смецця!.. Прысягаю!
О пагубіцелька!..
О подлы, подлы, пад усмешкай подлы
З падлюг падлюга!.. Дзе мае таблічкі?
Я запішу, што можна усміхацца
І, усміхаючыся, быць падлюгай;
Ва ўсякім разе ў Даніі — бясспрэчна. *(Піша.)*
Так, дзядзька, так. Маім дэвізам будзе:
«Бывай, бывай! — і помні пра мяне».
Я прысягнуў.

Гарацыо *(за сцэнай)*

Прынц, прынц!

Марцэл *(за сцэнай)*

Прынц Гамлет!

Гарацыо *(за сцэнай)*

Хай вас бог бароніць!

Гамлет

Хай будзе так.

Гарацыо *(за сцэнай)*

Хіло, хо-хо, мой прынц!

Гамлет

Хіло, хо-хо! Сюды, сюды, мой сокал!

Уваходзяць Гарацыо і Марцэл.

Марцэл

Ну як, мой прынц?

Гарацыо

Што новенькага, прынц?

Гамлет

О, надзвычайна!

Гарацыо

Прынц, скажыце!

Гамлет

Нельга.

Вы перакажаце.

Гарацыо

Не я, мой прынц, клянуся.

Марцэл

І не я.

Гамлет

Вось бачыце, ну хто падумаць мог бы.
А вы маўчаць умееце?

Гарацыо і Марцэл

Клянёмся!

Гамлет

Няма у Даніі такога шэльмы,
Які не быў бы абармотам.

Гарацыо

Каб гэта нам сказаць, шаноўны прынц,
З магілы не вылазіў бы нябожчык.

Гамлет

Я з вамі згодзен; а таму давайце,
Без лішніх слоў, паціснем моцна рукі
І пойдзем хто куды: вы да сваіх
Заняткаў і патрэб, бо ў чалавека
Заўсёды ёсць заняткі і патрэбы
Якія-небудзь,— ну, а я, няшчасны,
Відаць, пайду маліцца.

Гарацыо

Што вы, прынц!
Адкуль такія кручаныя словы?

Гамлет

Шкада, што я пакрыўдзіў вас; напэўна,
Я не хацеў.

Гарацыо

Ніякай крыўды, прынц.

Гамлет

Бяру за сведку Патрыка святога,
Ёсць крыўда, і вялікая, Гарацыо.
А? — вам пра здань цікава? — я скажу:
Здань добрая. А што было між намі,—
Было — і скончылася. А цяпер,
Сябры мае, студэнты і салдаты,
Мая к вам просьба.

Гарацыо

А якая, прынц? —
Мы з радасцю.

Гамлет

Ніколі і нікому
Не гаварыць пра тое, што было.

Гарацыо і Марцэл

Не будзем, прынц.

Гамлет

А вы прысягу дайце.

Гарацыо

Клянуся, прынц.

Марцэл

I я клянуся, прынц.

Гамлет

О не, на меч, на меч!

Марцэл

Мы ж прысягалі.

Гамлет

Як трэба, на маім мячы, як трэба.

Здань *(знізу)*

Прысягу.

Гамлет

О, о, і ён! I ты, і ты не дрэмлеш?
Вы чулі голас з-пад зямлі, вы чулі?
Хутчэй, прысягу.

Гарацыо

Прапануйце словы.

Гамлет

Маўчаць пра ўсё, што бачылі вы тут,
Прысягу дайце на маім мячы.

Здань *(знізу)*

Прысягу.

Гамлет

Hic et ubique! Пераменім месца.
Пастаньце тут, сябры,

Кладзіце рукі зноў усе на меч:
Прысяга на мячы,—
Маўчаць пра тое, што вы чулі тут.

Здань *(знізу)*

Прысяга на мячы.

Гамлет

Пацвердзіў, крот стары. Як спрытна рые!
Удалы далакоп. Сябры, пяройдзем.

Гарацыо

О дзень і ноч! — вось дзіва, ну і дзіва!

Гамлет

Дык не дзівіся, а сустрэнь з вітаннем:
Ёсць болей з'яў на свеце, друг Гарацыо,
Чым сніцца філасофіі тваёй.
Хутчэй, прысягу дайце,—
Тут, як і там, няхай вам бог паможа! —
Што, як бы дзіўна ні трымаўся я,
Бо я, магчыма, палічу патрэбным
На нейкі час прыкінуцца вар'ятам,—
Ніколі вы, убачыўшы мяне,
Не будзеце ні галавой ківаць,
Ні рукі складваць гэтак альбо гэтак,
Ні вымаўляць глыбакадумных слоў,
Накшталт: «Мы гэта ведаем», альбо:
«Маглі б, але не хочам», альбо так:
«Каб мы хацелі расказаць»... Хутчэй,
Прысягу дайце,—
Нідзе, ніколі, ні адным намёкам

Не выдаваць, што вам вядома нешта.
І хай у гэтым вам паможа бог!

З д а н ь *(знізу)*

Прысягу.

Г а м л е т

Мір, мір, устурбаваны дух! Сябры,
З любоўю даручаю вам сябе.
І ўсё, што можа бедны Гамлет вам
Зрабіць, каб выявіць сваю прыхільнасць,—
Ён зробіць з ласкі божай. Пойдзем разам.
І, я прашу, трымайце рот замкнёным.
Век вывіхнуўся. О пракляты лёс,
Навошта ты мяне сюды прынёс
Лячыць хваробы часу! Пойдзем разам.

Выходзяць.





## СЦЭНА I

Пакой у доме Палонія.
Уваходзяць Палоній і Рэйнальда.

Палоній

Аддай яму, Рэйнальда, ліст і грошы.

Рэйнальда

Аддам, святлейшы.

Палоній

І было б разумна,
Каб ты, Рэйнальда, да сустрэчы з ім
Наконт яго паводзін распытаўся.

Рэйнальда

Так і зраблю, святлейшы.

Паланій

Ну, то добра;
Ну, вельмі добра. Дык глядзі ж, перш-наперш
Даведайся, якія там датчане
У Парыжы, хто, ды як жывуць, ды дзе,
З кім знаюцца, ці шмат у іх выдаткаў;
І, высветліўшы гэтак не адразу,
Што ім мой сын вядомы, падыдзі
Бліжэй, нібыта і табе вядомы
Ён збольшага. Напрыклад: мне вядомы
Ягоны бацька, прыяцель адзін,
Часткова ён... Ці зразумеў, Рэйнальда?

Рэйнальда

А як жа, добра зразумеў.

Паланій

Часткова ён, але, кажы, не надта;
Ну, а калі то ён, дык ён буян,
Прыдатны да таго і да таго,—
Ну, і пляці сабе, плявузгай, толькі
Каб гонару не зачапіў, ні-ні,
Ну, выбрык там, ці дур які, звычайны
У веку маладым.

Рэйнальда

Напрыклад, карты.

Паланій

Вось, вось... Ці выпіўка, ці паядынак,

Ці лаянка, ці сварка, ці распуста...
Так, так, распусту можна.

Рэйнальда

Але ж такія словы бэсцяць гонар.

Палоній

А ты не бэсці; гавары, каб мякка;
Не перабольшвай; гавары: распусны,
А ўсё ж нейк церпіць. Так, ну вось, я мыслю,—
Аб неўстрыманні нельга. Лёгка трэба
Грашкі падсоўваць, так гэта — агульна,
Каб кожны бачыў, што таму прычынай
Залішняя свабода, ці амбітнасць,
Ці фанабэрыя, альбо дзікунства
Крыві неўтаймаванай.

Рэйнальда

Але як жа...

Палоній

Навошта гэта робіцца?

Рэйнальда

Ага,
Хацеў бы ведаць.

Палоній

Ну, то вось нашто:
Я мыслю, гэта — мудры падыход.
Калі ты сына трошачкі заплямііш,
Яго учынкі капельку абгнюсіш,

Заўваж,
Той, на каго ты маеш намярэнне,
Абы ён памянёныя правінкі
За памянёным хлопцам прымячаў,
Маўчаць не будзе, схопіцца адразу
І скажа так нарэшце:— Дружа мой,
Шаноўны мой, мой міласцівы пане,—
Залежна ад таго, хто ён такі,
І як у іх прынята у краіне.—
Ты слухаеш?

Рэйнальда

Сачу, сачу, святлейшы.

Паланій

І тады зробіць ён вось што, зробіць ён... Што гэта я хацеў сказаць? Як перад святою імшою, я нешта хацеў сказаць? На чым гэта я спыніўся?

Рэйнальда

І скончыць так нарэшце.

Паланій

І скончыць так нарэшце; ну дык вось,
І скончыць так:— Мне гэты пан вядомы,
З ім бачыўся я ўчора ці заўчора,
Тады й тады, і быў ён з тым і тым,
І, добра кажаце, была ў іх п'янка,
Ён рэзаўся у карты, ён сварыўся,
Гуляючы у мячык. Альбо так:
Заходзіў ён аднойчы ў дом распусты,
У дом распусты,— ну і так далей.

Здаецца, ясна.
Закінеш чарвяка, а зловіш карпа.
Вось так мы, людзі розуму і спрыту,
Пры дапамозе розных тонкіх штучак,
Хоць крук даём, а пад'язджаем проста.
Дык вось, выходзячы з маіх парад
І гэтых мысляў, ты павінен сына...
Павінен сына... Чуеш ты ці не?

Р э й н а л ь д а

Так, так, я чую.

П а л о н і й

Ну, то можаш ехаць.

Р э й н а л ь д а

О мой святлейшы...

П а л о н і й

Сам паглядзі, як ён сябе трымае.

Р э й н а л ь д а

Зраблю, зраблю усё.

П а л о н і й

Дай хлопцу волю.

Р э й н а л ь д а

Так, так, вядома.

П а л о н і й

Ну, то едзь шчаслівы.

Р э й н а л ь д а выходзіць. Уваходзіць А ф е л і я.

А ты чаго, Афелія? Ў чым справа?

А ф е л і я

Ой, татачка, мяне так напужалі.

П а л о н і й

А божачка, і чым жа гэта?

А ф е л і я

Я, татачка, хусцінку вышывала,
Ў пакоіку сядзела; раптам — стук;
І вось прынц Гамлет,— без капелюша,
Камзэлька нарасхліст, панчохі ў брудзе,
Аб'ехалі да пят, сам белы-белы,
Трасецца, ўздрыгвае, блукаюць вочы,
Разгублены і жаласны такі,
Нібы ён вырваўся з пякельных нетраў
І зараз жа пачне расказваць жахі,—
Убег і стаў.

П а л о н і й

Шалёны ад кахання?

А ф е л і я

Не ведаю, баюся, мо і так.

П а л о н і й

І што сказаў ён?

А ф е л і я

Ён схапіў маю
Руку вось гэтак; выпрастаўся гэтак;
Адной мяне трымае, а другую
Падняў угору, прылажыў да броваў

I доўга-доўга разглядаў мой твар,
Нібы хацеў яго намаляваць;
Нарэшце мне руку пацiснуў лёгка
I тройчы галавою пакiваў,
I уздыхнуў так цяжка, так глыбока.
Што, мне здалося, разарвуцца грудзі,
Закалаціўся ўвесь, як перад сконам,
I адпусціў мяне, і адышоў,
Нейк дзіўна павярнуўшы галаву,
I не шукаў вачамі ён, дзе дзверы,
А ўсё глядзеў, усё глядзеў у мой бок.

Палоній

То пойдзем жа цяпер да караля.
Бо гэта ёсць экстаз, экстаз кахання,
Праява страсці, што бярэ ў палон,
Штурхае волю на адчайны крок,
Між іншым, як і ўсякая ахвота,
Што нас гняце і паліць. Я шкадую...
Што, можа ты з ім груба абышлася?

Афелія

Не, татачка, а так, як вы казалі:
Лістоў не брала і к сабе яго
Не дапускала.

Палоній

Ён і звар'яцеў.
Ах, ах, шкада! — недаацэнка выйшла.
I трэба ж так? Я думаў, ён жартуе,
Цябе пакрыўдзіць хоча. Падазронасць
Праклятая! То праўда, што старым

Разлік часамі заядае розум;
Але ж і моладзь надта стала спрытнай.
Хадзем да караля, далoжым гэта.
Бо калі змоўчым,— не мінуць бяды,
А далажыць,— яшчэ туды-сюды.
Хадзем, галубка.

Выходзяць.

## СЦЭНА II

Пакой у замку.
Уваходзяць **к а р о л ь**, **к а р а л е в а**, **Р а з е н к р а н ц**, **Г і л ь д э н с т э р н** і **с в і т а**.

**К а р о л ь**

Прывет вам, Разенкранц і Гільдэнстэрн;
Апроч жадання шчырага вас бачыць,
Патрэбу маем выкарыстаць вас,
Таму і выклікалі адмыслова.
Вы, мабыць, чулі, што апошнім часам
Перамяніўся Гамлет. Гэта так;
Бо і з нутра і звонку ён другі,
Не той, што быў раней. У чым прычына
Такое страты самаразумення,
І што яшчэ, апроч нуды па бацьку,
Я не магу ўявіць. Я вас прашу,
Паколькі гадаваліся вы разам
І вам яго капрызы лепш вядомы,
Пацешыць нас, застацца пры двары
На пэўны час, каб праз сяброўства ваша
Уцягнуць яго да слодычаў жыццёвых.

І будзе добра, калі вам удасца
Як-небудзь выпадкова дасачыць
Таемны вузел гэтае напасці,
Нам невядомы, выкрыўшы які,
Мы паспрабуем падшукаць лякарства.

Каралева

Панове, шмат ён гаварыў пра вас;
Няма, напэўна, двух людзей на свеце
Яму мілейшых. Калі ваша ласка
Нам будзе аказаць так многа-многа
Добраахвотнасці і далікацтва,
Каб сярод нас пабавіць тымчасова
Для падтрымання нашае надзеі,
Аддзячана вам будзе за турботы
Па-каралеўску.

Разенкранц

Вашая вялікасць
І вашая вялікасць маюць права
Распараджацца намі, не прасіўшы.

Гільдэнстэрн

О найяснейшыя, мы цалкам вашы;
Пакорна слухаемся і абодва
Да вашых ног кладзём свае паслугі.
Кіруйце намі.

Кароль

Ах, дзякуй, Разенкранц і Гільдэнстэрн!

Каралева

Ах, дзякуй, Гільдэнстэрн і Разенкранц!
Прашу вас зараз жа пайсці праведаць
Майго сыночка беднага. Гэй, людзі,
Вядзіце іх да Гамлета хутчэй!

Гільдэнстэрн

То дай жа божа, каб прысутнасць наша
І спробы нашы памаглі яму.

Каралева

Так, так, амін.

Выходзяць Разенкранц, Гільдэнстэрн і некалькі прыдворных.
Уваходзіць Паланій.

Паланій

Паслы з Нарвегіі, мой уладар,
Вярнуліся шчасліва.

Кароль

Ты быў заўжды тварцом прыемных вестак.

Паланій

Вы думаеце, вашая вялікасць?
Паверце мне, ласкавы уладар,
Душу ўкладаю я ў свой абавязак
Як перад богам, так і перад вамі;
І мне здаецца (альбо страціў я
Свой тонкі нюх у справах палітычных),
Што я адкрыў галоўную прычыну
Вар'яцтва Гамлета.

К а р о л ь

О, раскажы;
Мне так цікава мець аб гэтым весткі.

П а л о н і й

Прашу спачатку выслухаць паслоў;
Мае навіны будуць на закуску.

К а р о л ь

Зрабі ім ласку, прывядзі іх сам.

П а л о н і й выходзіць.

О любая Гертруда, ён мне кажа,
Што ведае, чаму змяніўся Гамлет.

К а р а л е в а

Ах, думаецца мне, адно і тое ж:
Смерць бацькава і наш раптоўны шлюб.

Вяртаецца П а л о н і й з В а л ь ц і м а н д а м і К а р н е л і е м.

К а р о л ь

Мы гэта высветлім.— Вітаю вас,
Сябры мае. Скажы нам, Вальціманд,
Што пасылае нам наш брат Нарвежац?

В а л ь ц і м а н д

Зваротныя прывет і пажаданні;
Ён з першых слоў аддаў загад спыніць
Наборы, што пачаў яго пляменнік;
Ён меркаваў, што той ідзе на Польшчу,
Але, прыгледзеўшыся, зразумеў,

Што гэта супраць вас; і засмучоны,
Што так яго хваробы, век і немач
Даюцца злоўжываннем, загадаў
Паклікаць Фарцінбраса; той з'явіўся
І атрымаў суровую вымову;
І тут жа, перад дзядзькам, даў зарок
Ніколі больш на вашую вялікасць
Замахаў не рабіць, пасля чаго
Стары кароль, узрадаваны вельмі,
Пяць тысяч крон у год яму прызначыў
І даручыў набранае ім войска
Вайной на Польшчу весці. А яшчэ,
Як тут паказана, ён просіць вас *(падае паперу)*
Дазволіць ім свабодны пераход
Праз землі вашыя для гэтай мэты
Пры захаванні ўсіх правоў, на льготах,
Як тут паказана.

К а р о л ь

Мы вельмі рады.
У вольны час мы гэта прачытаем;
Абдумаем, адпішам. А пакуль што
Падзяка вам за добрую работу,
Адпачывайце. Ўночы пагуляем.
Мы вельмі рады.

В а л ь ц і м а н д і К а р н е л і й выходзяць.

П а л о н і й

Справа удалася.
Кароль вялікі наш і каралева,
Тлумачыць, што такое ёсць вялікасць,
І што ёсць абавязак, і што дзень

Бывае днём, а ноч бывае ноччу,
Што час ёсць час,— усё гэта, нарэшце,
Ёсць марнаваць і дзень, і ноч, і час.
Паколькі сцісласць — розуму душа,
А мнагаслоўе — члены і прыдаткі,
Я буду сцінслым. Ваш шаноўны сын —
Вар'ят; кажу, вар'ят, бо ў чым вар'яцтва,
Калі не ў тым, што людзі вар'яцеюць?
Але далей.

Каралева

Больш справы, менш штукарства.

Палоній

О каралева, галавой клянуся,—
Ніякага штукарства,— ён вар'ят,
І гэта праўда, праўда і бяда,
Бяда, што гэта праўда. Вось дурны
Зварот які! Ну, добра. Без штукарства.
Палічым за вар'ята. Застаецца
Знайсці прычыну гэтага афекту,
Ці, лепш, дэфекту, бо такі афект
Дэфектны спрычыніўся ад прычыны.
Вось гэта рэшта, а нарэшце вось:
Увага!
Мая дачка (раз маю, то мая),
Прывыкшы паслухмянай быць, увага,
Дала мне вось. Мяркуйце і рашайце. *(Чытае.)*

«Нябеснай, ідалу маёй душы, вельмі ўпрыгожанай Афеліі...» Гэта няўдалы сказ, брыдкі сказ; «вельмі ўпрыгожанай» — брыдкі сказ; але вы слухайце. Вось

*(чытае)*: «На яе выдатна белыя грудзі, гэтыя...» Ну і так далей.

Каралева

І гэта ёй ад Гамлета?

Палоній

Хвіліначку; я далажу парадкам. *(Чытае.)*

«Не вер, што сонца свеціць,
Не вер, што зоркі ззяюць,
Што праўда ёсць на свеце,
А вер, што я кахаю.

О дарагая Афелія, мне цесна ў рамках верша, я не ўмею падлічваць свае ўздыханні, але, што я цябе люблю як найлепей, о мая найлепшая, павер мне. Бывай.

Твой назаўсёды, любая дзяўчына,
пакуль не паламаецца гэты механізм.
Гамлет».

Вось гэта мне з пакорнасцю пахвальнай
Дала мая дачка і, звыш таго,
Пераказала, як ішло каханне,
Калі, дзе, што ён ёй прапанаваў.

Кароль

І што ж яна на гэтае каханне?

Палоній

А што вы думаеце пра мяне?

Кароль

Ты — шчыры і адданы чалавек.

Палоній

Хацеў бы вельмі гэта даказаць.
Што б вы падумалі, каб я дагледзеў
Падобны ўздым і ўзлёт яго кахання
(А я дагледзеў, гавару адкрыта,
Яшчэ дачка маўчала), што б тады
Вы і мая вялікасць каралева
Маглі падумаць, калі б гэта я
Стаяў, як слуп, кішэняй для пісулек,
І глух і нем, і пазіраў праз пальцы,
Як людзі любяцца? Ну што б тады вы
Маглі падумаць? Не, я быў рашучы
І я сказаў сваёй дзяўчыне так:
Прынц Гамлет — прынц, і ён табе не пара,
Няма чаго. І тут жа даў параду:
Замок на дзверы, пабачэнні прэч,
Ні пасланцоў яго, ні падарункаў.
Зрабіўшы ўсё, як я сказаў, яна
Плады маёй навукі спажывала,
А ён, адхілены (каб гэта карацей),
Спярша заныў, пасля пакінуў есці,
А потым страціў сон, пасля аслаб,
Пасля задумаўся і гэтак, паступова,
Скаціўся да вар'яцтва, дзе і трызніць
На гора нам.

Кароль

Вы думаеце, гэта?

Каралева

Зусім магчыма.

Паланій

Ці было калі,
Хацеў бы ведаць я, каб я сцвярджаў:
Кароль мой,— так, а выйшла не па-мойму?

Кароль

Не помню.

Паланій

Галаву здыміце з плеч...

Паказвае на галаву і на плечы.

Вось гэта з гэтага, калі не гэта;
Калі мне акалічнасці спрыяюць,
Я вышукаю праўду, каб яна там
У цэнтр зямлі залезла.

Кароль

Як жа нам
Наладзіць дослед?

Паланій

Бачыце, ён часам
Гуляе доўга ў галерэі...

Каралева

Так.

Паланій

У гэты час я выпушчу дачку,
А, вы і я, мы станем за дыван;
Яны сустрэнуцца. Сачыце пільна.

Калі не тое, не з кахання гэта,
Калі ён не па ёй зайшоўся з думак,
То я вам болей не дзяржаўны радца,
А конюх фальварковы.

К а р о л ь

Зробім спробу.

Уваходзіць Г а м л е т, чытаючы.

К а р а л е в а

Вось ён ідзе, маркотны, і чытае.

П а л о н і й

Прэч, калі ласка; выйдзіце абое.
Я прыступлю, дазвольце прыступіць.

К а р о л ь, к а р а л е в а і п р ы д в о р н ы я выходзяць.

Як ваша здаровейка, прынц Гамлет?

Г а м л е т

Нічога, дзякуй.

П а л о н і й

Ці пазналі вы мяне, мой прынц?

Г а м л е т

Вельмі добра. Ты гандлюеш рыбай.

П а л о н і й

Не, прынц.

Г а м л е т

Тады я хацеў бы, каб ты быў сумленным чалавекам.

П а л о н і й

Сумленным, прынц?

Г а м л е т

Так, пане мой. Быць сумленным на гэтым свеце, гэта азначае быць адным з дзесяці тысяч.

П а л о н і й

Праўду кажаце, мой прынц.

Г а м л е т

Бо калі сонца плодзіць чарвей у дохлым сабаку, з'яўляючыся богам, цалуе падлу... Ці ёсць у цябе дачка?

П а л о н і й

Ёсць, прынц.

Г а м л е т

Не пускай яе на сонца. Развіццё — дар божы, але ў тваёй дачкі можа развіцца плод. Дружа, сцеражыся.

П а л о н і й

Што вы хочаце гэтым сказаць? *(Убок.)* Усё чэпіцца да маёй дачкі. Але ён не пазнаў мяне спачатку, сказаў, што я гандлюю рыбай. Далёка заехаў, далёка заехаў. І то праўда, калі я быў маладым, то бегаў за жанчынамі бадай так, як і ён. Паспрабую яшчэ раз. Што гэта вы чытаеце, прынц?

Г а м л е т

Словы, словы, словы.

Паланій

А што яны кажуць?

Гамлет

Хто гэта?

Паланій

Мой прынц, я пытаюся, што тут напісана ў кнізе?

Гамлет

Хлусня, пане мой. Нягодны сатырык сцвярджае, што ў старых людзей сівыя бароды, што твары іх паморшчаны, а з вачэй цячэ жывіца і вішнёвы клей, што розуму ў іх няма, ногі слабыя. І хоць я гэтаму веру, пане мой, усёй сілаю веры, аднак лічу непрыстойным так пісаць, бо і вы, пане мой, былі б у маіх гадах, каб маглі, як рак, паўзці назад.

Паланій *(убок)*

У гэтым вар'яцтве ёсць свая паслядоўнасць. Хадзем, мой прынц, тут вецер, вам трэба схавацца.

Гамлет

У магілу?

Паланій

А і праўда — самы надзейны схоў. *(Убок.)* Якія трапныя адказы. Шанцуе вар'ятам. Разумны і здаровы чалавек часамі цэлы век шукае, а вар'ят знаходзіць адразу. Я яго пакіну і зараз жа зраблю так, каб ён сустрэўся з маёй дачкою.— Ласкавы прынц, прашу вас вызваліць мяне.

Гамлет

Я магу вас вызваліць ад усяго, пане мой, ад усяго; толькі не ад майго жыцця, не ад майго жыцця, не ад майго жыцця.

Палоній

Бывайце, прынц.

Гамлет

Агідныя старыя дурні.

Уваходзяць Разенкранц і Гільдэнстэрн.

Палоній

Вы Гамлета шукаеце? Ён тут.

Разенкранц *(Палонію)*

Няхай вам бог паможа.

Палоній выходзіць.

Гільдэнстэрн

О найяснейшы прынц!

Разенкранц

Найдаражэйшы прынц!

Гамлет

Найлепшыя сябры мае! Ну, як ты жывеш, Гільдэнстэрн? А, Разенкранц? Ну, як вы маецеся, хлопцы?

Разенкранц

Як звычайныя сыны зямлі.

Гільдэнстэрн

І то добра, што не надта добра. На шапцы Фартуны мы не шышкі.

Гамлет

Але ж і не падмёткі яе чаравікаў.

Разенкранц

Ні тое, ні другое, прынц.

Гамлет

Тады ваша месца каля пояса, на ўлонні ўсіх яе дароў.

Гільдэнстэрн

Не, прынц, мы займаем у яе зусім невялікі куточак.

Гамлет

Невялікі куточак! Ну, вядома. Фартуна — жанчына падатлівая. Што новага?

Разенкранц

Нічога, прынц. Адно, што праўда з'явілася на свеце.

Гамлет

Ну, то скора страшны суд. Але вашы весткі несапраўдныя. Запытаю канкрэтней. Дарагія сябры мае, чым вы прагнявілі так Фартуну, што яна вас паслала сюды ў турму?

Гільдэнстэрн

У турму, прынц?

Гамлет

Данія — турма.

Р а з е н к р а н ц

Тады ўвесь свет — турма.

Г а м л е т

І яшчэ якая! Усюды скляпенні, сутарэнні, лёхі, вартаўнікі. Данія — адна з горшых.

Р а з е н к р а н ц

Мы так не думаем, прынц.

Г а м л е т

Тады яна для вас не турма. Дабро і зло не існуюць самі па сабе, іх утварае думка. Для мяне Данія — турма.

Р а з е н к р а н ц

Вы жадаеце славы, вашаму духу цесна, таму і турма.

Г а м л е т

О неба, я мог бы ўлезці ў арэх і лічыць сябе царом бязмежных прастораў, каб мне не сніліся нядобрыя сны.

Г і л ь д э н с т э р н

І гэтыя сны — жаданне славы. Бо што такое субстанцыя амбіцыі, калі не цень сну.

Г а м л е т

Сон — таксама цень.

Р а з е н к р а н ц

Так, правільна; але ўласцівасці амбіцыі лягчэйшыя і танчэйшыя. Цень дае цень.

Г а м л е т

Тады аснова свету — беднасць. А каралі і славутыя героі — цені беднасці. Можа пойдзем да двара? Мне надакучылі разважанні.

Р а з е н к р а н ц і Г і л ь д э н с т э р н

Да вашых паслуг, прынц.

Г а м л е т

Не трэба служыць. Я не кладу вас у кучу разам са слугамі. Шчыра вам кажу, мне вельмі дрэнна служаць. Пытаюся, як стары таварыш, чаго вы тут у Эльсіноры?

Р а з е н к р а н ц

Хацелі пабачыцца з вамі, прынц, і болей нічога.

Г а м л е т

Я — бедны, бедны. Няма ў мяне чым аддзячыць. Але ўсё ж дзякуй вам, дарагія сябры, хоць падзяка мая і недарагая. Па вас не пасылалі? Вы самі надумаліся прыехаць? Па сваёй добрай волі? Гаварыце, гаварыце, гаварыце, будзьце шчырымі, гаварыце. Адказвайце.

Р а з е н к р а н ц

Што ж нам адказаць, прынц?

Г а м л е т

Абы-што, але на пытанне. Па вас пасылалі. Вашы вочы прызнаюцца за вас, ваша скромнасць яшчэ не навучылася мяняць іх колер. Я ведаю, добры кароль і каралева па вас пасылалі.

Р а з е н к р а н ц

Для якое мэты, прынц?

Г а м л е т

Вось гэта вы і павінны мне растлумачыць. Заклінаю вас правамі нашае дружбы, гармоніяй нашага юнацтва, абавязкамі нашай неразлучнай любові, усім тым дарагім, чым заклінаў бы вас, каб разварушыць вашу душу, прамоўца больш таленавіты, чым я, гаварыце адкрыта і проста. Пасылалі па вас ці не?

Р а з е н к р а н ц *(ціха Гільдэнстэрну)*

Што ты скажаш?

Г а м л е т *(убок)*

Цяпер мне ясна.— Калі вы мяне любіце, гаварыце ўсё, не таячыся.

Г і л ь д э н с т э р н

Так, прынц, па нас пасылалі.

Г а м л е т

Я скажу вам навошта. Мая здагадка папярэдзіць ваша прызнанне, і ваша тайна перад каралём і каралевай застанецца ў цэласці. Не так даўно (не ведаю чаму) я страціў усю сваю весялосць, адышоў ад сваіх прывычных заняткаў, і, сапраўды, настрой у мяне такі цяжкі, што гэты прыгожы будынак — зямля здаецца мне бясплоднай скалою; гэты раскошны полаг — паветра,— глядзіце! — гэта высокае неба, неабсяжны дах, усыпаны залатымі агнямі, уяўляецца мне, як бруднае і пошаснае злучэнне пары. Якая мастацкая работа — чала-

век! Які ўзвышны розум! Якія бяскрайнія здольнасці! Колькі цудоўнай экспрэсіі ў абліччы і рухах! Дзейнасцю падобен да анёла! Думкаю раўняецца з богам! Краса сусвету! Вянец жывога! А мне? Што мне гэта квінтэсенцыя праху! Мужчыны мне не падабаюцца, жанчыны таксама. Хаця, судзячы па вашай усмешцы, вы са мною не згодны.

Р а з е н к р а н ц

Прынц, я пра гэта не думаў.

Г а м л е т

Дык чаго ж вы засмяяліся, калі я сказаў: мужчыны мне не падабаюцца?

Р а з е н к р а н ц

Прынц, вы сказалі, што мужчыны вам не падабаюцца, і я падумаў: якая ж тады посная сустрэча чакае акцёраў. Мы з імі размінуліся па дарозе. Яны едуць сюды прапанаваць вам свае паслугі.

Г а м л е т

Таго, хто іграе караля, прывітаю з радасцю; яго вялікасць атрымае ад мяне належную даніну. Адважны рыцар будзе арудаваць мячом і шчытом. Каханку не прыйдзецца ўздыхаць дарэмна. Комік дацягне спакойна ролю да канца. Блазен паказыча лёгкія смяшлівым. Гераіня выкажа свае пачуцці свабодна, калі не спатыкнецца аб белы верш. Што гэта за акцёры?

Р а з е н к р а н ц

Тыя самыя, што вам так падабаліся: гарадскія трагікі.

Гамлет

Чаго ж яны вандруюць? Сталае памяшканне давала ім больш і славы і прыбыткаў.

Разенкранц

Я думаю, ім перашкаджаюць некаторыя новаўводзіны.

Гамлет

Ці карыстаюцца яны той жа пашанай, што і раней, калі я быў у горадзе? Усё так жа ходзяць да іх?

Разенкранц

Не, ужо не так.

Гамлет

Чаму ж? Заржавелі хіба?

Разенкранц

Не, яны стараліся і стараюцца. Але, на бяду, завялася там чарада дзяцей, дробных сакалят, якія гатовы перакрычаць любую ролю, і за гэта ім шалёна пляскаюць. На іх цяпер мода. І так яны бэсцяць і лаюць народны тэатр (гэта іх слова), што многія са шпагай, напалоханыя скрыпам гусіных пер'яў, баяцца хадзіць туды.

Гамлет

Як? Дзеці? На чыім утрыманні? Якая аплата? Хіба яны будуць займацца гэтым рамяством, пакуль могуць спяваць? Ці не скажуць яны пасля, калі вырастуць у звычайных акцёраў (а гэта зусім магчыма, калі ў іх не

знойдзецца нічога лепшага), што іх аўтары ім пашкодзілі, дазволіўшы ім пляваць у тую міску, з якой яны кормяцца?

Р а з е н к р а н ц

Шчыра кажучы, хапала работы і тым і другім. Народ не лічыць за грэх нацкоўваць іх на зваду. Адзін час п'еса зусім не давала збораў без кулачнага дыялогу паміж паэтам і акцёрам.

Г а м л е т

Не можа быць!

Г і л ь д э н с т э р н

О, такі быў мардабой, такі мардабой!

Г а м л е т

І ўладу захапілі дзеці.

Р а з е н к р а н ц

Але, мой прынц; захапілі Геркулеса разам з глобусам.

Г а м л е т

Нічога дзіўнага. Вось напрыклад, мой дзядзька,— кароль Даніі, і тыя, што перакрыўлялі і дражнілі яго, калі жыў мой бацька, цяпер даюць дваццаць, сорак, пяцьдзесят, сто дукатаў за яго партрэт у мініяцюры. Чэрці, д'яблы! У гэтым ёсць нешта надзвычайнае, над чым варта было б пафіласофстваваць, калі б толькі філасофія памагла дакапацца...

Трубныя гукі за сцэнай.

Гільдэнстэрн

Вось і акцёры.

Гамлет

Дарагія госці, з радасцю вітаю вас у Эльсіноры. Вашы рукі! Спадарожнікамі гасціннасці павінны быць далікатнасць і ўважлівасць. Дазвольце прывітаць вас вашым жа спосабам; а то іначай маё абыходжанне з камедыянтамі, якое, кажу вам, павінна быць знадворна бліскучым, будзе здавацца ласкавейшым, чым гэтая наша сустрэча. З радасцю вітаю вас, але мой дзядзька-бацька і мая цётка-маці — памыляюцца.

Гільдэнстэрн

У чым, дарагі мой прынц?

Гамлет

Я — вар'ят толькі пры норд-норд-весце; калі вецер дзьме з поўдня, я адрозніваю сокала ад бусла.

Уваходзіць Палоній.

Палоній

Дзень добры, панове.

Гамлет

Слухай, Гільдэнстэрн,— і ты таксама,— пастаньце кожны каля вуха; вось перад вамі вялікае дзіця, якое яшчэ не вылезла з пялёнак.

Разенкранц

Як відаць, яно ўлезла ў іх паўторна, здзяцінеўшы пад старасць.

Г а м л е т

Я прадказваю, яно прыйшло паведаміць аб акцёрах; заўважце.— Ваша праўда, пане мой, у панядзелак раніцай; так, так,— гэта было ў панядзелак.

П а л о н і й

А ў мяне ёсць свежыя навіны, прынц.

Г а м л е т

І ў мяне ёсць свежыя навіны. Калі Росцый быў акцёрам у Рыме...

П а л о н і й

Акцёры прыехалі, прынц!

Г а м л е т

Быць не можа!

П а л о н і й

Дальбог...

Г а м л е т

«І кожны ехаў на асле...»

П а л о н і й

Найлепшыя акцёры ў свеце — для выканання камедый, трагедый, гісторый, пастаралей, п'ес пастаральна-камічных, гістарычна-пастаральных, трагічна-гістарычных, трагічна-камічна-гістарычна-пастаральных, сцэн падзельных і сцэн непадзельных. І Сенека ім не лішне цяжкі, і Плаўт ім не лішне лёгкі. Для тэкстаў пісаных і тэкстаў няпісаных — незамянімыя людзі.

Гамлет

«Іефай, ізраільскі суддзя», якім вялікім скарбам ты валодаў!

Паланій

А якім ён валодаў скарбам, прынц?

Гамлет

Якім?
«Была ў яго адна дачка —
Адзіначка-каханачка».

Паланій *(убок)*

Усё пра маю дачку.

Гамлет

Што, мо няпраўда, стары Іефай?

Паланій

Калі вы мяне называеце Іефаем, прынц, то ў мяне ёсць дачка, якую я вельмі люблю.

Гамлет

Там гэтага не сказана.

Паланій

А што там сказана, прынц?

Гамлет

Што?

«І паслаў яму лёс»,—
А далей ты ведаеш.—
«Прычакаў ён таго, што спаткала яго».
Працяг ты знойдзеш у першым радку каляднае песні. Выбачай, мая пацеха блізіцца.

Уваходзяць акцёры.

Прывітанне вам, майстры! Заходзьце, калі ласка! — Вельмі рад, што ты тут.— Прывітанне вам, сябры мае.— А, мой стары прыяцель! Што гэта ў цябе за махры на твары? Іх жа не было раней. Ці не думаеш ты сваёю барадою засланіць ад мяне Данію? — А-а! мая панначка, мая паненачка! Маці божая, якая высокая! Стала бліжэй да неба з таго часу, як мы бачыліся, на цэлы абцас. Дай божа, каб твой голас не патрэскаўся, як чырвонец, якім не карыстаюцца. Майстры, вітаю вас. Мы, як французскія сакольнічыя, наляцім на першае, што ўбачым. Зараз жа рыхтуйце прамову. Дайце ўзор вашага мастацтва. Гарачую прамову!

Першы акцёр

Якую жадаеце, прынц?

Гамлет

Аднойчы я чуў, як ты гаварыў маналог; яго не давалі на сцэне, а калі давалі, то не больш аднаго разу, бо п'еса, помніцца мне, не спадабалася гледачам. Для большасці гэта была ікра, недаступны далікатэс, але то была (як успрыняў я і другія, чыя думка ў пытаннях мастацтва перавышае маю) — дасканалая п'еса, удала

падзеленая на сцэны, напісаная тонка і проста. Я помню, нехта сказаў: у вершах няма прыправы, каб закрасіць змест і зрабіць яго смачным, але сэнс кожнае фразы сведчыць аб шчырасці аўтара. Ён назваў яго метад здаровым і добрасумленным, прыгожым без афектацыі. Найбольш мне спадабаўся ў ёй адзін маналог: Энеева апавяданне Дыдоне, асабліва той урывак, дзе ён расказвае аб забойстве Прыяма. Калі ён жыве ў тваёй памяці, пачні з гэтага радка; чакайце, чакайце.

«Суровы Пір, як той гірканскі звер...»

Не так; пачынаецца з Піра.

«Суровы Пір, што быў у чорнай зброі,
Такой жа чорнай, як яго намеры,
Як тая ноч, калі ў кані злавесным
Ён, грозна прытаіўшыся, ляжаў,
Сваю пахмурна жудасную постаць
Цяпер размаляваў яшчэ страшней;
Чырвоны ўвесь ад ног да галавы,
Умурзаны у кроў мужоў і матак,
Дачок, сыноў, у полымі падпалаў,
Якімі асвятляўся шлях забойчы,
Раз'юшаны агнём, злабой і кроўю,
Што накарэла згусткамі, з вачамі,
Як два карбункулы, пякельны Пір
Выгледжвае старэнькага цара
Прыяма...»

Ну вось, гавары далей.

Паланій

Дальбог, прынц, вы добра прачыталі, і вымаўленне добрае і вытрымана ўсё як трэба,

Першы акцёр

«Раптам ён яго знаходзіць
У байцы з грэкамі. Прыямаў меч
Не слухаецца больш рукі нядужай,
Дзе ўдарыць, там і ляжа. Нібы звер,
У бой няроўны кідаецца Пір;
Са страшным свістам меч яго узвіўся
І аглушыў бяссільнага Прыяма,
І ён упаў. Змярцвелы Іліён,
Нібы адчуўшы на сабе удар,
Агністае чало схіліў, хіснуўся
І паваліўся. Енк і страшны грукат
Чаруюць Піра. Гляньце, меч яго,
Занесены над снежнай галавой
Цара Прыяма, вісне у паветры.
Нібы таран, намаляваны пэндзлем,
Пастылы Пір стаіць, не даваршае
Ліхое справы.
Але, як часта бачым перад бурай:
У небе цішыня, як горы хмары,
Вятры нямеюць і зямля унізе
Ляжыць панурая, як смерць, і — трах!
Вось ляснуў, бліснуў грамавы пярун,—
Дрыжаць прасторы... Так пасля зацішша
Ізноў да помсты ірвануўся Пір.
Яшчэ ніколі кавалі-цыклопы
Не білі малатамі ў Марсаў панцыр
Так ярасна, як Пір мячом крывавым
Прыяма біў і сек.
Прэч, прэч, Фартуна-здрадніца! О богі,
Паўстаньце ўсе на подлую і кола
Разбіце ёй, зламайце спіцы, вобад,

А шворан так шпурніце з вышыні,
Каб даляцеў да д'яблаў!»

Паланій

Доўга вельмі.

Гамлет

Трэба пакараціць, як і тваю бараду.— Будзь ласкаў, гавары, не слухай. Калі няма скокаў альбо пахабшчыны, ён спіць. Гавары далей. Цяпер пра Гекубу.

Першы акцёр

«Ці бачыў хто пакутніцу-царыцу...»

Гамлет

Пакутніцу-царыцу?

Паланій

Гэта добра; пакутніцу-царыцу — добра.

Першы акцёр

«Як з плачам бегла босая яна,
Слязамі горкімі пажар гасіла;
Замест вянца на галавеануча,
Худыя лоні, змучаныя ў родах,
Наспех прыкрыты посцілкай. О гора!
Хто б гэта бачыў, той гадзючай слінай
У твар Фартуне плюнуў бы. О богі,
Дзе вы былі ў той час, калі яна
Угледзела, як мужавае цела
Крышыў мячом асцервянелы Пір?

Нялюдскі лямант залунаў над трупам,—
Яна рыдала. Богі, каб хоць кропля
У вас была спагады, то з вачэй
Нябесных, ясных паліліся б слёзы,
І вы б не выцерпелі...»

Палоній

Глядзіце, ён змяніўся з твару, ён плача. Калі ласка, даволі.

Гамлет

Добра, рэшту мне даскажаш пасля.— Не палічыце за клопат, пане, прыняць і пачаставаць акцёраў. Глядзіце, абыходзьцеся з імі добра. Гэта наглядчыкі і летапісцы часу. Лепей табе мець пасля смерці паганую эпітафію, чым благое слова ад іх пры жыцці.

Палоній

Прынц, я прыму іх як належыць.

Гамлет

Прымі іх лепей. Каб кожнага прымалі як належыць, наўрад ці знайшоўся б такі чалавек, якому б не належала даць у морду. Прымі іх як належыць твайму гонару і тваёй годнасці. Чым меншыя ў іх заслугі, тым большага будзе варта твая дабрата. Вядзі іх.

Палоній

Прашу вас.

Гамлет

Ідзіце за ім, сябры. Заўтра мы даём спектакль.

Выходзяць Палоній і акцёры, за выключэннем першага.

Паслухай, стары прыяцель, ці можаце вы сыграць «Забойства Ганзага»?

Першы акцёр

Можна, прынц.

Гамлет

Вось гэта мы і дадзім заўтра ўвечары. А ці можна, у выпадку патрэбы, вывучыць маналог, так радкоў на дванаццаць альбо на шаснаццаць, які я напішу і ўстаўлю ў п'есу, можна будзе, а?

Першы акцёр

Можна, прынц.

Гамлет

Вельмі добра. Ідзі за гэтым чалавекам... Толькі, будзь ласкаў, не рабі з яго жартаў.

Першы акцёр выходзіць.

Дарагія сябры мае, я развітаюся з вамі да вечара. Рад вас бачыць у Эльсіноры.

Разенкранц

О найдабрэйшы прынц!

Разенкранц і Гільдэнстэрн выходзяць.

Гамлет

Бывайце ўсе, і — я адзін цяпер.
Якая дрэнь, які нявольнік я!
І мне не сорамна!.. Вось тут акцёр
У пустаце, у выдуманым горы
Аддаў душу ва ўладу уяўлення:
У запале творчым паблядпеў увесь,
Набеглі слёзы буйныя на вочы,
Зламаўся голас, твар яўляе роспач,
І кожны рух яго уторыць марам.
А ўсё дзеля чаго? Дзеля Гекубы!
Што ён Гекубе, што яму Гекуба,
Каб так аб ёй рыдаць? Што ён зрабіў бы,
Каб меў прычыну сталую для смутку,
Як я!.. Ён бы заліў слязамі сцэну,
Грамадскі слых рассек бы страшным словам,
Давёў бы вінаватых да вар'яцтва,
Бязвінных да адчаю, слепакам
Адкрыў бы вочы, ўзварушыў бы ўсіх,
І ўсе б зжахнуліся. А я,—
Балван, нікчэмная разява, я
Стаю, ўздыхаю, як дзіця малое,
Не ведаючы сам, чаго мне трэба;
Маўчу, не заступаюся ні словам
За бацьку роднага, скарб і жыццё
У якога ўкрадзены агідпай здрадай.
Я — баязлівец?
Гэй, вы! Хто абзаве мяне падлюгай?
Хто дасць у морду мне? За нос пацягне?
Хто вырве бараду і ў твар мне кіне?
Хто скажа «здраднік», «хлус», абразу ўсадзіць
У горла мне да самых лёгкіх? Хто?

Эх!
Я б гэта выцерпеў, не абазваўся б:
Я — голуб, печань у мяне без жоўці,
Каб горыч крыўды адчуваць, а то
Даўно ўжо накарміў бы ўсіх варон
Раба разлезлым трупам. Блудадзей!
Паскуднік, крывапівец, гад, падлюга!
О, я адпомшчу!
Ну і асёл жа я! Які адважны!
Сын любага, загубленага бацькі,
Закліканы да помсты небам, я
Душу адводжу лаянкай, як шлюха,
Мялю ўпустую языком, як баба,
Як пакаёўка.
Цьфу, брыдка, брыдка! Цьфу! Мазгі, да справы!
Гм? Чуў я, што ў тэатры ліхадзеі
Бывалі так мастацкаю ігрою
Узрушаны часамі, што нарэшце
Публічна прызнаваліся ў злачынствах.
Дык вось няхай акцёры перад дзядзькам
Пакажуць што-небудзь, што б нагадала
Яму забойства брата. Пагляджу,
Што будзе з гэтага, як ён успрыме.
Калі ён дрогне,— ясна ўсё. Той дух
Мог быць і д'яблам, д'ябал жа умее
З'яўляцца ў вобразе спакусным. Так,
Магчыма. Я аслаб, засумаваў;
Ён гэтым карыстаецца і хоча
Згубіць мяне. Патрэбен цвёрды грунт.
Паставім п'есу: пастка і пятля,—
І выявім сумленне караля.

Выходзіць.



## Сцэна I

Пакой у замку.
Уваходзяць кароль, каралева, Палоній, Афелія, Разенкранц і Гільдэнстэрн.

**Кароль**

І вы ніяк не можаце дазнацца,
Што значыць гэты бунт, што затрымала
Так раптам плынь яго спакойных дзён
І ўкінула яго у вір шаленства?

**Разенкранц**

Ён прызнаецца, што яму нядобра;
Але, чаму нядобра, не гаворыць.

Гільдэнстэрн

I нельга выведаць; як толькі мы
Яго на шлях прызнання накіруем,
Ён ухіляецца з вар'яцкім спрытам
У іншы бок.

Каралева

А як ён вас прыняў?

Разенкранц

Зусім прыстойна.

Гільдэнстэрн

Але занадта стрымліваў сябе.

Разенкранц

Пытаўся мала: больш адказваў сам,
I вельмі востра.

Каралева

А вы не прабавалі намякнуць
Яму на гульні?

Разенкранц

Вашая вялікасць,
Дарогай нам сустрэліся акцёры,
Аб гэтым мы паведамілі прынцу;
I ён адразу нейк павесялеў.
Яны ўжо тут, і ён ім загадаў
Увечары паставіць п'есу.

П а л о н і й

Так.
І праз мяне ён запрашае вас
З'явіцца на спектакль.

К а р о л ь

Прыемна чуць;
Згаджаюся і вельмі задаволен
Падобным намярэннем.
Панове, я прашу вас, і далей
Уцягвайце яго ў свае забавы.

Р а з е н к р а н ц

О, мы з ахвотай, вашая вялікасць.

Р а з е н к р а н ц і Г і л ь д э н с т э р н выходзяць.

К а р о л ь

Пакінь і ты нас, любая Гертруда;
Мы толькі што па Гамлета паслалі,
Каб мог ён тут, нібыта ненарокам,
Знайсці Афелію.
Мы з бацькам, як законныя шпіёны,
Пастанем так, каб, бачачы нябачна,
Абмеркаваць спакойна іх спатканне
І вырашыць паводле слоў і рухаў,
Ці то каханне кроіць сэрца прынцу,
Ці мо што іншае.

К а р а л е в а

Дык я пайду.
Афелія, жадаю ад душы,

Каб Гамлета рабіла непрытомным
Адна твая прыгожасць; спадзяюся,
Што чыстата твая ўзвядзе яго
Ізноў на шлях звычайны і праславіць
Вас абаіх.

Афелія

Ах, як бы я хацела!

Каралева выходзіць.

Паланій

Афелія, гуляй тут! Найяснейшы,
Схаваемся! *(Афеліі.)* Чытай, глядзі у кнігу:
Чытанне аздабляе нам самоту.
Нас варта папракнуць за гэты грэх,—
Усім вядома, што набожным тварам
І справамі святымі мы умеем
Падсаладзіць і чорта.

Кароль *(убок)*

Гэта праўда.
Сумленне мне як бізуном пагладзіў.
Шчака блудніцы пад карой румянаў,
Напэўна, менш агідны выгляд мае,
Як мой учынак, скрашаны гаворкай.
Ох, цяжка мне!

Паланій

Ідзе, я чую. Пойдзем, найяснейшы.

Кароль і Паланій выходзяць.
Уваходзіць Гамлет.

## Гамлет

Пытанне: быць альбо не быць? Што лепей,
Што разумней: альбо цярпець удары,
Каменні, стрэлы яраснага лёсу,
Альбо узброіцца на мора крыўд
І знішчыць іх змаганнем. Смерць і сон —
Адно і тое ж; і сказаць, што сном
Канчаюцца туга, і боль, і крыўды,
І тысячы пакут, што чалавеку
Дала прырода ў дар,— такі канец
Сустрэў бы з радасцю. Смерць — сон, заснуць,
Заснуць і марыць. Так. Але пытанне:
Якія мары поўняць сон смяротны,
Калі пакінеш гэты шумны свет? —
Вось што трымае нас, вось дзе прычына
Таго, што гора гэтак даўгавечна.
Бо хто цярпеў бы злыя здзекі часу,
Прымус тыранаў і знявагу гордых,
Самотны стогн разбітага кахання,
Марудны суд, чыноўнікаў нахабнасць,
Пляўкі на галаву заслузе скромнай,
Каб мог нас вызваліць ад усяго
Удар кінжалам? Хто б валок ярмо,
Пацеў бы, ныючы ў нудзе жыццёвай?
Але мы ўсё ж баімся паміраць;
Таемны край, адкуль няма звароту,
Пужае нас, і воля наша слабне,
І мірымся мы з нашаю нядоляй:
Хто ведае, што нас чакае там?
Задумаешся так — і страх агорне.
І павядае яркі квет адвагі

Пад бледнай хваткай непазбыўных дум,
І пачынанні буйнага размаху
Без рэчышча сплываюць у нябыт,
Няспраўджанымі застаюцца. Ціха!
Афелія?.. О німфа, памяні
Мае грахі ў тваіх малітвах.

Афелія

Прынц,
Хацела запытаць вас аб здароўі.

Гамлет

Я вельмі дзякую.

Афелія

Прынц, у мяне ёсць памяткі ад вас,
Я ўсё збіралася іх вам вярнуць,
Дык вось, вазьміце, я прашу вас.

Гамлет

Не.
Я вам нічога не даваў.

Афелія

Мой прынц, вы мне давалі і з дарамі
Паднеслі мілае суквецце слоў,
Няма ў іх араматy больш, вазьміце.
Прыстойная дзяўчына не жадае
Дары мець ад таго, хто не кахае.
Вазьміце, прынц.

Гамлет

Ха, ха! Ты нявінная?

Афелія

Прынц?

Гамлет

Ты прыгожая?

Афелія

Ваша высокасць, што вы маеце на ўвазе?

Гамлет

А вось што: калі ты нявінная і прыгожая, то не задавайся сваім харастввом.

Афелія

Прынц, хіба ж хараство перашкаджае нявіннасці?

Гамлет

О не. Пакуль сіла нявіннасці ачысціць хараство, улада хараства змяшае нявіннасць з гразёю. Раней гэта быў парадокс, а цяпер гэта пацвярджаецца практыкай. Я цябе кахаў калісьці.

Афелія

І я гэтаму верыла, прынц.

Гамлет

А не трэба было верыць. Як ты ні прышчапляй нявіннасць на наш стары ствол, усё роўна парахня будзе сыпацца. Я цябе не кахаў.

Афелія

Падманулі мяне, ашукалі.

Гамлет

Ідзі ў манастыр. Нашто табе пладзіць грэшнікаў. Я яшчэ трошкі сумленны, аднак я мог бы абвінаваціць сябе ў такіх рэчах, што лепш бы мая маці мяне не раджала. Я люблю славу, я помслівы, горды, да маіх паслуг столькі грахоў, што не хапіла б розуму, каб іх абдумаць, фантазіі, каб іх уявіць, і часу, каб іх зрабіць. Нашто такім слімакам, як я, поўзаць паміж небам і зямлёю. Мы ўсе шэльмы, усе! Не вер нікому з нас! Ідзі лепш у манастыр. Дзе твой бацька?

Афелія

Дома, прынц.

Гамлет

Замкні за ім дзверы, хай ён сядзіць дома і строіць дурня толькі там, толькі там. Бывай!

Афелія

Ратуйце яго, сілы нябесныя!

Гамлет

Калі ты выйдзеш замуж, вазьмі сабе ў пасаг мой праклён: будзь чыстая, як лёд, белая, як снег,— усё роўна абгавораць. Ідзі ў манастыр. Бывай. Ну, а калі ты вельмі хочаш замуж, бяры дурня, бо разумныя ведаюць добра, якіх пачвар вы з іх робіце. У манастыр ідзі, хутчэй. Бывай.

Афелія

Памажыце яму, сілы нябесныя!

Гамлет

Чуў я і пра ваша маляванне, чуў; прырода дае вам адзін твар, а вы сабе робіце другі; вы скачаце, вы спяваеце, вы шчабечаце, вы дражніце божыя стварэнні і сваю разбэшчанасць прыкрываеце няведаннем. Хопіць, з мяне даволі! Гэта давяло мяне да вар'яцтва. Я кажу, у нас не будзе болей шлюбаў; тыя, што пажаніліся, хай жывуць, за выключэннем аднаго; рэшта застанецца так, як ёсць. У манастыр, ідзі.

Гамлет выходзіць.

Афелія

Які выдатны розум заняпаў!
Язык вучонага, вяльможы вока,
Меч воіна, акраса і надзея
Усёй дзяржавы, люстра далікацтва,
Узор узорным,— згінула усё.
А я адна, усіх жанчын няшчасней,
Пакаштаваўшы мёду абяцанняў,
Цяпер гляджу, як гэты волат мыслі,
Нібы зламаны звон, скрыгіча страшна.
О квет юнацтва, светач маладосці,
Чаму адцвіў так рана? Гора мне!
Якім ты быў, такім не будзеш, не.

Вяртаюцца кароль і Палоній.

Кароль

Тут не каханне,— іншая хвароба;
Хоць тое, што казаў ён, і туманна,
Аднак ён не вар'ят. Яго туга
Наседжвае штось іншае; баюся,

Каб гэты плод, з'явіўшыся на свет,
Нам не пашкодзіў. А таму хутчэй,
У мэтах папярэджання, рашаю:
Ён безадкладна ў Англію паедзе
Збіраць нам, недададаную даніну;
Магчыма, мора, незнаёмы край
І змена ўражанняў прагоняць тое,
Што ўлезла ў сэрца, ўстурбавала мозг
І парушае функцыі персоны
Майго пляменніка. Што скажаш нам?

П а л о н і й

Так будзе добра. Але ўсё ж, па-мойму,
Вытокам і пачаткам смутку прынца
З'яўляецца няўдача у каханні.—
Афелія, не трэба пераказваць,
Мы чулі ўсё.— Як наш кароль жадае,
Хай так і будзе. Тым не менш, прасіў бы,
Каб после п'есы каралева-маці
Прыватна распытала пана прынца
Наконт сардэчных спраў. Хай будзе строгай.
Калі ж даведацца ёй не ўдасца,
Тады адпраўце ў Англію яго
Альбо яшчэ куды.

К а р о л ь

Так, так, не жарты;
Шаленства прынца патрабуе варты.

Выходзяць.

## СЦЭНА II

Пакой у замку.
Уваходзяць Гамлет і акцёры.

Гамлет

Вымаўляй маналог, калі ласка, так, як я табе паказваў: лёгка і жвава, а калі ты будзеш драць горла, як гэта робяць многія нашы акцёры, тады я мог бы даручыць чытаць мае вершы гарадскому клікуну. Не пілуй паветра рукамі, так; рабі ўсё далікатна. У патоках, у буры і, так сказаць, у завіхрэнні свайго запалу, ты павінен заўсёды трымацца меры, якая згладзіць яго рэзкасць. Я цярпець не магу, калі які-небудзь здаравенны доўгавалосы дзяцюк ірве пачуцці на кавалкі, на шматкі, і гвалціць вушы партэра, які, у большасці выпадкаў, нічога не разумее, апроч невыразных нямых сцэн і калатні. Я б ахвотна высек такога дзецюка. Ён табе выйдзе такім ліхадзеем, якім і Тэрмагант не быў, ён табе Ірада пераірадзіць. Калі ласка, каб гэтага не было.

Першы акцёр

Даю гарантыю вашай высокасці.

Гамлет

Не будзь таксама і занадта вялым; хай тваім настаўнікам будзе твая крытычная думка. Дапасоўвай дзею да слова, слова да дзеі; а галоўнае, старайся не выходзіць за межы прыроднай прастаты. Бо ўсё, што гэтак перабольшана, не адпавядае сутнасці ігры, канчатковая мэта якой, раней і цяпер, была і ёсць — трымаць як

бы люстра перад прыродай; паказваць дабраце яе рысы, пагардзе яе вобраз і, у адпаведнасці з часам, кожнаму стану і ўзросту — яго форму і адбітак. Калі ж перабольшыць альбо не дацягнуць, то хоць невук і пасмяецца, але знаўцу будзе сумна, а вы павінны згадзіцца, што ацэнка знаўцы пераважае думку цэлага тэатра іншых. О, ёсць акцёры, і я бачыў іх ігру і чуў, як іх хвалілі, нават вельмі хвалілі, якія, каб не сказаць груба, не мелі ні голасу, ні фігуры, ні наогул людскага аблічча; крыўляліся і завывалі так, што я думаў: ёсць жа на свеце такія падзёншчыкі прыроды, якія бяруцца ляпіць людзей і псуюць іх — так бяздарна яны паказвалі чалавека.

Першы акцёр

Спадзяюся, што мы гэтага ў асноўным пазбавіліся.

Гамлет

Знішчайце, каб і знаку не было. І хай тыя, што іграюць у вас блазнаў, не гавораць больш, чым для іх напісана. Бываюць сярод іх такія, што смяюцца самі, каб насмяшыць пустых гледачоў, хаця ў гэтую хвіліну ўвага павінна быць сканцэнтравана на якім-небудзь важным моманце п'есы. Гэта брыдка і паказвае нікчэмнае зазнайства таго блазна, які так робіць. Ідзіце падрыхтуйцеся.

Акцёры выходзяць.
Уваходзяць Палоній, Разенкранц і Гільдэнстэрн.

Скажыце, будзе кароль слухаць гэту п'есу?

П а л о н і й

І сам будзе, і каралева, і каб зараз жа.

Г а м л е т

Загадай акцёрам, каб не бавіліся.

П а л о н і й выходзіць.

А вы што? Ідзіце падганяйце.

Р а з е н к р а н ц і Г і л ь д э н с т э р н

Ахвотна, прынц.

Р а з е н к р а н ц і Г і л ь д э н с т э р н выходзяць.

Г а м л е т

Гэй, Гарацыо!

Уваходзіць Г а р а ц ы о.

Г а р а ц ы о

Я каля вас, мой прынц.

Г а м л е т

Гарацыо, ты — слаўны чалавек,
Сярод усіх — адзіны друг сапраўдны.

Г а р а ц ы о

О прынц...

Г а м л е т

Не думай, што я лышчу табе.
Якая мне карысць? Ты не багаты.

Твая апора — твой здаровы дух,
Не золата. Нашто льсціць бедняку?
Няхай язык цукровы ліжа пышнасць
І кленчыць прагавіты падхалім
Там, дзе ён бачыць свой інтэрас. Чуеш?
З тае пары, як навучыўся я
Адрозніваць людзей і стаў свабодным,
Цябе абраў я другам для душы.
Ты церпіш гора, не падаўшы віду,
З аднолькавай падзякаю прымаеш
І гнеў і ласку лёсу. Лепшы дар —
Мець розум і пачуцці у адзінстве,
Не быць за пасвісцёла у Фартуны,
І не іграць чужых мелодый. Дружа,
Знайдзі мне, дай такога чалавека,
Які б не быў рабом сваіх пачуццяў,
І я да сэрца прытулю яго,
І я яго укрыю ў сэрцы сэрца
З табою побач. Кінем гэта. Зараз
Для караля акцёры ставяць п'есу.
Ты ведаеш, як паміраў мой бацька,—
Яны пакажуць гэту смерць на сцэне.
Прашу цябе, калі пачнуць спектакль,
Сачы за дзядзькам як мага уважней.
Калі яго таемная віна
Не выявіцца пры адной прамове,
То, значыць, нам з'яўляўся дух пракляты
І уяўленне чорнае маё,
Як лёх Вулкана. Прыглядайся добра.
Я ў твар яго ўвап'юся вострым вокам,
Пасля мы параўнаем нашы думкі
І зробім пэўны вывад.

Гарацыо

Добра, прынц.
Калі абкрадзе ён маю увагу
І уцячэ, адказваю за кражу.

Гамлет

Яны ідуць. Мне трэба быць вар'ятам.
Займай жа месца.

Дацкі марш. Трубы. Уваходзяць кароль, каралева, Палоній, Афелія, Разенкранц, Гільдэнстэрн ды іншыя.

Кароль

Як маешся, пляменнік Гамлет?

Гамлет

Дасканала. Харчуюся, як хамелеон. Ем паветра, засквараное абяцанкамі. Як каплун у мяшку, нават лепей.

Кароль

Я цябе не разумею, Гамлет. Твае словы не дайшлі да мяне.

Гамлет

А з мяне яны выйшлі. *(Палонію.)* Пане, вы гаварылі, што вы калісьці ігралі ва ўніверсітэце?

Палоній

Так, так, мой прынц, і лічыўся добрым акцёрам.

Гамлет

На якія ролі?

Палоній

Я іграў Юлія Цэзара, я быў забіты на Капітоліі, мяне забіў Брут.

Гамлет

Якая брутальнасць! І нашто ты, Брут, забіў такое вялізнае цяля! — Акцёры гатовы?

Разенкранц

Гатовы, прынц. Загадаеце пачаць?

Каралева

Гамлет, ідзі сюды, мой дарагі; сядзь каля мяне.

Гамлет

Не, мамачка, тут ёсць магніт мацнейшы.

Палоній *(каралю)*

Ага! Вы чуеце?

Гамлет

Панна, дазвольце мне прылегчы да вас на калені?

Кладзецца каля ног Афеліі.

Афелія

Не, мой прынц.

Гамлет

Я хачу сказаць, дазвольце палажыць галаву да вас на калені.

А ф е л і я

Але, мой прынц.

Г а м л е т

Вы думаеце, я недалікатны?

А ф е л і я

Я нічога не думаю, мой прынц.

Г а м л е т

Якая далікатная думка — ляжаць між ног у дзяўчыны.

А ф е л і я

Што, мой прынц?

Г а м л е т

Нічога.

А ф е л і я

Вам весела, мой прынц?

Г а м л е т

Каму, мне?

А ф е л і я

Вам, мой прынц.

Г а м л е т

О, я толькі ваш падпявала. Чалавек любіць весяліцца. Паглядзіце, у якім добрым настроі мая маці, а яшчэ не прайшло і дзвюх гадзін, як памёр мой бацька.

А ф е л і я

Ах, не; ужо два месяцы, мой прынц.

Гамлет

Так даўно. У такім выпадку, хай чорт носіць чорнае, а я начаплю сабаліную мантыю. О неба, цэлых два месяцы як памёр, і яшчэ не забыты! Тады ёсць надзея, што памяць аб вялікіх людзях перажыве іх на паўгода. Але трэба будаваць цэрквы, каб штодзённа па́міналі, а то забудуць, як таго каляднага каня. Былі каляды — былі коніку рады; каляды прэч — коніка з плеч.

Трубныя гукі. Нямы паказ.
Уваходзяць кароль і каралева, пяшчотна абдымаючыся. Яна становіцца на калені і горача завярае яго. Ён яе падымае і туліцца галавой да яе пляча. Кладзецца на лаву з кветак. Яна, бачачы, што ён заснуў, пакідае яго. Тады з'яўляецца чалавек, здымае з яго карону, цалуе яе, налівае атруты ў вушы каралю і выходзіць. Каралева вяртаецца, знаходзіць караля мёртвым і разыгрывае адчай. Труціцель і некалькі статыстаў з'яўляюцца і робяць выгляд, што лямантуюць разам з ёю. Нябожчыка выносяць. Труцілель прапануе каралеве падарункі; спачатку яна нібыта незадаволена, не згаджаецца, але, нарэшце, прымае яго любоў.

Выходзяць.

Афелія

Як гэта разумець, мой прынц?

Гамлет

Вельмі проста: тут хаваецца «малечо», гэта значыць — злачынства.

Афелія

Як відаць, гэты нямы паказ перадае сюжэт п'есы?

Уваходзіць Пралог.

Г а м л е т

Вось зараз ён нам растлумачыць. Акцёры не ўмеюць трымаць сакрэтаў, яны ўсё раскажуць.

А ф е л і я

І тое, што мы толькі што бачылі?

Г а м л е т

І тое, што мы толькі што бачылі. Вазьміце страцьце сорам, пакажыце што-небудзь такое, дык яму і сораму траціць не трэба, адразу так і ляпне.

А ф е л і я

Вы нядобры, нядобры. Я хачу глядзець п'есу.

П р а л о г

Перад пачаткам дзеяння
Мы просім вас з павагаю
Глядзець спектакль з увагаю.

Г а м л е т

Не то пралог, не то надпіс на пярсцёнку.

А ф е л і я

Нешта вельмі кароткае, мой прынц.

Г а м л е т

Як жаночае каханне.

Уваходзяць д в а а к ц ё р ы: к а р о л ь і к а р а л е в а.

А к ц ё р - к а р о л ь

Ўжо трыццаць раз як калясніца Феба
Павольным бегам залаціла неба,
І трыццаць на дванаццаць — маладзік
І поўніўся, і шчэрбіўся, і нік.
А мы з табою ўсё жывём у пары,
І шчасця нашага не засцяць хмары.

А к ц ё р - к а р а л е в а

Мы можам налічыць яшчэ раз столькі,—
Любоў жа не паменшыцца нікольki.
Але, о гора мне, мой мілы муж,
Апошнім часам нешта ты нядуж,
І ў сэрца мне закралася трывога
За нашую любоў. Але нічога,
Мой страх цябе не можа турбаваць:
Жаночы страх ёсць вернасці пячаць;
Мы любім — мы баімся, так бывае,
Жанчына ў гэтым крайнасць праяўляе.
Мой мілы муж, табою даражу,
Цябе кахаю, за цябе дрыжу,
Расце і шырыцца мая трывога.
Дзе страх вялікі — там кахання многа.

А к ц ё р - к а р о л ь

Так, любая, цябе пакіну я,
Прадказвае канец душа мая.
Ты не гаруй, жыві, красуйся краскай,
І можа хто-небудзь з такой жа ласкай
Мяне заменіць.

Акцёр-каралева

Нізашто. Маўчы!
За здрадніцу мяне ты не лічы.
Не выйду я ніколі за другога,—
Я не забойца мужа дарагога.

Гамлет *(убок)*

Палын і чамярыца.

Акцёр-каралева

Жанчынаю, што замуж хоча зноў,
Карысць кіруе, толькі не любоў;
Хто вернасць мужу мёртваму губляе,
Той мёртвага яшчэ раз забівае.

Акцёр-кароль

Я згодзен,— ты так думаеш цяпер,
Але мы парушаем свой намер,
З гадамі нашая рашучасць блякне,
Спачатку цвёрдая, нарэшце мякне;
Зялёны плод на яблыньцы вісіць,
А спелы плод пад яблынькай ляжыць;
Як гэта натуральна пры разліку
Самім сабе не аддаваць пазыку:
Клянёмся мы любіць сто зім, сто лет,
Ды з цягам дзён слабее наш імпэт.
Магутнасць радасці і сіла смутку
Бушуюць бурна, ущіхаюць хутка;
Смяецца смутак, плача весялосць,
Прычын жа шмат — яны заўсёды ёсць.
На свеце ўсё мяняецца; не дзіўна,
Што і любоў са шчасцем неразрыўна;

Адно другому ўслед заўжды ідзе,
Але пытанне, хто каго вядзе?
Слуга бяжыць ад быўшага вяльможы,
А выб'еццa бядняк, з ім дружыць кожны.
Любоў, як бачыш, дбае аб дабры:
Калі багаты, у цябе сябры,
А як настануць чорныя часіны,
Твае сябры табе пакажуць спіны.
Дык вось, канчаю тым, з чаго пачаў:
Хто волю з доляй разам прымячаў?
Хто можа пахваліцца з нас удачай?
Мяркуем так, а робіцца іначай.
Ты хочаш быць навекі вернай мне?
А як памру, дык і любоў міне.

Акцёр-каралева

Каб я не ведала ні дня, ні ночы,
Каб я не бачыла скарынкі ў вочы,
Няхай я у турме сырой згнію,
Няхай адчай учэрніць кроў маю,
Чаго б я ні хацела, ні жадала,
Каб я таго не мела, не прыждала,
І тут і там пракляцце нада мной,
Калі я выйду замуж удавой!

Гамлет *(Афеліі)*

А што будзе, калі яна яму здрадзіць?

Акцёр-кароль

Прысяга моцная. Стамлёны я;
Ідзі ў пакоі, любая мая;
Хачу заснуць. *(Засынае.)*

Акцёр-каралева

Засні у добры час.
Няхай ліхое не чапае нас!

Выходзіць.

Гамлет

Маці, як табе падабаецца п'еса?

Каралева

Па-мойму, нашто ёй было даваць такі зарок.

Гамлет

О, яна сваё слова стрымае.

Кароль

Табе вядомы змест? Ці няма тут якой-небудзь абразы?

Гамлет

Ды не, яны толькі жартуюць, атручваюць жартам, якая ж тут можа быць абраза.

Кароль

А як называецца п'еса?

Гамлет

«Пастка». Але ў якім сэнсе? У пераносным. У гэтай п'есе паказваецца забойства, якое адбылося ў Вене. Імя герцага — Ганзага, а яго жонкі — Баптыста, вы зараз убачыце, ну і подлая гісторыя! Але ўсё роўна, вашай вялікасці і нас, людзей з чыстаю душою, гэта

не датычыцца. Няхай выкручваецца кляча, наш карак не намулены.

Уваходзіць Луцыян.

А вось гэта Луцыян, пляменнік караля.

Афелія

Вы добра замяняеце хор, мой прынц.

Гамлет

Калі вы будзеце абдымацца з вашым каханкам, вазьміце мяне за тлумача.

Афелія

Прынц, вы як тая калючка.

Гамлет

Мая калючка не скора тупіцца, прыйшлося б пастагнаць.

Афелія

І лепш, і горш.

Гамлет

Якраз так, як вы сабе мужоў выбіраеце. Пачынай, забойца! Досыць табе корчыць страхоцце. Пачынай:

«Да помсты заклікаюць груганы».

Луцыян

Змрок душ, спрыт рук, і шклянка,— ўсё
ў парадку;
Спрыяе час, прыступім да пачатку.
Забойчы сок, з начнога зелля ўзяты,
Гекатай тройчы тручаны і кляты,

Прыроды моц і сілу чар яві,
Кроў замарозь і цела знежыві!

Лье атруту ў вуха соннаму каралю.

Гамлет

Ён атручвае яго ў садзе, каб заўладаць яго дзяржавай. Яго прозвішча — Ганзага. Ёсць такая навела, вельмі складна напісаная па-італьянску. Вы зараз убачыце, як забойца пойдзе дабівацца кахання да жонкі Ганзага і, мушу вам сказаць, ён свайго даб'ецца.

Афелія

Кароль устае.

Гамлет

Што, спалохаўся халастога стрэлу?

Каралева

Што з табою, мой друг?

Палоній

Спыніць спектакль!

Кароль

Пасвяціце мне,— прэч!

Палоній

Святла, святла, святла!

Выходзяць усе, за выключэннем Гамлета і Гарацыо

Гамлет

Хай ранены алень сумуе,

Лань ведае, дзе дзецца;
Адзін заснуў, другі вартуе —
Так на зямлі вядзецца.

Вось гэта, ды яшчэ куст пер'я на галаву (на крайні выпадак, калі б мне вельмі не пашанцавала), ды дзве праванскія ружы на разразныя чаравікі, то я мог бы падацца ў акцёры і стаць пайшчыкам трупы. Як ты думаеш, Гарацыо?

Г а р а ц ы о

На палавінным акладзе.

Г а м л е т

Не, на поўным.

О мой Дамон, паганы час,
Ты ведаеш усё:
Раней быў Зеўс царом у нас,
Цяпер царом... павук.

Г а р а ц ы о

Вы б маглі сказаць і ў рыфму.

Г а м л е т

Гарацыо, дружа мой, кладу ў заклад тысячу чырвонцаў, здань казала праўду. Ты заўважыў?

Г а р а ц ы о

Заўважыў, прынц.

Г а м л е т

Калі гаварылася аб атручванні.

Г а р а ц ы о

Я не спускаў з яго вачэй,

Гамлет

А-а! — Гэй, музыку! Нясіце флейты!
Кароль не прызнае забаў,—
Відаць, ён іх не ўпадабаў.

Уваходзяць Разенкранц і Гільдэнстэрн.

Музыку!

Гільдэнстэрн

Мой добры прынц, дазвольце мне сказаць вам кароткае слова.

Гамлет

Хоць сабе і доўгае, пане мой.

Гільдэнстэрн

Кароль...

Гамлет

Ну, што з ім?

Гільдэнстэрн

Пайшоў у свае пакоі. Яму вельмі нездаровіцца.

Гамлет

Ад віна?

Гільдэнстэрн

Не, мой прынц, ад жоўці.

Гамлет

Лепей бы вы далажылі аб гэтым доктару, пане мой,

каб ён яго прачысціў, бо калі я пачну яго чысціць, дык жоўць яго можа разліцца яшчэ больш.

Гільдэнстэрн

Мой добры прынц, калі ласка, абмяжуйце вашу гутарку і не адскаквайце так дзіка ад маёй справы.

Гамлет

Я паслухмяны, гаварыце.

Гільдэнстэрн

Каралева, маці ваша, у вялікім засмучэнні сэрца, паслала мяне да вас.

Гамлет

Рад вас бачыць.

Гільдэнстэрн

Не, прынц, гэта далікатнасць не адпавядае абставінам. Калі вы пажадаеце даць мне разумны адказ, то я выканаю даручэнне маці вашай, а калі не, то, перапрашаю, дазвольце пакінуць вас, бо мая місія скончана.

Гамлет

Я не магу.

Гільдэнстэрн

Што, мой прынц?

Гамлет

Даць вам разумны адказ; мой розум хворы. Адказ, які я магу вам даць, да вашых паслуг, ці, лепш, да паслуг

маёй маці. А таму без агаворак і канкрэтна. Маці, кажаце вы...

Р а з е н к р а н ц

Гаворыць наступнае: вашы паводзіны бязмежна здзівілі і глыбока ўразілі яе.

Г а м л е т

О бязмежна дзіўны сын, які так уразіў сваю маці. Але ці не хаваецца за гэтым матчыным уражаннем яшчэ што-небудзь? Гаварыце.

Р а з е н к р а н ц

Яна хоча пагутарыць з вамі ў сваім пакоі перад тым, як вы ляжаце спаць.

Г а м л е т

Мы згодны, будзь яна хоць дзесяць разоў нашай маткай. Больш вам нічога не патрэбна?

Р а з е н к р а н ц

Калісьці вы мяне любілі, прынц.

Г а м л е т

І цяпер яшчэ, клянуся гэтай парай хапуг і драпежнікаў.

Р а з е н к р а н ц

Мой добры прынц, чым вы так расхваляваны? Вы самі чапляеце ланцугі на сваю незалежнасць, тоячы гора сваё ад друга.

Гамлет

Мой дарагі, мне не даюць ходу.

Разенкранц

Як гэта можа быць, калі сам кароль прызначыў вас наследнікам дацкай кароны?

Гамлет

Так то так, але «пакуль сонца ўзыдзе...» Старая прыказка.

Уваходзяць флейтысты.

А, флейты! Дайце мне адну. *(Бярэ флейту. Гільдэнстэрну.)* Хадзі сюды, скажу табе нешта на вушка. *(Адводзіць Гільдэнстэрна ўбок.)* Чаго ты круцішся каля мяне, як ганчак? Чаго ты ўсё вынюхваеш? Ты што, у сеці хочаш мяне заманіць?

Гільдэнстэрн

О прынц, калі я перастараўся, то гэта значыць, што я вас вельмі люблю.

Гамлет

Я нешта не разумею. Пайграй на флейце.

Гільдэнстэрн

Я не магу, прынц.

Гамлет

Калі ласка.

Гільдэнстэрн

Паверце мне, я не магу.

Гамлет

Прашу цябе.

Гільдэнстэрн

Я не ведаю, як за яе брацца, прынц.

Гамлет

Гэта так жа лёгка, як хлусіць. Пакладзі пальцы на лады, дзьмі ў дзірачку, і гэты інструмент загаворыць прыгожаю музыкай. Глядзі сюды: вось адзін лад, вось другі.

Гільдэнстэрн

Мой прынц, але ж я не маю таленту, я не ведаю законаў гармоніі.

Гамлет

Бачыш, якую дрэнь ты з мяне робіш! Ты хочаш іграць на мне; ты думаеш, што ты ведаеш мяне; ты хочаш улезці ў маю душу, вырваць маю тайну і перабіраць лады майго сэрца ад самай нізкай да самай высокай ноты. Вось у гэтым маленькім інструменце многа гармоніі, цудоўны голас, аднак ты не можаш прымусіць яго загаварыць. Чорт вазьмі, думаеш ты, што на мне лягчэй іграць, чым на флейце? Назаві мяне якім хочаш інструментам, ты можаш расстроіць мяне, але не іграць на мне.

Уваходзіць Палоній.

Добры вечар, пане.

П а л о н і й

Мой прынц, каралева жадае мець з вамі гутарку, і каб зараз жа.

Г а м л е т

Паглядзіце вунь на тую хмарку, яна вельмі падобна на вярблюда, што, мо няпраўда? Як вы мяркуеце, пане?

П а л о н і й

Як перад святою імшою,— жывы вярблюд; ваша праўда, ваша праўда.

Г а м л е т

Мне здаецца, яна падобна на куніцу.

П а л о н і й

Спінка як у куніцы.

Г а м л е т

Альбо як у кіта.

П а л о н і й

Зусім як у кіта.

Г а м л е т

Скажыце маці, што я зараз прыйду.— Яны строяць з мяне дурня, я не вытрываю.— Я зараз прыйду.

П а л о н і й

Я так і далажу.

Палоній выходзіць.

Гамлет

Лёгка сказаць — «зараз». Пакіньце мяне аднаго, сябры мае.

Разенкранц, Гільдэнстэрн, Гарацыо ды іншыя выходзяць.

Глухая ноч; разяўлены магілы:
І пекла дыхае на свет заразай.
Цяпер упіцца б кроўю. Распачаць
Расправу лютую, зрабіць такое,
Каб здрыгануўся дзень. Пайду да маці.
О сэрца, будзь жа сэрцам! Хай ніколі
Душа Нерона у мяне не ўвойдзе!
Я буду жорсткім, але чалавечным,
З кінжаламі на вуснах, не ў руках.
Няхай язык мой супярэчыць сэрцу:
Я вострым словам ёй душу параню,
Але забойствам рук не апаганю.

Выходзіць.



## СЦЭНА III

**Пакой у замку. Уваходзяць кароль, Разенкранц і Гільдэнстэрн.**

**Кароль**

Я не люблю яго. Дый небяспечна
Даваць вар'яту волю. А таму
Рыхтуйцеся. Я безадкладна выдам
Вам паўнамоцтвы. Ён паедзе з вамі
У Англію. Дзяржаўныя законы
Не дазваляюць нам рызыкаваць
Спакоем нашым.

**Гільдэнстэрн**

Вашая вялікасць,
Мы падрыхтуемся. Ваш страх свяшчэнны:
Вы думаеце аб жыцці падданых,
Што кормяцца ад ласкі каралеўскай.

**Разенкранц**

Жывы жывое думае, і кожны
Жадае мець спакойнае жыццё,
Што ж нам сказаць аб сонцы найяснейшым,
Аб каралю, гаспадару грамадства?
Яго жыццё — гасцінец неацэнны;
Смерць караля бясследна не праходзіць:
Як ураган праносіцца яна,
Ламаючы усё, што блізка. Гэта —
Вялізнае кола, што паднята
У высі гор, да спіц яго магутных
Прыпушчаны ў пазы і прыкаваны
Дзесяткі тысяч дробненькіх істот;

Калі яно пакоціцца, пацягне
Ўвесь гэты тлум прыдаткаў за сабою
І ўшчэнт зруйнуе. Каралю няўдача,—
То разам з ім усё грамадства плача.

Кароль

Хутчэй рабіце зборы, я прашу,
Мы сплавім гэта наглае страшыдла —
Прэч, прэч!

Разенкранц і Гільдэнстэрн

Мы хутка, вашая вялікасць!

Уваходзіць Палоній.

Палоній

Кароль святлейшы, ён пайшоў да маці.
А я наглядзеў для сябе і пункцік,—
За дыванам: там чутна ўсё. Дык вось,
Я гарантую, што яна ўсё зробіць.
Сказалі вы, і мудра вы сказалі,
Паколькі матчына натура часта
Залішне мяккацелая, то патрэбна,
Каб гэтую дыскусію засведчыў
Хто-небудзь іншы, болей аб'ектыўны.
Бывайце, мой святлейшы, перад сном
Я дам вам звесткі.

Кароль

Дзякуй, дарагі мой.

Палоній выходзіць.

Смурод майго граху ідзе да неба,
На мне ляжыць старэйшае праклянцце —

Забойства брата. Не магу маліцца,
Хоць і хачу і воля прымушае,
Аднак віна мая мяне трымае.
Як той, што ў два бакі глядзіць, стаю
І думаю, з чаго цяпер пачаць:
З таго ці з гэтага? Нейк не выходзіць.
Няўжо, калі рука мая ў крыві
Па самы локаць, дык няма дажджу
У неба міласэрнага, каб вымыць
І абяліць яе? Навошта літасць,
Як не затым, каб выратоўваць грэшных?
Малітва? Ёсць дзве сілы у малітвы:
Адна — засцерагаць нас ад спакусы,
Другая — падымаць таго, хто ўпаў.
Зірну угору. Грэх мой у мінулым.
Але якім жа спосабам маліцца?
Даруй мне, божа, подлае забойства?..
Не, гэтак нельга. Ці ж магу аддаць
Назад той скарб, што адабраў у брата:
Карону, ўладу, тытулы і жонку,—
Каб гэта мець збавенне і быць грэшным?
У мутным моры нашых спраў зямных
Рука у золаце кіруе праўдай,
Падсунеш хабар — і улесціш суд,
І ўсё табе прабачаць. Там не так,
Не скруціш там: учынак твой раздзенуць
І выставяць, як міленькага, голым,—
Прымусяць прызнавацца. Што рабіць?
Хіба пакаяцца,— мо што і выйдзе.
Ой, не магу я каяцца! Ой, страшна!
Ах, бедны я!.. Змрок у грудзях, як смерць.
Куды ўцячы?.. Папаўся дык папаўся.

Анёлы светлыя, дапамажыце!
Калені, гніцеся! Размякні, сэрца,
Не будзь, як камень, будзь як у дзіцяці!
Ўсё будзе добра.

Адыходзіць і становіцца на калені.
Уваходзіць Гамлет.

Гамлет

Цяпер у самы раз рабіць расправу,—
Ён моліцца, і я зраблю. І ён
На неба пападзе. І гэта помста?
Абдумаю спачатку. Ліхадзей
Забіў мне бацьку, і за гэта я,
Адзіны сын у бацькі, ліхадзея
Сам адсылаю ў рай. Хіба я найміт,
Каб гэтак помсціцца? У сытым сне
Быў той забіты, калі ўсе грахі
Былі на ім. Вядома толькі богу,
Ці лёгкая была яго расплата,—
Відаць, пакутуе там небарака.
Ці ж гэта помста на той свет адправіць
Яго цяпер, калі душу ён чысціць,
Калі ён сам рыхтуецца ў дарогу?
Не,
Схавайся, меч! — яшчэ надыдзе час;
Калі ён будзе п'яны, альбо ў гневе,
Альбо палезе на распусны ложак,
Тады сячы. У брудзе, у гнюсоце,
Сярод пацех агідных гада знішчыць,
Каб ён не спадзяваўся на збавенне,
А каб ляцеў, задраўшы пяты к небу,
У зубы к чорту, чорны, як смала,

На векі вечныя. Хай будзе так.
Жыві яшчэ, але ты ўжо мярцвяк.
Пайду да маці.

Выходзіць.

К а р о л ь *(устаючы)*

Без думак словы, як без духу цела,—
Мая малітва к небу не ўзляцела.

Выходзіць.



## СЦЭНА IV

Другі пакоі у замку.
Уваходзяць к а р а л е в а і П а л о н і й.

П а л о н і й

Ён зараз прыйдзе. Будзьце з ім суровей,
Як след усыпце за такія штукі;
Скажыце, што яго адратавалі,
Што, каб не вы і каб не ваша просьба,
Яму б папала. Я ў куточку стану.
Больш строгасці, прашу вас.

Гамлет *(за сцэнай)*

Маці, маці!

Каралева

Так і зраблю. Маўчыце. Ён ідзе.

Палоній хаваецца за дыван.
Уваходзіць Гамлет.

Гамлет

Ну, маці, што мне скажаш?

Каралева

Гамлет, бацька твой пакрыўджаны табою.

Гамлет

Маці, бацька мой пакрыўджаны табою.

Каралева

Прашу вас, не мяліце языком.

Гамлет

Прашу вас, не блудзіце языком.

Каралева

Што гэта значыць, Гамлет?

Гамлет

Што вам трэба?

Каралева

Ты забываеш, хто я?

Гамлет

Не, вось крыж:
Вы — каралева, дзеверава жонка,
І мая маці, на вялікі жаль.

Каралева

Тады з табой другія пагавораць.

Гамлет

Сядзь, сядзь, не ўстанеш, не скранешся з месца,
Пакуль, як у люстэрку, не пабачыш
Сваё нутро.

Каралева

Што ты надумаў, Гамлет?
Ты хочаш загубіць мяне? Ратуйце!

Паloній *(за дываном)*

Гэй, гэй, ратуйце!

Гамлет

Ага, пацук! *(Вымае шпагу.)* Даю дукат, забіты.

Пратыкае дыван.

Палоній *(за дываном)*

Ой, паміраю.

Падае і памірае.

Каралева

Што ты парабіў?

Гамлет

Я сам не ведаю. Там быў кароль?

Каралева

Якое зверства! Ах, якое зверства!

Гамлет

Не большае, чым караля забіць
І жонкаю стаць мужавага брата.

Каралева

Чым караля забіць?

Гамлет

Так, я сказаў.

Адкідае дыван і знаходзіць Палонія.

Бывай, неасцярожная пранырa,
Я цэліў не ў цябе. Прымі свой лёс.
І для каго ты так стараўся, дурань? —
Ды не ламай так рукі. Ціха! Сядзь!
Я тваё сэрца зараз паламаю,
Калі яно яшчэ не скамянела,
Не зарасло агіднаю прывычкай,
Калі ёсць месца ў ім для пачуцця.

Каралева

Што я зрабіла, што мяне ты ганьбіш,
Крычыш так дзёрзка?

Гамлет

Што зрабіла ты?
Ты чэсць запляміла, прагнала сорам,
Сарвала ружу чыстую кахання
З чала свайго і начапіла язву;
Ператварыла шлюбныя зарокі
У балбатню карцёжніка; учынак,
Што з цела дагавору сэрца выняў
І гром арганных гімнаў замяніў
Пустой рапсодыяй. Ірдзее твар
Нябесны, ясны; і зямлі цвярдыня,
Балеючы у думках аб табе,
Маўчыць пахмура, як перад скананнем.

Каралева

Што я зрабіла? Ох, які учынак,
Каб пачынаць з такой прадмовы грознай?

Гамлет

Глядзі сюды, вось тут адзін малюнак,
А вось другі,— партрэты двух братоў.
Глядзі сюды,— якое хараство:
Чало Юпітэра, і валасы
Віюцца — кучаравы Апалон,
А вочы, як у Марса,— гнеў, адвага,
І стройны стан, нібы ганец Меркурый
Ў надхмарных высях, азароны сонцам.
Чароўнае злучэнне форм і фарб,—
Здаецца, кожны бог пячаць паставіў,
Каб даць сусвету вобраз чалавека.
І гэта быў твой муж. Цяпер глядзі

Сюды. Вось муж твой. Як іржавы колас,
Зайздросліва ён пажырае брата.
Дзе твае вочы? Каб з нагорнай пашы
Зваліцца у смярдзючае балота
І бруд глытаць? Дзе твае вочы, маці?
Ты скажаш — закахалася,— няпраўда!
У тваім узросце кроў ужо сціхае,
І верх бярэ развага. Як магла ты
Змяніць на гэта гэта? Адчуваць
Ты мусіш, бо жывая, але ты,
Як бервяно. Вар'ят не памыліўся б!
Бо як бы шал ні прыгнятаў пачуцці,
А ўсё ж адрозніць мог бы пры такім
Непадабенстве. Хто цябе прымусіў?
Хіба мо чэрці з бубнам праязджалі
І ўздумалі гуляць з табою ў жмуркі?
Крывое вока, дотык невідушчы,
Без рук без вока вуха, нюх сляпы,
Кавалак пачуцця, абрубак чулы
І той бы разабраўся.
О сорам, дзе твая пунсовасць? Пекла,
Калі ты ўзбушавалася ў касцях
Старой кабеты, то няхай юнацтва
У агні сваім, як воск, растопіць сорам!
Ці ж гэта ганьба маладой крыві
Кіпець, калі палае лёд, а розум
З распустай абдымаецца?

Каралева

Даволі!
Ты вочы павярнуў мне у нутро:
Набралася там столькі чорных плям,
Што іх не вывесці.

Гамлет

Не тое кажаш;
Жыць у гнаі, ў тухліне, на пасцелі,
І лашчыцца, і цешыцца любоўю
Ў хляве на кучы...

Каралева

О, даволі, Гамлет!
Твая гаворка катуе мне вуха.
О, злітуйся!

Гамлет

Забойца! Душагуб!
Халоп, не варты і двухсотай часці
Твайго былога мужа! Блазен тронны!
Кароль-камедыянт! Зладзюга! Жулік!
Сцягнуў з паліцы царскую карону
І сунуў у кішэню.

Каралева

Хопіць, хопіць!

Гамлет

Кароль з ануч...

Уваходзіць здань.

Ратуй і ахіні мяне ускрыллем,
Святое воінства! Чаго ты хочаш,
Благаславёны вобраз?

Каралева

А божа, ён — вар'ят!

Гамлет

Ты хочаш папракнуць маруду-сына,
Які, дабраўшы зручны час, не змог
Зрабіць адразу тое, ў чым пакляўся;
Скажы!

Здань

Не забывай. Сюды прыйшоў я,
Каб навастрыць нажы твайго намеру;
Але зважай, лунае жах над маці.
Стань паміж ёю і яе змаганнем:
Магутна уяўленне у слабых.
Скажы ёй што-небудзь.

Гамлет

Што з вамі, мама?

Каралева

Сыночак, што з табою?
Ты ў пустату ўтаропіў дзікі позірк
І, як лунацік, гутарыш з паветрам;
З вачэй тваіх выблісквае твой дух,
І, як жаўнеры раптам на трывогу,
Паўсталі дуба валасы твае.
Сынок, залі агонь сваёй хваробы
Халодным супакоем. Што ты бачыш?

Гамлет

Яго, яго. Глядзі, які ён бледны,
Такая крыўда горкая ў абліччы,
Што камень зразумеў бы.— Не глядзі так,
О, не глядзі так, бо мяне расчуліш,

І я ніколі не дайду да мэты,
І страціцца суровасць спраў маіх:
Замест крыві — сляза.

Каралева

З кім ты гаворыш?

Гамлет

Нічога ты не бачыш?

Каралева

Не, нічога;
Усё, што ёсць, я бачу.

Гамлет

Ты нічога
Не чула?

Каралева

Не, нічога; толькі нас.

Гамлет

Глядзі туды! Глядзі, ён адыходзіць!
Мой бацька, бацька мой, жывы, жывы!
Глядзі, вось ён ідзе; знікае, знік.

Здань выходзіць.

Каралева

Сыночак мой, ты трызніш. Гэта — мары.
Пры непрытомнасці усякае зданнё
Вярзецца чалавеку.

Гамлет

Непрытомнасць?
Мой пульс, як твой, нармальны і здаровы,
Музычна адбівае такт. Не мары
Мая гаворка. Апытай мяне,
І я даслоўна паўтару усё,
Чаго вар'ят не зробіць. Слухай, маці,
Не маж душы уцешнаю масцікай,
Што гэта шал, а не твая віна:
Балячка не загоіцца пад струпам,
Зараза ціха ўсочыцца ў нутро
І з'есць цябе. Пакайся перад небам,
Прызнай свой грэх і болей не грашы;
Не падкладай пад пустазелле гною,
Каб лепш расло. Прабач на добрым слове.
У наш адкормлены надзьмуты век
Дабро павінна кленчыць перад ліхам,
Само прапанаваць свае паслугі.

Каралева

О Гамлет, Гамлет, ты разбіў мне сэрца!

Гамлет

Вазьмі ды выкінь горшую палову,
А з лепшаю жыві у чыстаце.
Дабранач! Толькі не на ложку з дзядзькам.
Прыкінься чэснай, калі чэсць згубіла.
Прывычка, гэты чорт, што загрызае
Любое пачуццё, табе паможа
На гэты раз: учынак злы ці добры —
Ёй усё роўна, знойдзе гарнітур
Якраз па мерцы — і насі сабе.

Сягоння устрымайся, заўтра зноў,—
І ты пазнаеш лёгкасць устрымання.
Прывычка можа адмяніць прыроду:
Ці ўшчэміць чорта, ці яго прагоніць
Дзівосңай сілаю. Бывай, дабранач!
Калі ты вернешся на верны шлях,
Благаславі мяне.— Табе, стары *(паказвае на Палонія)*,
Табе я спачуваю. Воля неба.
Ты мне быў караю, а я табе;
Я толькі зброя у руках нябесных.
Я вынесу яго і дам адказ
За гэту смерць. Яшчэ раз добрай ночы!
Я жорсткім стаў, бо я хацеў быць добрым;
Пачатак дрэнны, але будзе горш.
Яшчэ два словы, маці.

Каралева

Што рабіць?

Гамлет

Рабі наадварот, мяне не слухай;
Дазволь, каб гэта пухлая пачвара,
Твой любы муж завёў цябе на ложак,
Пачаў цябе за шыйкай казытаць
І парачкай паскудных пацалункаў
Дабіўся поўнага ва ўсім прызнання:
Мой сын, скажы, ніякі не вар'ят,
Мой сын лавушкі строіць.— Мы так любім,
Так любім весткі.— Як жа утаіць
Прыгожай, скромнай, мудрай каралеве
Ад кажана, ад жабы, ад ката
Такую справу? Хто гэта дацерпіць?

О не, узлезь, як тая малпа ў байцы,
Насуперак і розуму і чэсці,
З кашом на дах і, выпусціўшы птушак,
Сама для спробы сядзь у гэты кош.
Ды і каціся на зламанне карка.

Каралева

Павер мне, калі мова — гэта подых,
А подых ёсць жыццё, я нежывая,
Каб вымавіць хоць слова.

Гамлет

Я еду ў Англію. Табе вядома?

Каралева

А я й забыла; так пастанавілі.

Гамлет

Лісты напісаны. Са мною разам
Паедуць два маіх сябры па школе,
Каторым я, як дзвюм гадзюкам, веру,
І павязуць загад. Яны павінны
Расчысціць шлях мне ў пастку. Што ж, няхай!
Цікавая гульня: пад далакопаў
Падкласці іх жа міну. Дрэнна будзе,
Калі я не падрыюся глыбей
І кішкі іх не пачаплю на месяц.
Якая слодыч, сеўшы у засаду,
Прыпільнаваць і кінуцца на здраду,—
Вось хто паскорыць зборы.
Я выцягну адгэтуль мерцвяка.—

Дабранач, маці! — Ціхі і паважны
Ляжыць міністр, спакойнае чало,
А пры жыцці быў шэльма і трапло.—
Дазвольце услужыць вам, ваша светласць.—
Дабранач, маці.

Выходзяць кожны асобна; *Гамлет* выцягвае *Палонія*.





## Сцэна I

Пакоі у замку.
Уваходзяць кароль, каралева, Разенкранц і Гільдэнстэрн.

Кароль

У гэтых уздыханнях, гэтых стогнах
Павінна нешта быць. Дай тлумачэнне.
Нам трэба ведаць. Дзе твой сын?

Каралева

Пакіньце на мінутку нас.

Разенкранц і Гільдэнстэрн выходзяць.

Ах, друг мой,
Што бачыла я ўночы.

К а р о л ь

Што, Гертруда?
Што з Гамлетам?

К а р а л е в а

Шалёны, быццам мора
І вецер, калі ўсходзяцца абое
Спрачацца, хто дужэй. У лютым гневе,
Пачуўшы шум за дываном, у момант
Схапіў ён меч, і, крыкнуўшы: «пацук!»,
Не глянуўшы, напаў і закалоў
Няшчаснага старога.

К а р о л ь

Ліхадзейства!
Каб я там быў, было б са мною гэтак.
Яго свабода пагражае ўсім:
Табе, і мне, і кожнаму. Ах, ах!
Хто дасць адказ за гэты чын крывавы?
Яго ўскладуць на нас. Наш абавязак
Быў утрымаць, прыбраць да рук вар'ята,
Але такая нашая любоў,
Што мы нічога не маглі прадбачыць,
І, як уласнік брыдкае хваробы,
Таіліся датуль, пакуль яна
Не выела вантробы нашы. Дзе ён?

К а р а л е в а

Панёс забітага. І тут явіла
Яго вар'яцтва чыстату сваю,
Як золата сярод руды звычайнай;
Ён каецца і плача.

Кароль

O, хадзем,

Мая Гертруда!
І сонца не апусціцца за горы,
Як ён пакіне нас. Ну, а злачынства
Мы нашаю уладай і умельствам
Як-небудзь апраўдаем.— Гільдэнстэрн!

Уваходзяць Разенкранц і Гільдэнстэрн.

Сябры, ідзіце клічце дапамогу:
Прынц Гамлет, непрытомны, закалоў
Палонія і павалок кудысьці
З пакояў каралевы. Ўсе на пошук!
З ім гаварыце хораша, а труп
Перанясіце у капліцу. Хутка!

Разенкранц і Гільдэнстэрн выходзяць.

Гертруда, пойдзем; склічам на нараду
Людзей мудрэйшых і вярнейшых, трэба
Іх пазнаёміць з нашым меркаваннем
І з тым, што здарылася. Можа плётка,
Што з хуткасцю гарматнага ядра
Па свеце мчыцца з сыканнем змяіным,
Нас абміне і ў пустату пацэліць.
Хадзем, Гертруда. У душы маёй
Трывога і няпэўнасць.

Выходзяць.



## СЦЭНА II

Другі пакой у замку.
Уваходзіць Гамлет.

Гамлет

Схаваў нядрэнна.

Разенкранц і Гільдэнстэрн *(за сцэнай)*

Гамлет! Прынц Гамлет!

Гамлет

Ціха! Што за гвалт? Хто кліча Гамлета? А, вось яны.

Уваходзяць Разенкранц і Гільдэнстэрн.

Разенкранц

Што вы зрабілі з трупам, прынц?

Гамлет

Змяшаў з зямлёю. Яна яму крыху радня.

Разенкранц

Скажыце, дзе ён, каб забраць яго і вынесці ў капліцу.

Гамлет

Не верце.

Разенкранц

А што такое?

Гамлет

Што я вашу тайну буду трымаць за пазухай, а сваю на языку. Апроч таго, калі пытаецца губка, што можа адказаць ёй каралеўскі сын?

Р а з е н к р а н ц

Прынц, якая губка?

Г а м л е т

Так, пане мой,— губка, якая смокча каралеўскія міласці, падзякі і загады. Такія прыдворныя — скарб для караля. Ён іх трымае, як малпа арэхі,— за шчакою: кладзе ў рот першымі, а глытае апошнімі. Калі яму спатрэбіцца тое, чаго вы набраліся, ён вас ціскане добра — і губка сухая.

Р а з е н к р а н ц

Я вас не разумею, прынц.

Г а м л е т

Вельмі рад. Слова шэльмы спіць у вуху дурня.

Р а з е н к р а н ц

Мой прынц, вы павінны сказаць, дзе знаходзіцца цела, і пайсці з намі да караля.

Г а м л е т

Цела ў караля, але яно скора разваліцца. Кароль — рэч...

Р а з е н к р а н ц

Якая рэч, мой прынц?

Г а м л е т

Непатрэбная. Вядзіце мяне да яго.
Гоп, гоп, ліска! —
Ганна блізка.

Выходзяць.

## СЦЭНА III

Другі пакой у замку.
Уваходзіць кароль з прыдворнымі.

Кароль

Я даў загад знайсці яго і цела.
Ён на свабодзе — гэта небяспечна;
Аднак жа мы караць яго не будзем:
Яму надзвычай чэрнь сімпатызуе,
Бо судзіць не па праўдзе, а на вока,—
Яна убачыць мукі ліхадзея,
А не яго злачынства. А таму
Пасадзім мы яго на карабель
І сплавім прэч. Але, каб выйшла гладка,
Прадставіць трэба гэтае выгнанне
Як вынік доўгіх дум. Ліхой хваробе —
Ліхія лекі.

Уваходзіць Разенкранц.

Ну, што там яшчэ?

Разенкранц

О найяснейшы, не маглі дазнацца,
Куды схаваў ён труп.

Кароль

А дзе ён сам?

Разенкранц

Пад вартаю, чакае вашай ласкі;
Тут, тут, каля дзвярэй.

Кароль

Прывесці.

Разенкранц

Гэй, Гільдэнстэрн! Прывесці прынца!

Уваходзяць Гамлет і Гільдэнстэрн.

Кароль

Што скажаш, Гамлет? Дзе Палоній?

Гамлет

На вячэры.

Кароль

На вячэры? Дзе?

Гамлет

Не там, дзе ён есць, а там, дзе яго ядуць; на сойме сярод палітычных чарвей. Чарвяк — наш адзіны імператар па часці яды. Мы гадуем усякую жывёлу, каб смачна пад'есці, а сабою гадуем чарвей. Тлусты кароль і худы жабрак — гэта толькі розныя гатункі ежы, дзве стравы на адзін стол; такі канец.

Кароль

На жаль, праўда.

Гамлет

Чалавек можа лавіць рыбу на чарвяка, які наеўся каралеўскага мяса, і есці рыбу, якая праглынула гэтага чарвяка.

Кароль

Што ты хочаш гэтым сказаць?

Гамлет

Нічога. Я толькі малюю карціну працэсаў, паказваю рух каралеўскай асобы ў жабрацкіх кішках.

Кароль

Дзе Палоній?

Гамлет

На небе. Няхай хто-небудзь палезе паглядзець. Калі вашы паслы яго там не знойдуць, то правальцеся ў пекла і шукайце самі. У выпадку няўдачы, праз месяц ён сам дасць аб сабе знаць: калі будзеце падымацца на галерэю, то пачуеце смурод.

Кароль *(прыдворным)*

Абшукайце галерэю!

Гамлет

Не спяшайцеся, ён не ўцячэ.

Прыдворныя выходзяць.

Кароль

Жадаючы табе дабра, сын Гамлет,
І шчыра замаркочаныя тым,
Што ты зрабіў, дзеля твайго спакою
Мы вырашылі як мага хутчэй
Цябе адсюль справадзіць. А таму
Збірайся, сынку. Карабель выгодны,
І вецер слаўны, і калегі ў зборы,
І Англія вам рукі прасцірае.

**Гамлет**

Хто, Англія?

**Кароль**

Так, любы сыне.

**Гамлет**

Добра.

**Кароль**

Надзвычай добра, каб ты ведаў толькі.

**Гамлет**

Бачу я херувіма, які гэта бачыць. Ну, што ж, паедзем у Англію. Бывай, дарагая маці.

**Кароль**

Твой бацька, Гамлет.

**Гамлет**

Маці; бацька і маці — муж і жонка; муж і жонка — адно цэлае. Бывай, дарагая матуля! Еду ў Англію.

Выходзіць.

**Кароль**

Хутчэй за ім; бяжыце, наглядайце,
Каб выехаў яшчэ да ўсходу сонца.
Хутчэй, хутчэй! Усё падрыхтавана.

Разенкранц і Гільдэнстэрн выходзяць.

О Англія! Калі шануеш ты
Маю прыхільнасць і маю магутнасць
(Каторых знакі на тваёй спіне,

Бо не засох яшчэ рубец крывавы
Ад дацкага мяча, і вольны страх твой
Укленчыў перад намі), — ты уважыш
Дзяржаўны наш загад. Мы прапануем,
Як гэта ўсё адзначана ў лісце,
Умерцвіць Гамлета. Зрабі нам гэта.
Як трасца, як скула, ён тут лютуе.
Будзь нам за доктара. Прэч, прэч заразу!
І я адчую смак жыцця адразу.

Выходзіць.



## СЦЭНА IV

Раўніна ў Даніі.
Уваходзяць Фарцінбрас, капітан і войска, маршыруючы.

Фарцінбрас

Ідзіце перадайце, капітан,
Прывет мой каралю; і далажыце,
Што Фарцінбрас, паводле дамаўлення,
Жадае разам з войскам перайсці
Праз Данію. Пункт збору вам вядомы.

Калі ж ён мае ў нас патрэбу, мы
Засведчым нашу вернасць асабіста.
Так і скажыце.

Капітан

Слухаюся, прынц.

Фарцінбрас

Наперад, крок павольны!

Фарцінбрас і войска выходзяць.
Уваходзяць Гамлет, Разенкранц, Гільдэнстэрн ды іншыя.

Гамлет

Чыё тут войска, капітан?

Капітан

Нарвежца.

Гамлет

А куды яно ідзе,
Дазвольце запытаць?

Капітан

Ідзе на Польшчу.

Гамлет

А хто яго начальнік?

Капітан

Фарцінбрас,
Нарвежскі прынц.

Гамлет

Скажыце, капітан,
Мяркуеце ўсю Польшчу заваёўваць
Ці толькі частку?

Капітан

Сказаць па чыстай праўдзе, не зманіць,
Ваюем за кавалачак зямлі,
Карысці ў ім ніякай, толькі назва,
Я б за яго не даў і трох чырвонцаў,
Каб, скажам, у арэнду, дый прадаўшы,
Паляк з Нарвежцам больш не атрымалі б.

Гамлет

Тады вы пройдзеце туды свабодна,—
Паляк вас пусціць.

Капітан

Не, там гарнізон.

Гамлет

Дзве тысячы людзей і дваццаць тысяч
Чырвонцаў, а не могуць развязаць
Нікчэмнай спрэчкі. Вось яна — пухліна
Багацця і спакою, скрыты рак,
Які падточвае век чалавечы.—
Бывайце, капітан, я вам удзячны.

Капітан

Шчасліва заставацца.

Капітан выходзіць.

Разенкранц

Пойдзем, прынц.

Гамлет

Ідзіце, я вас зараз даганю.

Р а з е н к р а н ц, Г і л ь д э н с т э р н ды іншыя выходзяць.

Усё абвінавачвае мяне,
Куды ні глянь, усё да помсты кліча;
Змаганне скрозь. А я? Што чалавек,
Калі яго адзіная патрэба —
Яда і сон?.. Бяздушны звер і толькі.
Той, хто стварыў нас з думкаю шырокай,
Той, хто нам даў богападобны розум,
Не можа дапусціць, каб мы згнаілі
Усё гэта без ужытку. Што са мною?
Ці я ўжо атупеў і памяць страціў,
Сам зверам стаў, ці то паўзучы сум
Ад крайняга жадання быць дакладным?
Не ведаю; але ў развагах гэтых
На долю мудрасці — тры долі страху.
Навошта жыць і паўтараць: зрабі,
Калі ў цябе ёсць сіла, воля, сродкі —
Зрабіць без слоў. Уся зямля ўшчувае.
Вось тут пратупала навала войск,
І з ёю разам лёгкі, зграбны прынц,
Якога дух, узняты прагай славы,
Глядзіць бяспечна будучыні ў твар
І выстаўляе кволае, жывое
На смерць, на рызыку, на авантуры
За жменьку праху. Сапраўды вялікі
Ідзе заўсёды да вялікай мэты,
Але вялік і той, хто будзе біцца
Насмерць за дробязь, калі гонар кліча.
А я стаю. Забіты бацька мой,
Зняслаўленая маці, абурэнне
Крыві і розуму мяне штурхаюць,
А я стаю і сплю. О ганьба! Бачу

На полі смерці дваццаць тысяч душ,
Якія праз капрыз, за водбліск славы
Кладуцца у магілы, як у ложак;
Змагаюцца за месца, на якім
Няма дзе разгарнуцца, нельга нават
Ахвяры пахаваць як след. Цяпер
Альбо нальецца кроўю мой намер,
Альбо я пракляну сябе.

Выходзіць.



## СЦЭНА V

Эльсінор. Пакоі у замку.
Уваходзяць каралева, Гарацыо і прыдворны.

Каралева

...Не буду з ёю гаварыць.

Прыдворны

Калі ж бо просіцца. Яна такая
Бездапаможная, зусім вар'ятка.

Каралева

А што ёй трэба?

Прыдворны

Бацьку ўспамінае;
Гаворыць, што на свеце многа фальшу,
Ўздыхае часта, б'е сябе у грудзі,
І абы чуць, распальваецца гневам;
Яе гаворка — цёмныя намёкі,
Набор няскладных крыкаў, тым не менш
Народ сабраўся, слухае, тлумачыць,
Знаходзячы ў вар'яцкай блытаніне
Сугучнае сваім уласным думкам;
Яе ж кіўкі, падморгванні і жэсты
Падвойваюць цікавасць, можна думаць,
Хоць гэта і няпэўна і няясна,
Але тут крыецца жахлівы сэнс.

Гарацыо

Пагаварыць патрэбна, бо яна
Пасеяць можа безліч крыватолкаў
Сярод ліхіх людзей.

Каралева

Няхай увойдзе.

Прыдворны выходзіць.

*(Убок.)* Грэх ціске мне душу, ірве на часці:
Здаецца, набліжаецца няшчасце.
Хацела б утаіць віну маю,
Але сама міжвольна выдаю.

Вяртаецца прыдворны з Афеліяй.

А ф е л і я

Ці тут прыгожая царыца Даніі?

К а р а л е в а

Чаго табе, Афелія?

А ф е л і я *(спявае)*

Як пазнаць, хто мілы ваш?
Мой мілы — пілігрым:
Капялюш і доўгі кій,
Сандалі на ім.

К а р а л е в а

Што ты спяваеш, мілае дзіця?

А ф е л і я

Маўчыце, не перабівайце. *(Спявае.)*
Панна, панна, ён памёр,
У магілу лёг:
На магіле той трава,
Камень каля ног...
Ага!

К а р а л е в а

Афелія!

А ф е л і я

Маўчыце, не перабівайце. *(Спявае.)*
Саван бел, як белы снег...

Уваходзіць к а р о л ь.

Каралева

Мой друг, ты бачыш?

Афелія *(спявае)*

У вянку ляжыць.
Толькі панны не было
Плакаць і тужыць.

Кароль

Як маешся, дзіця маё?

Афелія

Добра, дзякуй богу. Людзі кажуць, што сава была дачкою пекара. Божа мой, божа, мы ведаем, хто мы, але не ведаем, што з намі будзе. Хлеб-соль вам!

Кароль *(убок)*

Намёк на бацьку.

Афелія

Калі ласка, не будзем пра гэта гаварыць, але, калі ў вас запытаюцца, што гэта значыць, адказвайце так *(спявае)*:

Вось Валянцінаў дзень настаў,
Дзень добры! — я твая,
І Валянцінай пад акном
Цябе чакаю я.
Ён запрасіў яе ў пакой,
Дзяўчыне вельмі рад.
Яна ўвайшла, але пайшла
Нячэснаю назад.

Каралева

О мілая Афелія!

Афелія

Ага, бачыце! Не трэба ніякіх прысяг, я зараз скончу. *(Спявае.)*

О, гора мне, о, ліха мне,
І што ж ён нарабіў!
Што ні хлапец — адзін канец:
Дзяўчыну загубіў.
Ты ж мне казаў, ты ж прысягаў:
Вяселле будзе ў нас.

Ён адказвае: «Клянуся сонцам, я б узяў цябе замуж, каб ты не валялася са мною ў пасцелі».— Ага!

Кароль

Даўно яна такая?

Афелія

Спадзяюся, што гэта к лепшаму. Трэба пацярпець. Але я не магу не плакаць, калі ўспомню, што яго палажылі ў халодную зямлю. Мой брат павінен гэта ведаць, дзякуй вам, што вы мне нараілі.— Падайце мой фаэтон! — Дабранач, мілыя людзі. Дабранач. Дабранач.

Выходзіць.

Кароль

Будзь ласкаў, выйдзі прыглядзі за ёю.

Гарацыо выходзіць.

Вось умярцвенне розуму ад гора;
Крыніца — гібель бацькі. Ах, Гертруда,
Гертруда, ліха не ідзе ўраздроб,
А батальёнамі. Памёр Палоній;
Галоўны звадыяш і пачынальнік,
Наш любы пасынак пакінуў нас;
Народ узбаламучан, наракае
І строіць нездаровыя здагадкі
Наконт забойства. Дрэнна мы зрабілі,
Што шыта-крыта справілі хаўтуры.
Афелія-сіротка звар'яцела,
Згубіла светач мыслі, без якога
Мы толькі лялькі ці звяры. Нарэшце,
І гэта рэшта варта усяго,
Лаэрт таемна з Францыі вярнуўся,
Узрушаны блукае чорнай хмарай,
Збірае чуткі пра забойства бацькі
Пад пошасныя брэхі шаптуноў;
Паколькі ж матар'ялу малавата,
То падазронасць кінецца на нас,
І ганьбаваць пачнуць персону нашу
З канца ў канец. О любая Гертруда,
Усё гэта, як шрапнель, па ўсёй краіне
Рыхтуе смерць маю.

Шум за сцэнай.

Каралева

О божа, што там?

Уваходзіць другі прыдворны.

Кароль

Дзе мае швейцарцы?
Нікога не ўпускаць. Што там такое?

Прыдворны

Ратуйцеся, ўладар!
Сам акіян, заліўшы берагі,
Не пажырае так імпэтна дол,
Як малады Лаэрт з мяцежнай зграяй
Змятае варту! Чэрнь ідзе за ім.
І, нібы толькі што пачаўся свет,
Стаптаны звычаі, забыта даўнасць —
Апора і сцвярджэнне слоў і дзей,
Яны крычаць: «Лаэрта абіраем,
Лаэрт — кароль!» Ляцяць угору шапкі,
Лес рук і пошчак аж да неба ўзвіўся:
«Лаэрт — кароль! Лаэрта каралём!»

Каралева

Бач, як заяхкалі, на след узбегшы;
А не даждалі, дацкія сабакі!

Кароль

Ўзламаны дзверы.

Уваходзіць Лаэрт, узброены; за ім датчане.

Лаэрт

Дзе той кароль? Чакайце, не ўваходзьце.

Датчане

Пусціце нас.

Л а э р т

Кажу вам, прэч. Я сам.

Д а т ч а н е

Мы пачакаем.

Выходзяць за дзверы.

Л а э р т

Дзякуй. Стаць на варце.
Ты, пакасны кароль, аддай мне бацьку.

К а р а л е в а

Спакойна, друг.

Л а э р т

Калі ва мне ёсць кропля
Крыві спакойнай,— я не бацькаў сын;
Няхай тады мой бацька рогі носіць,
А маці на чале сваім бязгрэшным
Кляймо блудніцы.

К а р о л ь

Што з табой, Лаэрт?
Чаго ты ўзбунтаваўся, як гігант? —
Няхай ідзе; Гертруда, не пужайся,
Асоба караля недатыкальна,
Над ёю бог і здрада не памкнецца
Падняць руку сляпую.— Што з табою?
Чым ты распален? — Не трымай яго,
Гертруда.— Што нам скажаш?

Л а э р т

Дзе мой бацька?

Кароль

Памёр.

Каралева

Але кароль тут ні пры чым.

Кароль

Няхай пра ўсё пытае.

Лаэрт

Як памёр?
Чмуціць я не дазволю, ў зман не дамся.
Васальства к чорту! Абавязкі к чорту!
У пекла к чорту веру і сумленне!
Я не баюся кары. Заяўляю:
Мне напляваць на той свет і на гэты,
Што мае быць, то будзе. Я адпомшчу
За бацьку поўнасцю.

Кароль

Ніхто не кажа,
Хто можа затрымаць цябе?

Лаэрт

Ніхто. Я сам. Мая дыктуе воля.
А што да сродкаў — я іх скарыстаю,
З малым даб'юся многага.

Кароль

Лаэрт,
Калі жадаеш ты праўдзівых вестак
Аб смерці дарагога твайго бацькі,
Няўжо ты будзеш помсціць без разбору,

Зграбаць у кучу ворагаў і блізкіх,
Абы-каго?

Л а э р т

Не, ворагаў адных.

К а р о л ь

А ты іх хочаш ведаць?

Л а э р т

Сяброў яго і прыяцеляў нашых
Я абдыму магутнымі рукамі
І, як самаахвярны пелікан,
Аддам ім кроў сваю.

К а р о л ь

О, ты гаворыш
Як добры сын, як дваранін сапраўдны.
Што я не вінаваты ў гэтай смерці
І ў смутку сам душой за ўсё хварэю,—
Павінна ў мыслі увайсці твае,
Як сонца ў вочы.

Д а т ч а н е *(за сцэнай)*

Хай ідзе, пусціце.

Л а э р т

Што там за шум?

Уваходзіць А ф е л і я.

Агонь, спалі мяне!
О слёзы, перасоленыя горам,
Заліце вочы мне, каб я не бачыў!
Клянуся небам, за твае вар'яцтва

Я так сышчу, што дрогнуць шалі праўды
І стрэлка перацягне у мой бок.
О ружа майская, мая дзяўчына,
Дзіця, сястра, Афелія мая!
О неба, ці ж дзявочы светлы розум
Згасае так жа, як згасае старасць?
Якою шчырай можа быць прыхільнасць!
Свой самы лепшы, самы дзіўны дар
Яна навекі аддала таму,
Каго любіла.

Афелія *(спявае)*

У труне ляжыць ён непакрыты,—
Цім, цім, ці-ра-рым, весялей!
Слёзы горкія над ім праліты...
Бывай, мой голуб.

Лаэрт

Каб мела розум ты і гаварыла:
Адпомсці, брат,— лягчэй бы мне было.

Афелія

Вам трэба спяваць: «Цім, цім, ці-ра-рым, весялей». Каб сюды калаўрот, вось бы круціўся! Злодзей цівун украў дачку ў свайго гаспадара.

Лаэрт

Нікчэмнасць, але як хвалюе.

Афелія

Вось размарын — гэта для ўспамінаў; калі ласка, мой любы, успамінай. А вось браткі — гэта для дум.

Л а э р т

Навука ў вар'яцтве: думы і ўспаміны разам.

А ф е л і я

Вось гэта кроп для вас і казялец. А вось тут рута для вас і трошкі для мяне; яе можна назваць травою прабачэння ў нядзельку, але вы павінны насіць вашу руту іначай. Вось стакротачкі. Я б вам дала і фіялак, ды яны ўсе павялі, калі памёр мой тата; кажуць, ён хораша паміраў. *(Спявае.)*

Прыгожы мой Робін,
Радасць мая!..

Л а э р т

Журбу і мысль, пакуты, нават пекла
Яна ператварае ў хараство.

А ф е л і я *(спявае)*

Няўжо ён не вернецца зноў?
Няўжо ён не вернецца зноў?
Ён мёртвы, ў труне,
Не вернецца, не,
Ніколі не вернецца ён.
Яго барада, як снег;
Яго валасы, як лён.
Ён пайшоў на той свет,
Але плакаць не след,—
Ратуй яго, божа, ратуй...
І ўсе хрысціянскія душачкі.— Да пабачэння!

Выходзіць.

Л а э р т

Вы чуеце? О неба!

К а р о л ь

Лаэрт, я маю права і хачу
Дагаварыцца з крыўдаю тваёю.
Хадзем, збяры сяброў сваіх мудрэйшых,
Хай выслухаюць і рассудзяць нас.
Калі яны нас проста альбо ўскосна
Прызнаюць вінаватым, мы гатовы
Аддаць карону, і дзяржаву нашу,
І нашае жыццё, і ўсё, што наша,
Табе ў задавальненне. Калі ж не,
Згадзіся пацярпець, і мы з табою,
Злучыўшы гнеў і душы у адно,
Адпомсцім ворагу.

Л а э р т

Хай будзе так.
І смерць яго, і пахаванне ўпотай,
Без герба, без мячоў над дамавінай,
Без пышнасці належнай і абрадаў,
З нябесных высяў скаргаю грымяць.
Пара мне разлічыцца!

К а р о л ь

Так, пара.
Крыўдзіцель не ўцячэ ад тапара.
Прашу за мною.

Выходзяць.

## СЦЭНА VI

Другі пакой у замку.
Уваходзяць Гарацыо і слуга.

Гарацыо

Хто там мяне пытае?

Слуга

Прыйшлі матросы; кажуць, ёсць лісты на ваша імя.

Гарацыо

Пусці іх.

Слуга выходзіць.

Не ведаю, хто і з якога краю
Успомніў пра мяне, калі не Гамлет.

Уваходзяць матросы.

Першы матрос

Благаславі вас бог, пане.

Гарацыо

І цябе таксама.

Першы матрос

Калі захоча, то і мяне благаславіць. Вам тут ёсць ліст, калі толькі вас завуць Гарацыо, як мне казалі. Гэта ад пасла, які павінен быў ехаць у Англію.

Гарацыо *(чытае)*

«Гарацыо, прачытаўшы гэта, дапамажы як-небудзь гэтым хлопцам атрымаць доступ да караля; у іх ёсць

да яго лісты. Не прабылі мы і двух дзён на моры, як за намі пагнаўся моцна ўзброены ваяўнічы пірат. Бачачы, што наш паруснік дае малы ход, мы нехаця набраліся храбрасці; калі была бойка, я пераскочыў да іх, і яны адразу адплылі ад нас; такім чынам, я апынуўся ў палоне адзін. Яны абышліся са мной, як добрыя разбойнікі; але яны ведалі, што ім трэба; я павінен быў зрабіць ім паслугу. Паклапаціся, каб кароль атрымаў мае лісты, а сам хутчэй, з усіх ног, быццам уцякаеш ад смерці, імчыся да мяне. Я скажу табе на вуха такое, што ты аслупянееш, і ўсё ж гэта будзе дробязь у параўнанні з выключнасцю справы. Гэтыя слаўныя хлопцы пакажуць табе, дзе я спыніўся. Разенкранц і Гільдэнстэрн плывуць у Англію, пра іх я табе шмат чаго раскажу. Бывай.

Твой друг Гамлет».

Хадзем, вы аддасце свае лісты
І мне паможаце знайсці таго,
Хто вас паслаў сюды. Адкладваць нельга.

Выходзяць.



## СЦЭНА VII

Другі пакоі у замку.
Уваходзяць **к а р о л ь** і **Л а э р т.**

**К а р о л ь**

Цяпер ты ведаеш усё, нарэшце.
Я апраўданы. Прымацуй мяне
Пячаткай дружбы да сваёй душы.
Той, кім забіты твой шаноўны бацька,
Рабіў замах на нас.

**Л а э р т**

Выходзіць так.
Але скажыце мне, як вы цярпелі
Такія абураючыя факты,
Такія крымінальныя злачынствы:
Ваш супакой, ваш розум, ваша годнасць,
Усё вам дыктавала не маўчаць.

**К а р о л ь**

О, дзве прычыны ёсць; табе яны
Пакажуцца нязначнымі, аднак
Я вымушан лічыцца. Каралева
Без сына жыць не можа, сам жа я
(Загана гэта, ці мая заслуга?)
Прывязан да яе усёй істотай:
Як зорка, што ў адвечным коле кружыць,
Так я пры ёй. Другая акалічнасць,
Якая перашкодаю стаіць
Між мною і публічнаю расправай,—
Народная прыхільнасць да яго.

Як той паток, што з дрэва робіць камень,
Тупая чэрнь, злачынствы патапіўшы
У спачуванні, замест ланцугоў
Яму навяжа банты. Рызыкоўна
Пускаць стралу супроць такога ветру,—
Яна б вярнулася ў мой лук назад,
А вораг быў бы цэлы.

Лаэрт

Няма ў мяне больш бацькі і не будзе,
Сястра мая ў адчаі чорным гіне,
Чыя краса і чыстае дзявоцтва,
Калі б назад магла ісці хвала,
Ўздымаліся б, як сонца, над вякамі,—
Але я не дарую, я адпомшчу!

Кароль

Не гарачыся. Можаш спаць спакойна.
Не думай, што мы чуласці не маем.
Калі раптоўна нас за бараду
Ухопіць небяспека, мы не скажам,
Што гэта жарт. Пачуеш хутка болей.
Твой бацька быў нам любы, і мы любім
Саміх сябе, адгэтуль выцякае...

Уваходзіць пасланец.

Што там? Якія весткі?

Пасланец

Уладар,
Лісты ад прынца,— вам і каралеве.

Кароль

Ад Гамлета? Хто іх прынёс?

Пасланец

Матросы, уладар; я сам не бачыў;
Мне перадаў іх Клаўдыо, ён першы
Іх атрымаў.

Кароль

Лаэрт, ты будзеш слухаць.—
Пакінь нас.

Пасланец выходзіць.

*(Чытае.)* «Высокі і магутны, даводжу да вашага ведама, што мяне высадзілі голым на бераг вашага каралеўства. Заўтра я буду хадайнічаць аб дазволе глянуць у вашы каралеўскія вочы; і тады, папярэдне папрасіўшы ў вас прабачэння, далажу аб прычынах майго нечаканага і вельмі дзіўнага з'яўлення тут.

Гамлет».

Што гэта значыць? Рэшта дзе? Няўжо
Усе вярнуліся! Тут нешта ёсць.
Ці не падман?

Лаэрт

А вам рука вядома?

Кароль

Так, піша Гамлет. «Голым»,— і яшчэ
Тут у прыпісцы сказана — «адзін».
Што нам параіш?

Л а э р т

Не разумею. Што ж, няхай прыходзіць,
Уцепліцца душы маёй хвароба,
Калі публічна крыкну ў твар яму:
«Твая работа».

К а р о л ь

Калі так, Лаэрт...
Не, гэтак нельга. Як іначай? Вось...
Я буду кіраваць табою, хочаш?

Л а э р т

Я згодзен, уладар, але, прашу вас,
Кіруйце так, каб міру не было.

К а р о л ь

Я мір вярну табе. Калі цяпер
Ён тут у нас і болей не захоча
Пакінуць нас, я дам яму заданне,—
У галаве якраз наспела думка,—
На гэты раз яго падкосіць смерць;
Ні ганьбы нам не будзе, ні папрокаў,
Намеру нават маці не заўважыць,
Падумае — няшчасце.

Л а э р т

Уладар,
Кіруйце мною, і было б найлепей,
Каб я быў вашай зброяй.

К а р о л ь

Так і будзе.
Як ты паехаў, шмат было гаворак

Аб тым, што ты валодаеш бліскуча
Адным майстэрствам. Гамлет гэта чуў.
Усе дары твае не абудзілі
У ім такое зайздрасці, як гэты,
Зусім звычайны, на мой погляд, дар.

Лаэрт

Які, о мой кароль?

Кароль

О, гэта толькі
Істужка на капелюшы юнацтва,
Але патрэбная. На кожны ўзрост
Свой звычай і адзежа: юнаку —
Прыгожыя і лёгкія уборы,
А пажылому — футра і сукно
Для большае вагі і для здароўя.
Не так даўно, два месяцы назад,
Тут быў адзін нармандскі дваранін;
Я ведаю французаў, біўся з імі,
Выдатна ездзяць; але гэты зух
Быў проста чараўнік, сядзеў так зграбна,
Такія дзівы выраблаў з канём,
Нібы той конь і чалавек на ім
Былі адной натуры. Усё, што мне
Даводзілася бачыць на турнірах,
Ён перавысіў.

Лаэрт

Кажаце, нармандзец?

Кароль

Нармандзец.

Л а э р т

Клянуся, гэта быў Ламонд.

К а р о л ь

Ён самы.

Л а э р т

Я з ім знаёмы; сапраўды ён перл
І дыямент свайго народа.

К а р о л ь

А ён цябе хваліў, назваў выключным
Тваё уменне фехтаваць на шпагах,
Падкрэсліў дасканаласць абароны,
І ў захапленні выказаўся так:
«Вось бы пабачыць роўнага яму!
Найлепшыя байцы краіны нашай
Губляюць вернасць зроку, рух і націск
У паядынку з ім». Ацэнка гэта
Так атруціла Гамлету нутро,
Што з зайздрасці ён месца не знаходзіў,
Усё чакаў, калі ты зноў прыедзеш,
Каб сіламі памерацца з табой.
Адгэтуль...

Л а э р т

Што адгэтуль, уладар?

К а р о л ь

Лаэрт, ці дарагі табе твой бацька?
Няўжо, як тое гора на малюнку,
Ты маеш твар, але не маеш сэрца?

Лаэрт

Нашто вам гэта ведаць?

Кароль

Не таму
Пытаюся, што бацькі ты не любіш,—
Ён дарагі табе. Але я знаю,
Паводле практыкі і назірання:
Пачуцці падпарадкаваны часу,
Не толькі іскры, нават і пажары
Ў яго прасторах гаснуць. У каханні
Ёсць гэтак жа свой кнот і свой нагар.
Нішто не застаецца раўнацэнным;
Каштоўнае, разбухшы цераз меру,
Нарэшце лопаецца. А таму
Рабіць патрэбна тое, што мы хочам,
Тады, калі мы хочам, бо ахвота
Мяняецца; ёй могуць перашкодзіць
Язык, рука, здарэнне,— і тады
«Патрэбна» можа стаць, як цяжкі ўздых,
Што з мукай аблягчае нашы грудзі.
Наступім на балячку. Гамлет тут.
Чым ты дакажаш, што ты бацькаў сын?

Лаэрт

Яму ў царкве я перарэжу горла.

Кароль

Царква не ёсць прытулак для забойцы,
І помсце меж няма. Але, мой дружа,
Каб гэта учыніць, сядзі лепш дома.
Як толькі Гамлет з'явіцца, адразу

Даведаецца ён, што ты вярнуўся;
Мы будзем выхваляць тваё майстэрства
І славу, што надаў табе француз,
Пакрыем новым глянцам; мы звядзём вас
І выставім заклады; бесклапотны,
Велікадушны, поўны шчырай веры,
Ён шпаг глядзець не стане, і ты лёгка,
Ці трошкі змахляваўшы, можаш выбраць
Клінок без наканечніка, і спрытным,
Умела накіраваным ударам
Ты расквітаешся за бацьку.

Лаэрт

Згодзен.
Пры гэтым я намажу свой клінок.
Вандроўны лекар мне прадаў атруты,
Такое моцнай, што, калі нажом,
Намочаным у ёй, дастаць крыві,
Усе прыпаркі, з усіх траў гаючых,
Якія ёсць пад месяцам, не здольны
Уратаваць ад смерці. Я натру
Канец маёй рапіры гэтым зеллем,
І калі я хоць чуць яго параню,
То ён памрэ.

Кароль

Мы гэта абмяркуем,
Узважым час і сродкі ўсебакова;
Бо калі нам не ўдасца наша справа
І выкананне дрэннае нас выдасць,
То лепш не пачынаць. Дзеля таго
Патрэбна гэты план падмацаваць

Яшчэ адным, больш пэўным. Дай падумаць.
Мы урачыста б'ёмся аб заклад...
Знайшоў:
Калі ад рухаў горача вам стане
(А ты будзь паваротлівым, старайся),
І ён папросіць піць, то будзе намі
Падрыхтавана загадзя віно;
Абы ён кубак прылажыў да губ,
Хаця б ты й не ўкалоў яго,— гатова,
Канцы яму. Чакай, што там за шум?

Уваходзіць *каралева.*

А! — каралева наша.

**Каралева**

Была бяда, цяпер бяда другая:
Твая сястра ўтапілася, Лаэрт.

**Лаэрт**

Утапілася! Дзе?

**Каралева**

Над рэчкаю расце вярба старая,
У люстра вод глядзіцца сівым лісцем;
Пад той вярбой яна пляла гірлянды,
Вянкі віла: касач, і крапіва,
І кураслеп, і доўгі цвет чырвоны,
Які у пастухоў завецца груба,
А ў сельскіх дзевак — пальцам мерцвяка;
Яна хацела пачапіць на голле
Набытак свой; нядобры сук зламаўся;
І разам з кветкамі яна упала

Ў рыдаючую плынь. Яе адзенне,
Раскінуўшыся, падняло яе;
Яна ўсплыла, як німфа, і спявала
Урыўкі песень...
Далёкая ад гора і адчаю,
Нібы ў сваёй стыхіі. Ды не доўга
Было ўсё гэта. Плацце стала цяжкім,
І апусцілася яна на дно,
З улоння музыкі у багну смерці.

Л а э р т

Ўтапілася?

К а р а л е в а

Ўтапілася, няма.

Л а э р т

Афелія, табе вады даволі,
І слёзы я стрымаю. Але ўсё ж
Прырода забірае верх, хоць воля
І супярэчыць. Выцекуць яны,
І выйдзе вон жаночы дух.— Бывайце.
Сказаў бы я вам словы агнявыя,
Калі б не гэты боль.

Выходзіць.

К а р о л ь

Хадзем, Гертруда.
Насілу я суняў, такі быў гнеў;
Баюся, каб ізноў не ашалеў.
Не трэба пакідаць яго. Хадзем.

Выходзяць.



## СЦЭНА I

Могілкі.
Уваходзяць два блазны з рыдлёўкамі ды іншым.

Першы блазен

Ці ж можна хаваць па-хрысціянску таго, хто самаўпраўна шукае сабе збавення?

Другі блазен

Я табе кажу, што можна; капай хутчэй яму; было следства, і вырашылі хаваць яе па-хрысціянску.

Першы блазен

Як гэта так, раз яна ўтапілася не ў парадку самаабароны?

Другі блазен

А табе што? Такое рашэнне.

Першы блазен

Але ж трэба, каб нехта нападаў. У гэтым жа ўся штука. Бо калі я таплюся наўмысна,— гэта азначае дзею, а ўсякая дзея мае тры галіны, а іменна: дзею, учынак і выкананне; выходзіць, што яна ўтапілася з намерам.

Другі блазен

Не, ты паслухай лепш, далакоп.

Першы блазен

Адчапіся. Вось тут, напрыклад, вада; добра; а вось тут, напрыклад, чалавек. Калі чалавек ідзе да вады і топіцца, выходзіць, хоча ён таго ці не хоча, але ён ідзе; заўваж гэта; калі ж вада сама ідзе да яго, то не ён топіцца, а яго топяць. Значыцца, той, хто не вінаваты ў сваёй смерці, не ўкарочвае свайго веку.

Другі блазен

Такі закон?

Першы блазен

А то як жа; крымінальны закон.

Другі блазен

А хочаш, каб я сказаў табе праўду? Не будзь яна дваранкай, яе б не хавалі па-хрысціянску.

Першы блазен

Зразумела; крыўдзяць нас,— бо каторы вялікі пан, то яму на гэтым свеце і тапіцца і вешацца можна з выго-

дамі, не то што нашаму брату-хрысціяніну. Капанём, рыдлёвачка! Самыя даўнія дваране — садоўнікі, грабары і магільшчыкі; у іх Адамава прафесія.

Другі блазен

Хіба Адам быў дваранін?

Першы блазен

А то як жа; ён першы набыў сабе ўзбраенне.

Другі блазен

Няпраўда; у яго зброі не было.

Першы блазен

Ты што, у бога не верыш, ці што? Як ты разумееш свяшчэннае пісанне? У пісанні сказана: Адам капаў. Не голымі ж рукамі ён капаў? Ясна, што ён быў узброены — рыдлёўкай. Я задам табе другое пытанне, калі ты мне не адкажаш, то прызнайся, што ты...

Другі блазен

Задавай.

Першы блазен

Хто будуе мацней за муляра, карабельніка і цесляра?

Другі блазен

Шыбенічны майстар; яго будынак пераживае тысячу кватарантаў.

Першы блазен

Нядрэнна; шыбеніца — добра. Але каму добра? Таму, хто дрэнна робіць. А ты робіш дрэнна, сказаўшы, што

шыбеніца пабудавана мацней, чым царква; значыцца: шыбеніца табе ў самы раз. Пачынай спачатку, ну.

Другі блазен

Хто будуе мацней за муляра, карабельніка і цесляра?

Першы блазен

Так, адказвай, і будзеш вольны.

Другі блазен

Дальбог, ведаю.

Першы блазен

Ну?

Другі блазен

От, чорт, забыўся.

Уваходзяць Гамлет і Гарацыо, паводдаль.

Першы блазен

Не ламай дурное галавы. Колькі ты асла не бі, усё роўна кроку не набавіць. А калі хто ў другі раз будзе ў цябе пытацца, адказвай — магільшчык; яго хаты стаяць да страшнага суда. Вось што, схадзі лепш да Ёгена, прынясі мне кварту гарэлкі.

Другі блазен выходзіць.

Першы блазен *(капае і пяе)*

Любіўся я, кахаўся я,
Калі быў малады,
Быў дужы я, ух, сіла мая!
Не ведаў я бяды.

Гамлет

Няўжо гэты чалавек не адчувае, што ён робіць? Капае магілу і пяе.

Гарацыо

Прывычка, прынц.

Гамлет

Заўсёды так. Чым менш рука працуе, тым больш у яе чуласці.

Першы блазен *(спявае)*

Але старасць-зладзейка прыйшла
І вытрасла сілу з мяне;
І шчасце мінула, як сон,
І я апынуўся ў труне.

Выкідае чэрап.

Гамлет

Калісьці ў гэтым чэрапе быў язык, і ён мог спяваць; а гэты мужык шпурнуў яго вобземлю, нібы сківіцу Каіна, першага забойцы. Быць можа, гэта галава належала якому-небудзь палітыку, які збіраўся перахітрыць самога госпада бога, а цяпер яе перахітрыў гэты асёл. Як ты думаеш?

Гарацыо

Магчыма, прынц.

Гамлет

Альбо прыдворнаму, які любіў паўтараць: «Добрага рання, найяснейшы прынц! Як вы маецеся, даражэнькі

прынц?..» Гэта мог быць пан такі-та, які хваліў каня пана такога-та, каб мець гэтага каня на сваёй стайні? Што, мо няпраўда?

Гарацыо

Праўда, прынц.

Гамлет

Я ж кажу; а цяпер гэта — пані Гніль, абадраная, абшарпаная, і гэты далакоп стукае яе рыдлёўкаю па пустому чэрапу. Надзвычайна цікавы пераварот, каб толькі можна было падгледзець, як гэта робіцца. Няўжо гэтыя косці ствараліся толькі на тое, каб імі гуляць у бабкі? Мае ўласныя баляць, калі падумаю аб гэтым.

Першы блазен *(спявае)*

Матыка і рыдлёвачка,
І покрывачка ёсць:
Ах, выкапана ямачка,—
Лажыся, мілы госць!

Выкідае другі чэрап.

Гамлет

Вось яшчэ адзін. Чаму яму не быць чэрапам якога-небудзь законніка? Дзе цяпер яго «можна так» і «можна гэтак», яго каверзы, яго прычапкі, яго ашуканства? Чаму ён дазваляе гэтаму грубіяну таўчы яго брудным жалезняком па патыліцы і не прыцягвае «вышэйпамянёнага» да судовай адказнасці за абразу дзеяннем? Гм! А можа гэта быў які-небудзь прайдзісвет, што скупляў маёнткі, і былі ў яго закладныя, і канчатковыя, і падвойныя пасведчанні, і штрафы, і спагнанні. І вось,

у канчатку ўсіх канчаткаў і ў спагнанне ўсіх спагнанняў, яго ўласніцкая галава напоўнена брудам. Няўжо ўсе яго пасведчанні, асабліва падвойныя, не маглі даць яму больш зямлі, чым столькі, колькі можна прыкрыць параю зямельных актаў? Наўрад ці ўлезлі б усе яго паперы ў тую скрынку, у якую ён сам улез. Мала ж тады чалавеку зямлі дастаецца.

Гарацыо

Мала, прынц.

Гамлет

Пергамент робіцца з авечае скуры?

Гарацыо

З авечае і з цялячае, прынц.

Гамлет

Авечкі і цяляты тыя, што спадзяюцца на пергамент. Пагутару з гэтым мужыком.— Чыя гэта магіла, чалавеча?

Першы блазен

Мая, пане. *(Спявае.)*

Ах, выкапана ямачка,—
Лажыся, мілы госць!

Гамлет

Відаць, твая, раз ты ў ёй ляжыш.

Першы блазен

Вас сюды не палажылі, дык яна і не ваша; а я хоць і не ляжу ў ёй, але яна мая.

Гамлет

Тады ты строіш дурня, кажучы, што яна твая. Гэта для мёртвых, а не для жывых. Ты проста строіш дурня.

Першы блазен

Выбачайце, мой дурань не просты, а падкідны; дазвольце перакінуць яго вам назад.

Гамлет

Каму ты капаеш гэта?

Першы блазен

Нікому.

Гамлет

Жанчыне?

Першы блазен

І не жанчыне.

Гамлет

Хто будзе тут пахаваны?

Першы блазен

Тая, што была калісьці жанчынай; цяпер яна памерла, царства ёй нябеснае.

Гамлет

Як правільна ён адказвае! Трэба гаварыць асцярожна, каб не збіў. Клянуся небам, Гарацыо, век цяпер такі востры, што селянін, дагнаўшы прыдворнага, наступае

яму не толькі на мазоль, але і на язык.— Даўно ты працуеш магільшчыкам?

Першы блазен

З усіх дзён у годзе я пачаў якраз у той дзень, калі нябожчык кароль наш Гамлет адолеў Фарцінбраса.

Гамлет

А даўно гэта было?

Першы блазен

Хіба не ведаеце? Кожны дурань гэта ведае. Гэта было ў той дзень, калі нарадзіўся малады Гамлет; той самы, што звар'яцеў і пасланы ў Англію.

Гамлет

Ну, што ты кажаш! Чаго ж яго паслалі туды?

Першы блазен

Як чаго? Ён жа вар'ят. Там ён павінен паразумнець; а калі не, то ў Англіі гэта не бяда.

Гамлет

Чаму?

Першы блазен

Там гэтага не заўважаць; там усе такія ж вар'яты.

Гамлет

Як жа ён звар'яцеў?

Першы блазен

Кажуць, вельмі дзіўна.

Гамлет

Як жа дзіўна?

Першы блазен

Ды так, што розум страціў.

Гамлет

На якой глебе?

Першы блазен

На дацкай, пане; вось ужо трыццаць год, як я тут сторажам на цвінтары.

Гамлет

Ці доўга можа праляжаць чалавек у зямлі, не згніўшы?

Першы блазен

Гледзячы які: той, што не згніў пры жыцці (цяпер гэта рэдка бывае — не паспееш пахаваць, як ужо гной свішча),— той пратрымаецца так гадоў восем альбо дзевяць; гарбар — дзевяць гадоў.

Гамлет

А чаму ён даўжэй?

Першы блазен

Бо яго праца такая; цэлы век скуру скрабе, чысціць, квасіць, сушыць, дык і сам робіцца як падэшва; яго труп вады не прапускае, а каторы труп прапускае ваду, той хутка разлазіцца. Вось яшчэ чэрап. Гэты чэрап праляжаў у зямлі дваццаць тры гады.

Гамлет

Чый гэта?

Першы блазен

Вар'ята аднаго шалёнага; як вы думаеце, чый?

Гамлет

Не ведаю.

Першы блазен

Каб на яго чорная немач, на паскудніка гэтага кручанага! Ён мне некалі выліў на галаву бутэльку рэйнвейну. Гэта чэрап Йорыка, каралеўскага блазна.

Гамлет

Гэты?

Першы блазен

Гэты самы.

Гамлет

Пакажы мне. *(Бярэ чэрап.)* Бедны Йорык! Я ведаў яго, Гарацыо; гэта быў чалавек вельмі вясёлы, з невычэрпнай фантазіяй, тысячу разоў ён насіў мяне на сабе; а цяпер — як агідна мне глядзець на гэта! Мяне нудзіць, мне робіцца млосна. Тут былі вусны, якія я цалаваў так часта. Дзе цяпер твае тонкія кпіны? Твае скокі? Твае песні? Дзе выбухі іскрыстых жартаў, ад якіх рагатаў увесь стол? Няма ніводнага, каб паддзекавацца з тваіх уласных выскаленых зубоў. Адвісла сківаца. Зайдзі цяпер у спальню да якой-небудзь дамы

і скажы ёй: няхай яна наложыць фарбы на цэлы палец, усё роўна будзе нарэшце такою ж; пасмяшы яе гэтым.— Калі ласка, Гарацыо, скажы мне...

Г а р а ц ы о

Што, мой прынц?

Г а м л е т

Як ты думаеш, Аляксандр у зямлі ляжаў такі самы?

Г а р а ц ы о

Такі самы.

Г а м л е т

І гэтак жа пахнуў? Фэ!

Кідае чэрап.

Г а р а ц ы о

Гэтак жа, прынц.

Г а м л е т

Да якое нікчэмнасці мы можам апусціцца, Гарацыо! Чаму б уяўленню не прасачыць прах Аляксандра да таго моманту, калі ім замажуць дзірку ў бочцы?

Г а р а ц ы о

Разглядаць з'явы так, гэта азначала б разглядаць іх занадта падрабязна.

Г а м л е т

О не; да гэтага можна дайсці зусім проста, кіруючыся прынцыпам праўдападобнасці. Напрыклад: Аляксандр

памёр, Аляксандра пахавалі, Аляксандр спарахнеў; прах — зямля, у зямлі здабываюць гліну. Чаму ж тады глінаю, у якую ператварыўся прах Аляксандра, нельга замазаць піўную бочку?

Магутны Цэзар згніў у гліне вязкай
І стаў звычайнаю для сцен замазкай;
Матэрыя, што пагражала свету,
Бароніць нас ад холаду і ветру.

Цішэй! Увага! Вунь ідзе кароль.

Уваходзяць свяшчэннікі ды іншыя, працэсіяй; нясуць цела Афеліі; за імі — Лаэрт, кароль, каралева і некалькі прыдворных.

З ім каралева, двор. Каго нясуць?
І так убога? Як відаць, хаваюць
Таго, хто сам сябе жыцця пазбавіў
Рукою роспачнаю. Нехта знатны.
Адыдзем, паглядзім.

Адыходзіць з Гарацыю.

Лаэрт

Які яшчэ абрад?

Гамлет

Тут і Лаэрт, юнак высакародны;
Глядзі, глядзі!

Лаэрт

Які яшчэ абрад?

Свяшчэннік

Хаўтурны чын працягнуты і так,
Наколькі можна; скон яе няпэўны;

Каб не парушан быў царкоўны статут
Загадам найвышэйшым, то яна
Ляжала б у зямлі неасвячонай
Да страшнага суда; замест малітвы,
Ёй кідалі б чарэп'е і каменне;
А мы далі ёй провады і звон,
На ёй вянкі дзявочыя і кветкі.

Л а э р т

Усё, нічога больш?

С в я ш ч э н н і к

Нічога больш.
Мы б апаганілі святую службу,
Каб рэквіем над ёю праспявалі,
Як над душой, што ў міры адышла.

Л а э р т

Бярыце дамавіну, апускайце,—
Няхай жа з хараства і чыстаты
Фіялкі ўзыдуць! — Знай, бяздушны поп,
Мая сястра сярод анёлаў будзе,
Калі ты ўзвыеш у смале.

Г а м л е т

Афелія!..

К а р а л е в а *(кідаючы кветкі)*

Прыгожыя — прыгожай. Выбачай!
Я думала назваць цябе нявесткай,
Твой шлюбны ложак кветкамі убраць,
А не труну тваю, маё дзіцятка.

Л а э р т

О, трыццаць бед трохкратных на таго,
Хто адабраў твой розум малады
Учынкам злосніцкім! — Зямлі не рушце,
Хачу ў апошні раз яе абняць.

Саскаквае ў магілу.

Цяпер завальвайце жывога з мёртвай.
Жвір, жвір у вочы! Насыпайце насып
Вышэй за Пеліён і за Алімп
Да самых да нябёс.

Г а м л е т *(выходзячы наперад)*

Чый гэта сум
Так пышна выяўляецца? Хто той,
Што заклінае зоры ў буйным смутку
І прымушае іх нямець ад дзіва?
Я — Гамлет, дацкі прынц.

Саскаквае ў магілу.

Л а э р т

Няхай цябе
Ухопіць д'ябал!

Кідаецца да яго біцца.

Г а м л е т

Дрэнная малітва.
Будзь ласкаў, не душы мяне за горла:
Я стрыманы, я ціхі, але ўсё ж
Ёсць нешта небяспечнае ва мне,
Чаго табе лепш сцерагчыся. Прэч!
Прэч рукі!

Кароль

Разніміце.

Каралева

Гамлет, Гамлет!

Усе

Панове...

Гарацыо

Супакойцеся, мой прынц.

Прыдворныя іх разнімаюць, і яны выходзяць з магілы.

Гамлет

О, я за гэта буду біцца з ім
Насмерць.

Каралева

За што, сынок?

Гамлет

Ды я ж любіў
Афелію, любіў; і сорак тысяч
Братоў з усім сваім каханнем братнім
Са мною не зраўняюцца.— Скажы мне,
Што ты гатоў зрабіць дзеля яе?

Кароль

Лаэрт, не слухай,— ён вар'ят.

Каралева

Пабойся бога, пашкадуй яго.

Гамлет

Што ты гатоў зрабіць?
Рваць валасы? Пасціцца? Біцца? Плакаць?
Ніл выпіць? Кракадзіла праглынуць?
І я таксама. Ты прыйшоў тут енчыць?
Ты мне на злосць ускочыў у магілу?
Хацеў, каб пахавалі з ёю разам?
І я таксама. Ты тут горы кідаў?
Няхай жа міліёны дзесяцін
На нас узваляць, каб курган высокі
Апёк свой лоб у зоне агнявой,
З прышчом зраўняўшы Оссу! Ты хваліўся,—
І я магу не горш.

Каралева

Ён непрытомны;
Але прыпадак гэты хутка пройдзе,
І стане ціхі ён, як галубіца
Над залатымі дзеткамі ў гняздзе.

Гамлет

Скажыце,
За што вы абражаеце мяне?
Я меў да вас любоў. Але ўсё роўна;
Што б ні рабіў на свеце Геркулес,
Кот мяўкае, а воўк глядзіць у лес.

Выходзіць.

Кароль

Гарацыю, прашу, сачы за ім.

Гарацыо выходзіць.

*(Лаэрту.)* А ты не забывай умовы нашай.
Мы справе зараз жа дадзім штуршок.—
Гертруда, учыні нагляд за сынам.—
Мы тут паставім манумент жывы:
Тады супакаенне будзем мець,
А покуль што — прыходзіцца цярпець.

Выходзяць.



## СЦЭНА II

Зала ў замку.
Уваходзяць **Гамлет** і **Гарацыо**.

**Гамлет**

Пра гэта досыць; слухай жа далей.
Ці помніш ты апошнія падзеі?

**Гарацыо**

Мой прынц, я помню ўсё.

**Гамлет**

У маёй душы
Ішло змаганне нейкае, і сон
Мяне не браў; ляжаць было мне мулка,

Горш, чым якому арыштанту. Раптам —
Няхай жыве раптоўнасць! — Ведай, дружа:
Часамі рызыка ратуе нас,
І не ўдаецца план. Адгэтуль вывад:
Ёсць нехта, хто канчае нашы справы
Па-свойму, не зважаючы на нас.

Гарацыо

Напэўна.

Гамлет

Апрануўшыся наспех,
З каюты выйшаў я. Ноч. Цемната.
Шукаю гэтых двух. Знаходжу. Спяць.
Схапіў пакет і да сябе ў каюту.
Ад страху забываецца прыстойнасць;
Я дзёрзка ўскрыў пасланне караля.
Што ж там было, Гарацыо! О подласць!
Там быў загад, нашпігаваны густа
Траскучай балбатнёю аб дабры
Англійскае і дацкае дзяржавы,
І ў ім — о, слухай! — столькі начапляна
Чарцей і д'яблаў на маё жыццё,
Што безадкладна, у адну мінуту,
Не навастрыўшы нават тапара,
Мне б галаву адсеклі.

Гарацыо

Быць не можа!

Гамлет

Вось гэтае пасланне; прачытай
У вольны час. Сказаць табе цяпер,
Што я зрабіў?

Гарацыо

Цікава; раскажыце.

Гамлет

Аблытаны навокал ліхадзействам,
Мой розум не прыдумаў і пралога,
Як распачаў ігру. Я сеў за стол,
Склаў новы ліст, перапісаў прыгожа;
Я некалі, як нашыя міністры,
Лічыў за сорам мець прыгожы почырк,
Стараўся развучыцца; але тут
Маё уменне на карысць пайшло.
Ты хочаш ведаць, што я напісаў?

Гарацыо

Хачу, мой прынц.

Гамлет

Ад караля сур'ёзнейшая просьба,—
Паколькі Англія ягоны даннік,
Паколькі паміж іх квітнець павінна
Любоў падобна пальме, гэтаксама,
Паколькі мір пшанічнаю гірляндай
Вісіць над імі, як злучок сяброўства,—
І шмат яшчэ «паколькі» і «злучкоў»,—
Па атрыманні гэтага паслання,
Без разважанняў, доўгіх ці кароткіх,
Падацеляў схапіць, звязаць і знішчыць,
Не даўшы памаліцца.

Гарацыо

А пячаць?

Гамлет

I ў гэтым мне дапамагала неба.
Я пры сабе меў бацькаву пячатку,
Мадэль сучаснай дацкае пячаці.
Згарнуўшы ўсё так, як было раней,
Я падпісаўся, прылажыў пячаць
І непрыкметна ім падкінуў ліст.
Назаўтра быў на моры бой; далей
Ты ведаеш.

Гарацыо

Дык Гільдэнстэрн і Разенкранц плывуць?

Гамлет

Няхай плывуць, ім гэта да спадобы.
Сумленне не гняце мяне. Іх смерць
Ёсць вынік умяшання. Небяспечна
Істотам нізкадушным поўзаць там,
Дзе скрыжаваны коп'і і мячы
Магутных ворагаў.

Гарацыо

Вось дык кароль!

Гамлет

Скажы, ці ж не павінен я паўстаць
Супроць таго, хто атруціў мне бацьку,
Зняславіў маці мне, убіўся клінам
Паміж абраннем і маёй надзеяй,
Жыццё маё на вудачку лавіў

З такою хітрасцю? Ці ж я не ў праве
З ім расквітацца гэтаю рукой?
Ці ж не пракляты буду я навек,
Калі дазволю чарвяку ліхому
Прыроду нашу грызці?

Гарацыо

Мабыць, хутка
Ён атрымае весткі аб падзеях,
Што адбыліся ў Англіі.

Гамлет

Напэўна;
Але пакуль што перапынак мой;
Жыццё людское — скарацечны міг.
Шкада, шкада мне вельмі, друг Гарацыо,
Што я з Лаэртам груба абышоўся,—
Мой лёс і лёс яго зусім падобны.
Хачу мірыцца з ім; але, павер,
Ён так крычаў, так задаваўся горам,
Што я не мог стрымацца.

Гарацыо

Ціха; хто там?

Уваходзіць Озрык.

Озрык

Дазвольце, прынц, вас павіншаваць з прыездам.

Гамлет

Дзякую, пане. *(Ціха Гарацыо.)* Ты ведаеш гэтага матыля?

Г а р а ц ы о *(ціха Гамлету)*

Не, мой прынц.

Г а м л е т *(ціха Гарацыо)*

Тваё шчасце. Той, хто яго ведае,— няшчасны. Гэта абшарнік. Зямлі ў яго многа, поле яго родзіць; а калі скаціна пануе над быдлам, то яе жолаб будзе заўсёды пры каралеўскім стале. Гэта шпак, але, як я ўжо сказаў, прасторна абложаны брудам.

О з р ы к

Святлейшы прынц, калі ваша высокасць мае вольны час, то я меў бы нешта сказаць вашай высокасці ад імя яго вялікасці.

Г а м л е т

Я вас уважна слухаю. Зрабіце з вашым капелюшом тое, для чаго ён прызначаны: надзеньце яго на галаву.

О з р ы к

Удзячны вашай высокасці; вельмі горача.

Г а м л е т

Што вы? Паверце мне, вельмі холадна: вецер з поўначы.

О з р ы к

А яно такі халаднавата, мой прынц.

Г а м л е т

Наадварот, па-мойму, вельмі горача; мне проста душна пры маёй камплекцыі.

Озрык

Надзвычайна, мой прынц. Так душна, так душна, як... я не магу вам выказаць. Ваша высокасць, яго вялікасць запрапанавалі мне давесці да ведама вашай высокасці, што яны пайшлі на вялікі заклад адносна вас; справа ў тым...

Гамлет

Калі ласка, не забывайце.

Прымушае яго надзець капялюш.

Озрык

Мой добры прынц, слова гонару, мне так лепей, слова гонару. Ваша высокасць, нядаўна пры двары з'явіўся Лаэрт. Паверце мне, гэта дасканалейшы дваранін, поўны самых выдатных асаблівасцей, выключна далікатнага абыходжання і вялікай імпазантнасці. Калі гаварыць аб ім з належнай чуласцю, то гэта каляндар і карта прыстойнасці, бо вы ў ім знойдзеце злучэнне тых якасцей, якія жадаў бы мець кожны дваранін.

Гамлет

Акрэслены вамі вобраз не пацярпеў ніякіх страт з вашага боку. Хаця я ведаю, што пералічэнне ўсіх яго ўласцівасцей можа натрудзіць арыфметыку памяці і ўсё ж застацца адсталым у параўнанні з яго імпэтам па шляху дасканаласці; аднак у мэтах праўдзівага праслаўлення, дзіўлюся яму, як істоце вялікіх артыкулаў годнасці. Перад намі футарал такіх неацэнных дыяментаў і крышталяў духу, што яму падобным можа быць толькі яго ўласнае адлюстраванне; той жа, хто ў захапленні кінецца наследаваць яму, будзе яго ценем, не болей.

Озрык

Ваша высокасць, вы атэстуеце яго беспамылкова.

Гамлет

Але якое ён мае да нас дачыненне? Навошта мы абдаём яго высокае імя нашым грубым дыханнем?

Озрык

Прынц?

Гарацыо

Мабыць, вы разумееце толькі тое, што вы самі гаворыце. У вас пытаюцца?

Гамлет

Навошта вы яго ўспомнілі?

Озрык

Лаэрта?

Гарацыо *(ціха Гамлету)*

Яго кашалёк парожні. Чырвонцы сваіх слоў ён растраціў.

Гамлет

Так, Лаэрта.

Озрык

Мне вядома тое, што вы ведаеце...

Гамлет

Рад за вас; але калі вам вядома тое, што я ведаю, то мне невялікі гонар. Прашу далей.

Озрык

...Што вы ведаеце здольнасці Лаэрта.

Гамлет

Не адважуся гэта сцвярджаць, каб не зраўняцца з ім у здольнасцях; ведаць добра чалавека — гэта значыць ведаць самога сябе.

Озрык

Я маю на ўвазе яго здольнасці па часці зброі; паводле агульнага прызнання, у гэтым ён найвыдатнейшы мастак.

Гамлет

Якая яго зброя?

Озрык

Рапіра і кінжал.

Гамлет

Дзве зброі; прымем пад увагу. Ну і што ж?

Озрык

Кароль, ваша высокасць, залажыўся з ім на шэсць берберыйскіх коней, супроць якіх ён паставіў, як я дачуўся, шэсць французскіх рапір і шпаг з усімі іхнімі прыладамі, гэта значыць з паясамі, рамянямі ды іншым; сярод якіх ёсць трое набедраў самых адмысловых форм; вель-

мі адпавядаюць рукаяцям,— надзвычайна зграбныя набедры,— тонкага густу і добрай выдумкі.

Гамлет

Што вы называеце набедрамі?

Гарацыо *(ціха Гамлету)*

Я так і думаў, што тут без каментарыяў не абыдзецца.

Озрык

Набедры, прынц, гэта партупеі.

Гамлет

Ваша слова было б болей дарэчы, каб мы цягалі на сабе гармату; а пакуль што няхай будуць партупеі. Такім чынам: шэсць берберыйскіх коней супроць шасці французскіх шпаг з прыналежнасцямі і трох адмысловай формы набедраў; дацкі заклад супроць французскага. Дзеля чаго ж гэта ўсё «пастаўлена», як вы толькі што вельмі трапна сказалі?

Озрык

Кароль, мой прынц, паспрачаўся, мой прынц, што пры дванаццаці сутычках ён вас не абгоніць больш як на тры ўдары. Лаэрт жа закладаецца на дзевяць, і можна зрабіць зараз жа спробу, калі ваша высокасць явіць добрую волю і скажа: так.

Гамлет

А калі я яўлю дрэнную волю і скажу: не?

Озрык

Я хачу сказаць, калі ваша высокасць дасць згоду на паядынак.

Гамлет

Я буду хадзіць па гэтай зале. Калі яго вялікасць жадае, цяпер якраз мой адпачынак. Няхай прынясуць рапіры. Калі ёсць згода Лаэрта і кароль не адмяніў свайго намеру, то я паспрабую выйграць для яго заклад, а калі не, то будзе сорамна вачам маім і накладна бакам маім.

Озрык

Загадаеце так і перадаць?

Гамлет

У такім сэнсе, пане, з акрасамі ў вашым гусце.

Озрык

Даручаю сябе міласці вашай высокасці.

Гамлет

Цалкам ваш, цалкам ваш.

Озрык выходзіць.

Добра, што ён сам сябе даручае, другі б язык за яго не павярнуўся.

Гарацыо

Пабегла кнігаўка з яечкам на макаўцы.

Гамлет

Ён, мабыць, і за мамчыны грудзі не браўся без кампліментаў. Такія людзі, як ён (а іх ёсць многа — пестуноў нашай засмечанай эпохі), коўзаюцца па паверхні сучаснасці, засвойваючы толькі моду і знадворныя прыёмы абыходжання, нейкую пеністую сумесь, з якою яны

плаваюць у лужыне нікчэмных і вымучаных думак. Дзьмухні на праверку, і бурбалкі палопаюцца.

Уваходзіць вяльможа.

Вяльможа

Прынц, яго вялікасць вітаў вас праз маладога Озрыка, які далажыў, што вы чакаеце яго тут у зале. І выслаў ён дазнацца, ці воля ваша будзе зараз жа спаборнічаць з Лаэртам, ці вы жадаеце мець адтэрмінаванне?

Гамлет

Я нязменны ў сваіх рашэннях; яны супадаюць з воляю караля. Калі ён хоча, то я гатоў. Цяпер альбо пасля, мне ўсё роўна, абы я быў у настроі, як цяпер.

Вяльможа

Кароль, каралева і ўсе ідуць сюды.

Гамлет

У добры час.

Вяльможа

Каралева жадае, каб вы перад пачаткам паядынку як найлепш абышліся з Лаэртам.

Гамлет

Жаданне добрае.

Вяльможа выходзіць.

Гарацыо

Вы прайграеце заклад, мой прынц.

Гамлет

Не думаю; з таго часу, як ён паехаў у Францыю, я не пераставаў практыкавацца і налаўчыўся. Калі я буду мецъ ачкі наперад, я выйграю. Але, каб ты знаў, як мне сумна, як мне цяжка на сэрцы; але гэта ўсё роўна.

Гарацыо

Не, дарагі мой прынц...

Гамлет

Я ведаю, што гэта глупства. У мяне нейкае як бы прадчуванне; жанчыне — той бы стала страшна.

Гарацыо

Калі ваш дух ухіляецца, не пачынайце. Я папярэджу іх, я скажу, што вы не ў настроі.

Гамлет

Не трэба. Што нам прадчуванні! І ў гібелі вераб'я відна рука лёсу. Адбудзецца цяпер, не адбудзецца пасля; не адбудзецца пасля, адбудзецца цяпер; не адбудзецца цяпер — усё роўна калі-небудзь адбудзецца. Быць напагатове — вось і ўсё. Раз ні адзін чалавек не ведае, з чым ён разлучаецца, ці ж не ўсё роўна, калі ён разлучыцца рана? Хай жа адбудзецца!

Уваходзяць кароль, каралева, Лаэрт і вяльможы, Озрык ды іншыя прыдворныя з рапірамі і рукавіцамі; стол, на ім гладышы з віном.

Кароль

Прымі ад нас руку Лаэрта, Гамлет.

Кароль кладзе руку Лаэрта ў руку Гамлета.

Гамлет

Прабач, Лаэрт, цябе пакрыўдзіў я;
Ты мне прабач, як дваранін і рыцар.
Вядома ўсім прысутным, ды і ты
Напэўна чуў, як цяжка пакарала
Мяне хвароба.
Учынак мой, які абразіў груба
Тваю прыроду, гонар і пачуцці,
Я ў гэтым прызнаюся, быў вар'яцтвам.
Каб Гамлет крыўдзіў друга? Не, ніколі.
Лаэрта Гамлет не хацеў пакрыўдзіць.
Калі, разлучаны з сабою, Гамлет
Лаэрта нечакана крыўдзіць,— гэта
Не Гамлет робіць; Гамлет адмаўляе.
А хто? Яго вар'яцтва. Калі так,
Сам Гамлет з ліку тых, хто быў пакрыўджан,—
Вар'яцтвам быў пакрыўджан бедны Гамлет.
І тут, перад высокай грамадою,
Адмовіўшы наўмыснае злачынства,
Я гавару: прабач велікадушна
За тое, што, стралу пусціўшы ў доме,
Параніў брата.

Лаэрт

Злосці я не маю,
Адбушавала помста у душы.
Я — чалавек. Але мой гонар вольны;
Не прыміруся, пакуль хто старэйшы,
Спрактыкаваны у пытаннях чэсці,
Нас не рассудзіць і не скажа — мір,
Каб я быў чысты. Да тае пары

Любоў я вашу як любоў прымаю
І не пакрыўджу вас.

Гамлет

Я цалкам згодзен
І буду біцца ў братнім паядынку.
Падайце нам рапіры.

Лаэрт

Мне адну.

Гамлет

Табе маё няўменне будзе грунтам.
Як зорка на пустынным фоне ночы,
Лаэртава майстэрства заблішчыць.

Лаэрт

Насмешка, прынц?

Гамлет

О не, рукой клянуся.

Кароль

Падай рапіры, Озрык. Любы Гамлет,
Табе заклад вядомы?

Гамлет

Так, вядомы;
Ваш, уладар, на старане слабейшай.

Кароль

Я не баюся, бачыў вас абодвух,
Ён мо спрытнейшы, але ў нас ачкі.

Л а э р т

Не, гэта цяжкая; другую дайце.

Г а м л е т

Мне да рукі; якраз. А даўжыня
У іх адна?

О з р ы к

Аднолькавая, прынц.

Рыхтуюцца да паядынку.

К а р о л ь

Віно на стол пастаўце. Калі Гамлет
Яго кране адзін раз і другі,
Альбо на трэцім разе адаб'ецца,
Давайце гучны залп з усіх гармат;
Кароль за Гамлета падыме кубак
І кіне ў кубак неацэнны жэмчуг,
Каштоўнейшы, чым той, які насілі
Чатыры дацкіх каралі. Віна!
І хай літаўры знак даюць фанфарам,
Фанфары кананірам на байніцах,
І гром з зямлі уторыць грому з неба,
Што п'е за Гамлета кароль. Пачніце.
А вы уважна прымячайце, суддзі.

Г а м л е т

Пачнем.

Л а э р т

Пачнем, мой прынц.

Б'юцца.

Гамлет

Раз.

Лаэрт

Не.

Гамлет

На суд.

Озрык

Удар, удар выразны.

Лаэрт

Добра,— зноў.

Кароль

Чакайце, вып'ем. Гамлет, жэмчуг — твой.
Здаровы будзь!

Трубныя гукі і стрэлы з гармат за сцэнаї.

Нясіце кубак прынцу.

Гамлет

Пастаўце. Потым. Трэба перш закончыць.
Пачнем.

Б'юцца.

Ізноў удар. Што, мо няпраўда?

Лаэрт

Так, так, крануты; прызнаю.

К а р о л ь

Наш сын напэўна выйграе.

К а р а л е в а

Ён цяжкі,
І задыхаецца.— Хадзі сюды,
Вось хусгачка,— утрыся, Гамлет. П'е
За поспех сына каралева.

Г а м л е т

Дзякуй.

К а р о л ь

Не пі, Гертруда!

К а р а л е в а

Выбачай, мой друг,
Я вып'ю.

К а р о л ь *(убок)*

У келіху атрута. Позна, позна.

Г а м л е т

Цяпер яшчэ не буду піць, пасля.

К а р а л е в а

Хадзі сюды, я абатру твой лоб.

Л а э р т

А зараз я крану яго.

К а р о л ь

Наўрад.

Л а э р т *(убок)*

Нядобра на душы, сумленне мучыць.

Г а м л е т

Давай у трэці раз, Лаэрт; без жартаў;
Будзь ласкаў, выпадай з усёю сілай,
Не трэба шкадаваць мяне, не трэба.

Л а э р т

Вы так гаворыце? Пачнем.

Б'юцца.

О з р ы к

Абодва ўнічыю.

Л а э р т

Гэй, сцеражыся!

Лаэрт раніць Гамлета; пасля, у разгары бою, яны мяняюцца рапірамі, і Гамлет раніць Лаэрта.

К а р о л ь

Яны забыліся. Разняць.

Г а м л е т

О не,
Давай яшчэ.

Каралева падае.

О з р ы к

Ой, гляньце,— каралева!

Гарацыо

Яны ў крыві. Што з вамі, любы прынц?

Озрык

Лаэрт, і вы, што гэта значыць?

Лаэрт

Озрык,
Улез кулік сам у сваё сіло.
Я паміраю за маю нявернасць.

Гамлет

Што з каралевай?

Кароль

Яна самлела, гледзячы на кроў.

Каралева

Не, не, пітво, пітво.— Сынок мой родны,
Мяне атрутай напаілі... О!

Памірае.

Гамлет

Злачынства! Гэй! Замкніце дзверы! Здрада!
Шукайце, дзе яна!

Лаэрт падае.

Лаэрт

Яна тут, Гамлет. Гамлет, ты забіты,
Ніхто нічым не вылечыць цябе,
І паўгадзіны ты не пражывеш;

Мая рапіра у тваёй руцэ,
Атручаная, вострая; за грэх
За свой я заплаціў; глядзі,
Вось я ляжу і больш не ўстану; маці
Твая не ўстане больш; я не магу...
Кароль... кароль падстроіў.

Гамлет

А! І тут?
Дык давяршай, атручанае джала!

Коле караля.

Усе

Здрада! Здрада!

Кароль

Я толькі ранены. Сябры, ратуйце!

Гамлет

Дык вось табе,
Забойца, блудадзей, кароль пракляты!
Пітво тваё! І жэмчуг твой! Напіся!
Ідзі за маткай.

Кароль памірае.

Лаэрт

Кара па заслугах;
Ён сам складаў атруту. Чэсны Гамлет,
Даруй жа мне, як я табе дарую.
Хай кроў мая і бацькава не пляміць
Тваёй душы, як і маёй — твая.

Памірае.

Гамлет

Няхай табе прабачыць неба. Следам
Іду і я. Гарацыо, я гіну.—
Бывай, няшчасная царыца! — Вы,
Збялелыя і ўзрушаныя сведкі
Падзей трагічных, о, каб я меў час
(Бязлітасная смерць хапае хутка),
Я расказаў бы вам. Але ўсё роўна,—
Гарацыо, я гіну, ты жывеш.
Дык раскажы ўсю праўду пра мяне
Тым, хто не ведае.

Гарацыо

Ніколі;
Я рымлянін душой, а не датчанін;
Яшчэ не ўсё дапіта.

Гамлет

Мужным будзь,
Дай кубак мне; пусці; я так хачу.
О друг, якая раненая слава,
Калі ты змоўчыш, ляжа на мяне!
Калі мяне любіў ты, ухіліся
Часова ад збавення, пагаруй
На свеце жорсткім, каб вядомай стала
Мая гісторыя.

Далёкі марш і стрэлы за сцэнай.

Што там за стрэлы?

Озрык

Прынц Фарцінбрас нарвежскі з перамогай
Вярнуўся з Польшчы, аддае салют
Англійскаму пасольству.

Гамлет

Гарацыо, я паміраю.
Магутная атрута цісне дух.
Не прыйдзецца мне чуць навін англійскіх,
Але кажу наперад,— каралём
Абраны будзе Фарцінбрас. Яму —
Перадсмяротны голас мой. Скажы
Яму аб гэтым; выяві прычыны
Усіх здарэнняў. Цішыня — канец.

Памірае.

Гарацыо

Пагас вялікі сэрцам. Спі, мой прынц,
Адпачывай сярод мелодый райскіх.
Хто там ідзе пад барабан?

Марш за сцэнай.
Уваходзяць Фарцінбрас і англійскія паслы, з барабанным боем, са сцягамі і з дружынай.

Фарцінбрас

Дзе гэтае відовішча?

Гарацыо

Чаго
Шукаюць вочы вашы? Калі дзіва,
Тугі і болю, стойце,— вы знайшлі.

Фарцінбрас

Якая жудасная бойня! Смерць,
Што за банкет у сутарэнні вечным

Спраўляеш, гордая, пасекшы столькі
Князёў зямлі?

Першы пасол

О, страшная карціна!
Спазнілася англійскае пасольства;
Нас не пачуе той, каму прыйшлі мы
Паведаміць, што выканан загад,
Што Разенкранц і Гільдэнстэрн — забіты.
Хто выкажа падзяку нам?

Гарацыо

Не ён,
Хоць бы і мог ён дзякаваць; ніколі
Ён не загадваў пакараць іх смерцю.
Але паколькі на крывавы суд
Вам з Англіі, вам з Польшчы давялося
Якраз паспець, хай на памост высокі
Нябожчыкаў паложаць на віду;
Я раскажу усім, хто хоча ведаць,
Як гэта адбылося; гэта будзе
Аповесць аб забойчых, зверскіх справах,
Аб карах суджаных і выпадковых,
Аб помстах, гвалтах, хітрасцях, аб тым,
Як абваліўся гмах нялюдскай здрады
На тых, хто збудаваў яго. Хай праўда
Аб'явіцца.

Фарцінбрас

Паслухаем; сабраць
На сход усіх магнатаў. Засмучоны,

Я сустракаю свой шчаслівы лёс;
Я маю права на дзяржаву гэту,
Аб чым і абвяшчаю ўсенародна.

Гарацыо

Мне і аб гэтым прыйдзецца сказаць
Таксама; ад імя таго, чый голас
Прывабіць многіх. Злосць бушуе ў людзях;
Прыступім зараз жа, каб не было
Памылак, змоў і новае бяды.

Фарцінбрас

Хай Гамлета выносяць на памост,
Як змагара, чатыры капітаны;
Напэўна, калі б ён быў каралём,
Ён даў бы прыклады вялікіх спраў;
Хай музыка і воінскі абрад
Яго суправаджаюць урачыста.
Бярыце трупы; тут не месца ім;
Лепш паміраць на полі баявым.
Загадваю страляць.

Жалобны марш.
Выходзяць, выносячы нябожчыкаў, пасля чаго даецца залп з гармат.



# ЗАЎВАГІ

## АКТ І

*Стар. 6.* Эльсінор — дацкі горад на востраве Зеландыя, у 38 кіламетрах ад Капенгагена. У 1574—1583 гг. каралём Фрыдрыхам II у Эльсіноры на ўзбярэжжы мора быў пабудаваны замак Кронбарг, у якім і адбываюцца падзеі трагедыі. У 1585 і 1586 гг. у Эльсіноры выступала трупа англійскіх акцёраў, трое з іх — Вільям Кемп, Джордж Брайен і Томас Поп — праз некалькі год пасля падарожжа ў Данію працавалі ў адной трупе з Шэкспірам. Магчыма, весткі аб Эльсіноры і дацкіх звычаях Шэкспір атрымаў ад англійскіх акцёраў.

*Стар. 10.* Імя «Гарацыо», як і ў арыгінале, вымаўляецца поўнасцю альбо скарочана — «Гарац'ё», у залежнасці ад рытмічнай структуры верша.

*Стар. 14.* Нарвежац — нарвежскі кароль. Паляк — польскі кароль. Таксама далей *(стар. 42)* — Датчанін — дацкі кароль.

*Стар. 15.* Кароль нарвежскі Фарцінбрас, бацька прынца Фарцінбраса, быў забіты каралём дацкім Гамлетам, бацькам прынца Гамлета. Імёны бацькоў і сыноў аднолькавыя. Фарцінбрас азначае «моцнарукі».

*Стар. 16.* Юлій Цэзар — вядомы рымскі палкаводзец, палітычны дзеяч і пісьменнік, жыў у I веку да нашай эры.

*Стар. 16.* Нептун — бог мора. Нептунава дзяржава — мора. Месяц кіруе марскімі прылівамі і адлівамі.

*Стар. 17.* Алебарда — кап'ё з шырокім лязом у выглядзе сякеры.

*Стар. 24.* Вітэнберг — нямецкі горад, шырока вядомы ў XVI стагоддзі, быў адным з асяродкаў гуманістычнай мыслі. У Вітэнбергу жыў вядомы рэфарматар Марцін Лютэр. Вітэнбергскі універсітэт быў заснаваны ў 1502 г. Вітэнберг — месца дзеі трагедыі «Доктар Фауст» Крыстофера Марлоу (выдатны англійскі драматург да Шэкспіра).

*Стар. 25.* Гіперыон — Геліій, Феб-Апалон. Гіперыон — адзін з грэчаскіх тытулаў бога сонца, азначае: «найвышэйшы».

*Стар. 25.* Сатыр — казланогая істота з чалавечаю галавою, персанаж з грэчаскай міфалогіі.

*Стар. 25.* Ніабея, Ніоба — міфічная жанчына, жонка Амфіёна, царыца фіванская. Разгневаўшыся на яе за непакорнасць, Апалон і Артэміда (богі) умярцвілі ўсіх яе дзяцей, і з вялікага гора Ніабея зрабілася скалою, раняючай слёзы. Вобраз Ніабеі — увасабленне матчынай тугі па страчаных дзецях.

*Стар. 48.* Лета — міфічная рака ў падземным царстве, пакупаўшыся ў якой людзі забываюць сваё мінулае.

*Стар. 49.* О дзікі жах! О жудасць, жудасць, жудасць! (O, horrible! O, horrible! most horrible! — гэтыя словы ў тэатральнай практыцы вымаўляе часам Гамлет.

*Стар. 50.* Таблічкі — дошчачкі, якія ў эпоху Шэкспіра замянялі запісную кніжку.

*Стар. 51.* Хіло, хо-хо! — так сакольнічыя клікалі сваіх сокалаў.

*Стар. 54.* Hic et ubique! *(лат.)* — і тут і ўсюды.

## АКТ II

*Стар. 72.* На яе выдатна белыя грудзі гэтыя.— Дамы ў эпоху Шэкспіра насілі на грудзях мяшочак, у які хавалі лісты.

*Стар. 79.* Фартуна — багіня лёсу, малявалася з павязкай на вачах, стоячы на адным коле (сімвал зменнасці).

*Стар. 80.* Што такое субстанцыя амбі-

цыі? — Шэкспір іранізуе над схаластычнай сістэмай мыслення.

*Стар. 84.* Ч а р а д а д з я ц е й — дзіцячая трупа, якая складалася з пеўчых каралеўскай капэлы, атрымала дазвол выступаць публічна і карысталася шумным поспехам у Лондане. Поспех гэтых дзяцей-харыстаў выклікаў пераймальнні, з'явілася яшчэ некалькі дзіцячых труп, і акцёрам-прафесіяналам, у тым ліку, як відаць і шэкспіраўскай трупе, прыходзілася выязджаць у правінцыю, каб знайсці гледача.

*Стар. 84.* Н а п а л о х а н ы я с к р ы п а м г у с і н ы х п е р 'я ў — напалоханыя крытыкай.

*Стар. 85.* З а х а п і л і Г е р к у л е с а р а з а м з г л о б у с а м.— На франтоне тэатра «Глобус», удзельнікам якога быў Шэкспір, стаяла фігура асілка Геркулеса з глобусам на спіне.

*Стар. 86.* М а ё а б ы х о д ж а н н е з к а м е д ы я н т а м і — з прыдворным грамадствам (у першую чаргу з каралём і каралевай).

*Стар. 87.* С ц э н п а д з е л ь н ы х і с ц э н н е п а д з е л ь н ы х.— Для п'ес, у якіх захоўваюцца тры адзінствы (часу, месца і дзеі), і для п'ес, у якіх яны не захоўваюцца.

*Стар. 87.* С е н е к а — рымскі драматург I веку нашай эры, аўтар трагедый. П л а ў т — рымскі драматург III—II вякоў да нашай эры, славуты аўтар камедый.

*Стар. 88.* І е ф а й, ізраільскі суддзя — біблейскі персанаж («Кніга суддзяў»), спачатку быў атаманам шайкі разбойнікаў, потым праславіўся, як ізраільскі патрыёт. Па просьбе ізраільскага народа стаў на чале апалчэння і выступіў супроць аманіцян, якіх разбіў. Існавала легенда, што перад паходам на аманіцян Іефай даў зарок, што ў выпадку перамогі ён прынясе ў ахвяру першае стварэнне, якое ўбачыць, вярнуўшыся. Адзіная дачка Іефая, якая вельмі любіла свайго бацьку, выйшла сустракаць яго за горад, і ён убачыў яе першую. Такім чынам Іефай павінен быў прынесці ў ахвяру сваю дачку. Гамлет цытуе старасвецкую англійскую баладу аб Іефаю, якая да нас не дайшла.

*Стар. 89.* М а я п а н н а ч к а, м а я п а н е н а ч к а! — Гамлет звяртаецца да мужчыны. У часы Шэкспіра жаночыя ролі выконваліся мужчынамі.

*Стар. 90.* Энеева апавяданне Дыдоне. — Апавяданне, у якім траянскі герой Эней расказвае карфагенскай царыцы Дыдоне аб гібелі горада Трої (па Віргілію, «Энеіда», песня II). Прыям — траянскі цар, муж Гекубы. Пір — сын Ахіла, адзін з грэчаскіх военачальнікаў. Грэкі праніклі ў Трою наступным спосабам: яны зрабілі і паставілі перад гарадскою брамай вялізнага драўлянага каня, у сярэдзіне напоўненага войскам. Траянцы, не падазраючы здрады, увезлі гэтага каня ў горад; грэкі вылезлі з каня і разграмілі Трою.

*Стар. 90.* Гірканскі звер — тыгр. Гірканія — вобласць у Персіі на паўднёвы ўсход ад Каспійскага мора (тады называлася Гірканскім морам).

*Стар. 91.* Іліён — Троя, горад у Малой Азіі, праслаўлены Гамерам у паэме «Іліяда».

*Стар. 91.* Цыклопы — міфічныя аднавокія волаты, што жывуць пад зямлёю альбо ў агнявых гарах, памочнікі бога-каваля Гефеста (Вулкана), і куюць там для Зеўса (Юпітэра) перуны і маланкі, а для багоў зброю. Марс — бог вайны.

## АКТ III

*Стар. 102.* Чытай, глядзі ў кнігу — у малітвеннік.

*Стар. 104.* Паднеслі мілае суквецце слоў — вершы на памяць.

*Стар. 109.* Партэр.— У тагачасных англійскіх тэатрах («Глобус», «Фартуна», «Лебедзь» ды інш.) існавалі тры разрады месц для гледачоў. Самыя танныя месцы знаходзіліся з трох бакоў сцэнічнай пляцоўкі і называліся партэрам, гэта былі стаячыя месцы на зямлі. Апроч партэра, існавалі ярусы (два), там сядзелі. Былі яшчэ і ляжачыя месцы на сцэне — для дваран і тэатралаў-аматараў.

*Стар. 109.* Тэрмагант — лютае сарацынскае бажаство, якое часта фігуравала ў старажытных песнях і тэатральных дзействах. Ірад — страшны тыран, герой сярэдневяковых англійскіх «міракляў» (царкоўных драм).

*Стар. 113.* Існавала павер'е, што хамелеон жыве без яды (глытае паветра).

*Стар. 113.* Вы калісьці ігралі ва ўніверсітэце.— Студэнты англійскіх універсітэтаў (у Аксфордзе і Кембрыджы) на каляды, альбо калі прыязджалі знатныя асобы, ставілі п'есы, пераважна на лацінскай мове.

*Стар. 114.* Я іграў Юлія Цэзара.— У 1582 г. у Аксфордскім універсітэце была пастаўлена лацінская п'еса «Epilogus Caesaris interfecti» («Смерць Цэзара»). Незадоўга да «Гамлета» сам Шэкспір напісаў трагедыю «Юлій Цэзар».

*Стар. 116.* Як таго каляднага каня.— У арыгінале — Hobby-horse, адна з фігур народнага тэатра: конская лялька, якую чапляў на сябе акцёр, ператвараючыся такім чынам у конніка. Пад уплывам пурытанскай пропаведзі (пурытане варожа адносіліся да тэатра) яна выйшла з ужытку, на што і намякае Гамлет.

*Стар. 116.* «Малечо» (malhecho) — слова іспанскае, азначае: «злачынства».

*Стар. 117.* Надпіс на пярсцёнку.— Гамлет мае на ўвазе звычай выразаць на пярсцёнку розныя кароткія выслоўі ў вершаванай форме.

*Стар. 122.* Хор — у англійскім тэатры асоба, якая тлумачыць падзеі п'есы. Тэрмін узяты з грэчаскай трагедыі, дзе хору адводзілася надзвычайна важнае месца.

*Стар. 122.* Геката — багіня, уладарка ночы і месяца.

*Стар. 123.* Ёсць такая навела.— Непасрэдная крыніца гэтай устаўной п'есы нам невядома. У 1538 г. герцаг Урбінскі, жанаты на адной з Ганзага, быў забіты Луіджы Ганзага, які ўліў яму атруту ў вуха.

*Стар. 124.* Куст пер'я на галаву — капялюш з пер'ямі, звычаійная прыналежнасць акцёрскага гарнітура.

*Стар. 124.* Дзве праванскія ружы на разразныя чаравікі — спражкі ў выглядзе чырвоных руж, часамі з сярэбраным лісцем.

*Стар. 124.* О мой Дамон.— Дамон і Фіцій — два верныя сябры (вобразы з антычнай літаратуры).

*Стар. 124.* Рыфма к слову «усё» будзе — «асёл».

*Стар. 127.* Клянуся гэтай парай хапуг і драпежнікаў.— Гамлет клянецца сваімі рукамі.

*Стар. 131.* Душа Нерона.— Нерон — рымскі імператар, які забіў сваю маці.

*Стар. 133.* На мне ляжыць старэйшае прак-

ляцце — забойства брата.— Першым забойцам на зямлі лічыўся Каін, сын Адама і Евы, які забіў свайго брата Авеля.

*Стар. 147.* Вось хто паскорыць зборы.— Гамлет паказвае на Палонія.

## АКТ IV

*Стар. 155.* Гоп, гоп, ліска! — Ганна блізка.— Словы з дзіцячай гульні.

*Стар. 166.* Мой мілы — пілігрым.— Адзенне пілігрыма нярэдка служыла маскаю для каханкаў. Капялюш упрыгожвалі ракавінкай.

*Стар. 167.* Сава была дачкою пекара.— Існавала народнае паданне пра дачку пекара, якую Хрыстос за яе скупасцьператварыў у саву.

*Стар. 167.* Валянцінаў дзень — 14 лютага, калі дзяўчаты і хлопцы гадаюць аб сваіх суджаных, шукаюць сабе «Валянціна» альбо «Валянціну». Часамі «Валянцінай» лічылася першая дзяўчына, якая сустракалася ў гэтую раніцу.

*Стар. 171.* Чаго ты ўзбунтаваўся, як гігант? — Паводле грэчаскіх міфаў, гіганты паўсталі супроць алімпійскіх багоў і ўздумалі штурмаваць неба.

*Стар. 173.* І, як самаахвярны пелікан, аддам ім кроў сваю.— Лічылі, што пелікан корміць сваіх дзяцей уласнай кроўю.

*Стар. 173.* Уваходзіць Афелія.— У некаторых выданнях «Гамлета» даецца наступная рэмарка: «Уваходзіць Афелія, убраная ў травы і ў кветкі».

*Стар. 174.* Вось размарын і г. д.— Афелія раздае кветкі, магчыма, уяўныя, неіснуючыя, згодна з іх сімвалічным значэннем. Размарын — верная памяць. Кроп (ліслівасць і фальш), а таксама казялец (здрада) яна дае каралю. Руту (раскаянне і сумныя ўспаміны) — каралеве. Стакротачкі — фальш. Фіялкі — вернасць.

## АКТ V

*Стар. 191.* Уваходзяць два блазны (two clowns — два клоуны).— У Шэкспіра не толькі ў камедыях, але і ў трагедыях блазны пападаюцца часта. Іх задача — па-

цяшаць публіку жартамі, каламбурамі, сваёй нязграбнасцю і г. д. Слова «clown» азначае: «селянін» (мужык). Селянін выводзіўся на сцэну яшчэ ў сярэдневяковых фарсах і інтэрмедыях, прычым, як правіла, у камічным выглядзе. Урэшце гэта дало вядомае тэатральнае, пазней цыркавое амплуа клоуна.

*Стар. 193.* Ён першы набыў сабе ўзбраенне.— У арыгінале ігра словам «arms», якое мае два значэнні: 1) герб, 2) рукі.

*Стар. 194.* Ёген — магчыма, імя ўласніка карчмы, суседняй з тэатрам «Глобус».

*Стар. 200.* Вось ужо трыццаць год.— У супастаўленні з папярэднім выходзіць, што Гамлету было трыццаць год.

*Стар. 202.* Аляксандр — Аляксандр Македонскі.

*Стар. 205.* Пеліён, Алімп і далей Осса — горы ў Грэцыі, якія гіганты, узбунтаваўшыся супроць багоў, ускінулі адна на адну, каб заўладаць небам.

*Стар. 211.* Убіўся клінам паміж абраннем і маёй надзеяй.— Гамлет пасля смерці свайго бацькі сам збіраўся быць каралём, але трон дастаўся дзядзьку.

*Стар. 216.* Шэсць берберыйскіх коней — г. зн. арабскіх. Берберыя — ранейшая назва паўночна-заходніх абласцей Афрыкі (Марока, Алжыр, Туніс і Трыпалі).

*Стар. 218.* Пабегла кнігаўка з яечкам на макаўцы.— Лічылася, што кнігаўка пачынае бегаць, ледзь вылупіўшыся з яйка. Насмешка над маладым Озрыкам, які корчыць з сябе сталага прыдворнага.

*Стар. 225.* Ён цяжкі і задыхаецца.— У арыгінале «He's fat and scant of breath». Некаторыя лічаць, што ўвядзенне Шэкспірам гэтых слоў у тэкст трагедыі тлумачыцца паўнатою акцёра Рычарда Бербэджа, першага выканаўцы ролі Гамлета ў тэатры «Глобус». Сам Шэкспір выконваў ролю здані бацькі Гамлета.

*Стар. 229.* Дай кубак мне; пусці; я так хачу.— У некаторых выданнях пасля гэтых слоў ёсць наступная рэмарка: «Яны змагаюцца, і Гамлет адбірае кубак».

*Стар. 230.* Цішыня — канец.— У арыгінале: «The rest is silence». Літаральны пераклад: «Астатняе — маўчанне».



*Шэкспір Вільям.*
Гамлет, прынц Дацкі. Трагедыя. Мінск, выдавецтва «Беларусь», 1964.
И(Англ)

На белорусском языке. *Вильям Шекспир.* Гамлет, принц Датский. Трагедия. Издательство «Беларусь» Государственного комитета Совета Министров Белорусской ССР по печати. Редакция художественной литературы. Минск, 1964.

Рэдактар *В. Нікіфаровіч.* Мастацкі рэдактар *М. Гуціеў.* Тэхнічны рэдактар. *Н. Сцяпанава.* Карэктары *Г. Славінская* і *Л. Баўдзей*

Здадзена ў набор 23/I 1964 г. Падп. да друку 26/II 1964 г. Тыраж 2500 экз. Фармат $70 \times 108^{1}/_{32}$. Фіз. друк. арк. 7,5. Ум. друк. арк. 10,5. Уч.-выд. арк. 7,27. Зак. 44. Цана 47 кап.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў Беларускай ССР па друку. Мінск, Чырвоная, 23.